*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

**Каардынатар кніжнай серыі “ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА”:**
Павал Мажэйка
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

**“Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны”** мае ўніверсальны характар і прыдатны да выкарыстання ў кожны год. Цягам дваццаці год аўтар збіраў і натаваў фіксаваныя даты адметных гістарычных падзей, дні нараджэння і смерці выбітных асобаў, якія лёсам былі звязаныя з Гарадзеншчынай.

Выданне адрасаванае краязнаўцам, настаўнікам, работнікам культурніцкіх установаў, сябрам грамадскіх арганізацый, усім, хто зацікаўлены гісторыяй роднага краю.

У разе заўвагаў, дадаткаў і прапановаў, просьба ліставаць аўтару-укладальніку праз электронную пошту belarushilm@gmail.com

**Аўтар-укладальнік** Уладзімір Хільмановіч

**Вокладка і падрыхтоўка да друку** Зміцер Гупянец

# 1 студзеня

**1467** – Нарадзіўся Жыгімонт І Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506-48 гг.

**1861** – У в. Лаша (сёньня Гарадзенскі р-н ) нарадзіўся Яўхім Карскі, філолаг-славіст, мовазнавец, літаратуразнавец, фальклярыст, этнограф, палеограф, археограф, бібліёграф, педагог, заснаваньнік навуковага беларусазнаўства.

**1888** – У в. Рабертава (Бабруйскі пав.) нарадзіўся Вацлаў Родзька, беларускі каталіцкі сьвятар. Працаваў у гарадзенскім фарным касьцёле, у 1920-28 служыў у Гальшанах (Ашмянскі р-н), з 1929 – у Старых Васілішках (Шчучынскі р-н), з 1937 – у Трабах (Івейскі р-н).

**1904** – У маёнтку Крыкалы (Пастаўскі р-н) нарадзіўся Мечыслаў Багаткевіч, каталіцкі рэлігійны дзеяч. Расстраляны гестапаўцамі, пазьней беатыфікаваны. Вучыўся ў Навагрудзкай духоўнай семінарыі.

**1920** – У мяст. Турэц (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Барыс Рагуля, дзеяч нацыянальнага руху ў 1940-ыя, кіраўнік Саюзу Беларускай Моладзі на Навагрудчыне, намесьнік прэзідэнта БЦР на Навагрудзкую акругу (1944). Пасьля вайны дзеяч эміграцыі (Бельгія, Канада), віцэ-прэзідэнт Рады БНР.

**1927** – У в. Лозкі (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Навагрудку, вязень савецкіх канцлягераў.

**1932** – У Смургонях нарадзіўся Часлаў Цыбоўскі, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях ў 1949-1950. Памёр у 1978 у польскім г. Дзержанюў, дзе і пахаваны.

# 2 студзеня

**1910** – У в. Малая Альшанка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Папуцэвіч (у эміграцыі Пануцэвіч), беларускі грамадзкі дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1928** – У в. Беражное (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Уладзімер Цьвірка (да 1945 Вадзім Сурко), дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Вялікабрытанія, Бельгія), журналіст.

**1946** – У Бутырскай турме (Масква) закатаваны Фабіян Абрантовіч, уніяцкі духоўнік, грамадзка-культурны дзеяч, філосаф, рэлігійны педагог. Нараджэнец Навагрудку (засьценку Вераскоўшчына).

**1950** – У Варшаве памёр Юзаф Ядкоўскі, польскі археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер, музеязнавец. Нараджэнец Гародні.

**1986** – Памёр Уладзімер Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (ЗША). Нараджэнец в. Клешнякі (Шчучынскі р-н).

## *3 студзеня*

**1908** – У Варшаве нарадзіўся Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Вялікабрытанія, Аўстралія). Выкладаў у 1930-ыя на настаўніцкіх курсах у Гародні.

**1916** – Нарадзіўся Алесь Ліпень, беларускі скульптар. Жыў у Гародні з 1950 г.

**1930** – У в. Дэгісі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Канстанцін Іваноўскі, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.

**1986** – Памерла Людміла Жамойціна (па мужу-Янкоўская), беларуская настаўніца, у 1939-41 працавала ў Лідзе, пасьля вайны ў эміграцыі (Польшча). Нараджэнка в. Клімавічы (Лідзкі р-н).

## *4 студзеня*

**1591** – Каралём Жыгімонтам III Слоніму наданы гарадзкі герб.

**1729** – У маёнтку Ясянец (Баранавіцкі р-н) нарадзіўся Яўхім Храптовіч, грамадзка-палітычны, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, магнат, публіцыст, паэт, перакладнік. Меў сядзібу ў Шчорсах.

**1917** – У в. Юшкі (Астравецкі р-н) нарадзіўся Віктар Ярмалковіч (пам. 15.12.1997-?), беларускі юрыст, гісторык, краязнавец, дзеяч БХД.

## *5 студзеня*

**1810** – Памёр Казімер Рагоўскі, тэолаг-езуіт, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, выкладаў у Наваградку.

**1892** – У в. Баброўнікі (Беласточчына) нарадзіўся Вацлаў Лукша, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1925 г. працаваў у Ваўкавыску, з 1931 у Гародні. Памёр у 1962 г.

## *6 студзеня*

**1610** – Памёр Андрэй Волан (нар. у 1530 у маёнтку Біюцішкі, Ашмянскі р-н), беларускі грамадзкі дзеяч, філосаф, правазнавец, пісьменьнік. Пахаваны ў Біюцішках.

**1862** – У Парэччы (Гарадзенскі р-н) была адчынена першая на тэрыторыі сучаснай Беларусі чыгуначная станцыя.

**1892** – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Адам Станкевіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, асьветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст.

**1914** – У Віцебску нарадзіўся Тодар Лебяда (сапр. Шырокаў, пам. у пач. 1970 у Разанскай вобл., пахаваны ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага р-ну, Расея), беларускі літаратар, дысідэнт, вязень ГУЛАГу. У 1960-61 жыў і працаваў у Слоніме.

## 7 студзеня

**Каляды (Раство Хрыстова)** па юльянскім праваслаўным календары.

**1925** – У Варшаве памёр Марыян Абрамовіч, рэвалюцыянер-народнік, публіцыст, дзеяч культуры. Вывучаў на Наваградчыне беларускую мову.

## 8 студзеня

**1894** – У г. Здунска Воля (Польшча) нарадзіўся Максіміліян Кольбэ, рымска-каталіцкі дзеяч, Сьвяты каталіцкай царквы. У 1922-27 служыў у Гарадзенскім кляштары францішканцаў.

**1980** – У Беластоку памёр Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадска-культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-ых жыў і дзеіў у Слоніме.

**1997** – У Кліўлендзе (штат Агаё, ЗША) памерла Іна Каханоўская (дзявочае Рытар), беларуская грамадзкая дзяячка, эмігрантка (ЗША). У час нямецкай акупацыі працавала настаўніцай у Ярэмічах (Карэліцкі р-н).

## 9 студзеня

**1616** – У Наваградку прайшоў публічны дыспут езуітаў з пратэстантамі.

**1747** – Памёр Ігнат Кульчынскі (нар. у 1707 у Гародні), уніяцкі царкоўны дзеяч, гісторык.

**1801** – У Вялікай Бераставіцы нарадзіўся Восіп Кавалеўскі, гісторык, філамат, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства.

**1902** – У в. Збляны (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Антон Жэбрак, беларускі генетык, селекцыянер, грамадзкі дзеяч.

## 10 студзеня

**1800** – У м. Кулігоўшчына (Кобрыньскі р-н) нарадзіўся Адам Сузін, удзельнік вызвольнага руху, падарожнік. У 1819 скончыў Гарадзенскую гімназію.

**1897** – У мяст. Поразава (Сьвіслацкі р-н) нарадзілася Юлія Бібіла, беларуская бібліёграфка, майстарка мастацкага ткацтва.

**1906** – У Іркуцку (Расея) памёр Цэлястын Цэханоўскі (нар. у 1835 у маёнт. Горлава, Дрыбінскі р-н), лекар, паўстанцкі грамадзянскі кіраўнік Гародні ў паўстаньні 1863 году.

**2004** – У Паўладары (Казахстан) памёр Алесь Усюкевіч (нар. у лютым 1925 у в. Хадасы, Навагрудзкі р-н), беларускі настаўнік, адзін з кіраўнікоў Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Навагрудку, вязень савецкіх турмаў.

# 11 студзеня

**1864** – У Вільні расстраляны Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Нараджэнец фальв. Кункулка (Лідзкі пав.).

**1980** – Памёр Антон Ус, беларускі і расейскі грамадзка-культурны дзеяч. Нараджэнец в. Мішуковічы (Івейскі р-н).

**2011** – У штаце Нью-Ёрк (ЗША) памёр Уладзімір Набагез (нар. у 1919), дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША). Нараджэнец в. Сялец (Наваградскі р-н).

# 12 студзеня

**1903** – У в. Каўшова (Мастоўскі р-н) нарадзілася Любоў Мазалеўская, беларуская артыстка, рэжысёрка, педагог.

**2004** – У Лідзе памёр Аляксей Логвін, адзін з стваральнікаў моладзевай падпольнай антысталінскай арганізацыі, вязень ГУЛАГу. Нараджэнец в. Збляны (Лідзкі р-н).

# 13 студзеня

**1706** – Пачалася двухмесяцавая аблога шведскім войскам Гародні, у выніку яе расейскі гарнізон адступіў, а шведы занялі горад.

# 14 студзеня

**1894** – У мяст. Трабы (Івейскі р-н) нарадзіўся Пётр Юргялевіч, беларускі мовазнавец, педагог, вязень савецкіх канцлягероў.

**1916** – У засьценку Амбружын (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Уладзіслаў Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, перакладнік літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**1980** – Памёр Пятрусь Граніт (сапр. Іван Івашэвіч), беларускі паэт, педагог. Пахаваны на радзіме ў в. Зачэпічы (Дзятлаўскі р-н).

# 15 студзеня

**1742** – Нарадзіўся (Вількамірскі пав.) Францішак Нарвойш, асьветнік, багаслоў, філосаф, матэматык. Жыў і працаваў у Гародні.

**1885** – У Варшаве памёр Антон Адынец, паэт, філамат, перакладнік, выдавец. Нараджэнец Гяйстунаў (Ашмянскі р-н).

**1926** – У Заходняй Беларусі выйшаў першы нумар сатырычнага часопісу “Маланка” (выдаваўся ў Вільні да 26 сьнеж. 1928, выйшлі 43 нумары).

**1927** – Памёр Давыд Яноўскі, адзін з мацнейшых шахматыстаў сьвету канца 19-пач. 20 ст. Нараджэнец Ваўкавыску, з 23 гадоў жыў у Францыі і ЗША.

**1940** – Увядзеньне новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу на далучанай да СССР тэрыторыі Заходняй Беларусі.

**1968** – У Слоніме памёр Язэп Стаброўскі, беларускі археолаг, краязнавец. Нараджэнец маёнтку Крупляны (Навагрудзкі р-н).

**1985** – У Гародні адчынены рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі (зь верас. 1989 – Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі).

## 16 студзеня

**1826** – У в. Шастакова (Камянецкі р-н) нарадзіўся Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году. Вучыўся ў Сьвіслацкай гімназіі.

**1919** – У Гародні арганізаваны беларускі клуб “Наша хатка”.

**2000** – У Гародні адбылася агульнабеларуская сустрэча ветэранаў нацыянальна-вызвольнага руху – вязьняў сталінскіх канцлягероў.

## 17 студзеня

**1732** – У маёнтку Воўчын (Камянецкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764-95 гг. У Гародні меў рэзідэнцыі – Панямонь, Станіславова, Аўгустовак.

**1921** – У Сяньне памёр Андрэй Зязюля (сапр. Аляксандар Астрамовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт. Нараджэнец в. Навасады (Ашмянскі р-н).

## 18 студзеня

**1884** – У в. Каранды (Смургонскі р-н) нарадзіўся Адам Лісоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар.

## 19 студзеня

**1944** – Каля Беластоку польскімі падпольнікамі жорстка закатаваны Мікола Чарнецкі, беларускі публіцыст, педагог, грамадзкі дзеяч. Нараджэнец в. Малыя Азяранкі (Ваўкавыскі р-н).

**2001** – У Гейнсвіле (штат Фларыда, ЗША) памёр Ян Пятроўскі, рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстрыя, ЗША). Працаваў пастарам у Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н).

**2013** – У Гародні загінуў Юры Гумянюк, беларускі літаратар, паэт, журналіст. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў.

## *20 студзеня*

**1891** – У в. Дуляўцы (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Фабіян Ярэміч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч.

**1892** – У засьценку Мацюлішкі (Віленскі пав., цяпер Летува) нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч, беларускі грамадзка-палітычны і асьветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладнік, літаратуразнавец. Часта бываў у Гародні, быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму з 1927 па 1930.

**1892** – У в. Шакуны (Пружанскі р-н) нарадзіўся Рыгор Шырма, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фальклярыст, публіцыст. Пэўны час жыў у Гародні.

**1905** – У Слуцку нарадзіўся (паводле інш. зьв. 25 студз.) Ян Пятроўскі, рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстрыя, ЗША). Працаваў пастарам у Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н).

**1955** – У Гданьску памёр Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі грамадзкі і рэлігійны дзеяч. Пахаваны на гданьскіх могілках. Нараджэнец Слоніму.

**2005** – Памёр Ян Новак-Езяранскі (паходзіў з Гарадзеншчыны), польскі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, які спрыяў беларускаму нацыянальнаму руху.

## *21 студзеня*

**1818** – У в. Сьльвіна (цяпер Манастыршчынскі р-н, Смаленская вобл.) нарадзіўся Адам Кіркор, гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, грамадзкі дзеяч.

## *22 студзеня*

**1863** – Пачалося нацыянальна-вызвольнае паўстаньне.

**1890** – У в. Дзедзіна (Мёрскі р-н) нарадзіўся Ільдафонс Бобіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, выдавец. З 1923 працаваў пробашчам у Германавічах, у 1930-44 –у Іўі. Пахаваны ў Іўі, каля касьцёлу.

## *23 студзеня*

**1889** – У Чылі памёр Ігнат Дамэйка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі. Нараджэнец маёнтку Мядзьведка (Карэліцкі р-н). З 1884 па 1888 жыў у маёнтку Жыбартоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

**1981** – Памерла Вера Матэйчук-Маслоўская (нар. у в. Ага-

роднікі Беластоцкага пав., 23.3.1896 ці 11.3.1898-23.1.1981), беларуская настаўніца, грамадзкая дзяячка. Вучылася ў Сьвіслачы.

**1991** – Памерла Алеся Чабатар (дзявоч. Бушма, нар. у 1910 у в. Дзяляцічы, Наваградзкі р-н), дзеячка беларускай эміграцыі (Аўстралія).

## 24 студзеня

**1797** – У мяст. Дзярэчын (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філолаг, калекцыянер, краязнавец.

**1810** – У в. Гаўя (Івейскі р-н) нарадзіўся Уладзіслаў Брахоцкі, грамадзкі дзеяч, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1827** – У фальв. Кункулка (Лідзкі пав.) нарадзіўся Аляксандар Далеўскі, адзін з стваральнікаў Братняга зьвязу літоўскай моладзі, удзельнік вызвольнага руху.

**1904** – У в. Шутавічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Янка Шутовіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец, вязень савецкіх канцлягероў.

**1909** – У в. Зачэпічы (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Пятрусь Граніт (сапр. Іван Івашэвіч), беларускі паэт, педагог. Вучыўся ў Бяліцы (Лідзкі р-н).

## 25 студзеня

**1804** – У в. Гяйстуны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Антон Адынец, паэт, філамат, перакладнік, выдавец.

**1890** – У в. Нясутычы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Стагановіч, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, удзельнік БНС, эмігрант (Нямеччына, ЗША).

**1938** – У Празе памёр Тамаш Грыб, беларускі грамадзка-палітычны і культурны дзеяч. Нараджэнец в. Паляны (Смургонскі р-н).

**1944** – У Слоніме памёр Антон Карніцкі, беларускі мастак. Пахаваны ў Слоніме.

## 26 студзеня

**1907** – У в. Грэлікі (Вялейскі р-н) нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, праваслаўны сьвятар, рэлігійна-грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (ЗША). У 1934-35 працаваў у Ашмянах.

**1918** – У Львове памёр Антон Баранцэвіч (нар. каля 1837 у в. Кірклішкі, Ашмянскі р-н), вайсковец, палявы камандзір у паўстаньні 1863-64, мемуарыст.

**1990** – Беларуская мова Вярхоўным Саветам БССР была абвешчана ў Беларусі адзінай дзяржаўнай.

**2006** – У Гародні памёр Павал Жук, вязень ГУЛАГу, удзельнік Нарыльскага паўстаньня, стваранньнік Гарадзенскай абласной Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

## 27 студзеня

**1886** – Нарадзіўся Васіль Дружчыц (Друшчыц), беларускі гісторык, педагог. Вучыўся ў Жыровічах.

**1890** – У в. Вераскава (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Філарэт Родзька, беларускі настаўнік, быў у войску Булак-Балаховіча, дзеяч эміграцыі (ЗША). Працаваў у Вераскаве і Навагрудку.

**1927** – Памёр Юры Матулевіч (Матулайціс), рымска-каталіцкі рэлігійны дзеяч Заходняй Беларусі і Летувы, блаславёны.

**2003** – Памёр Леанід Побаль, беларускі археолаг. Нараджэнец в. Мікалаева (Івейскі р-н).

## 28 студзеня

**1588** – Зацьверджаны III Статут ВКЛ.

**1597** – Памёр Мікалай Дарагастайскі (нар. каля 1530), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Меў друкарню ў Мураванай Ашмяне (Ашмянскі р-н).

**1712** – У Дзятлаве нарадзіўся Ульрык Крыштап Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменьнік.

**1777** – Памёр Антоні Скарульскі, рэктар Наваградзкага езуіцкага калегіюму ў 1760-64.

**1922** – У в. Клімавічы (Лідзкі р-н) нарадзіўся Янка Жамойцін, беларускі грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзеяч беларускай эміграцыі (Польшча).

**1982** – Памерла Алена Лябецкая, дзяячка ТБШ. Нараджэнка хутара Лагуцева (Дзятлаўскі р-н).

**1995** – У Англіі ў Лонданскім хосьпісе Сьвятога Крыстофера памёр Мар'ян Богуш-Шышка, беларуска-польскі мастак, педагог. Нараджэнец в. Трокенікі (Астравецкі р-н).

**2011** – У ЗША памёр Барыс Данілюк, дзеяч СБМ, беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец в. Старыя Дзевяткавічы (Слонімскі р-н).

## 29 студзеня

**1884** – У Шаўлях (цяпер Летува) нарадзіўся Антон Луцкевіч (ці 30-га студз.), беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, старшыня ўраду БНР. Пэўны час жыў у Гародні, калі там працавала рада БНР.

## 30 студзеня

**1667** – Заключэньне Андрусаўскага перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй. Канец вайны 1654-1667 гг.

# *31 студзеня*

**1833** – Нарадзіўся Станіслаў Сільвестровіч (пам. у 1910), удзельнік паўстаньня 1863-64 з Гожы (Гарадзенскі р-н).

**1913** – У Гародні выйшаў альманах вучнёўскай беларускай моладзі “Колас беларускай нівы”.

**1913** – Памёр Баляслаў Русецкі, мастак, які працаваў на Беларусі. Пэўны час жыў у Гародні, зрабіў шэраг размалёвак у гарадзенскіх касьцёлах, алтарную карціну “Сьвяты Казімір” у гарадзенскай фары.

**2005** – У Пінску памёр Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Наваградку, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Лозкі (Наваградзкі р-н).

# 1 лютага

**1717** – “Нямы сойм” практычна пагадзіўся на пратэктарат Расеі над Рэччу Паспалітай.

**1863** – Літоўскі правінцыйны камітэт (утвораны летам 1862) абвесьціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі, на тэрыторыі Гарадзенскай губерні пачынаюцца ўзброеныя дзеяньні паўстанцаў.

**1874** – У мяст. Луна (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Кастусь Бялецкі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч.

# 2 лютага

**Сусьветны** дзень водна-балотных нетраў.

**1348** – У бітве з крыжакамі загінуў Нарымонт (нар. каля 1294), князь ВКЛ, другі сын Гедыміна. Перамога войск ВКЛ над крыжакамі на рацэ Стрэва (прыток Нёмана).

**1589** – Кароль Жыгімонт III пацьвердзіў Гародні ўсе прывілеі.

**1746** – Памёр Мікалай Фаўстын Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ. Нараджэнец Дзятлава.

**1861** – Памёр Міхал Гамаліцкі, беларускі лекар, педагог, гісторык. Пахаваны ў Вільні. Вучыўся ў Жыровічах.

**1838** – У в. Мастаўляны (Беласточчына) нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, нацыянальна-вызвольны дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году. Вучыўся ў Сьвіслачы, жыў у фальварку Якушоўка.

**1919** – У Гародні выйшаў першы нумар газэты “Беларускі народ”, выдаванай Міністэрствам беларускіх спраў.

**1932** – У мяст. Скідаль (Гарадзенскі р-н) нарадзілася Людміла Махнюк (дзявочае Каліноўская), дзеячка беларускага культурніцкага руху ў эміграцыі (ЗША).

**1968** – Адкрыўся літаратурна-этнаграфічны музей у Гудзевічах (Мастоўскі р-н). Стваральнік – Алесь Белакоз.

**2006** – Памёр Пётр Марціноўскі, беларускі педагог, краязнавец, літаратуразнавец, кіраўнік Зэльвенскага літаратурнага аб’яднаньня. Нараджэнец в. Катчыно (Мастоўскі р-н).

# 3 лютага

**1964** – Памёр Станіслаў Станкевіч (нар. у 1886 у в. Арляняты, Смургонскі р-н), беларускі паэт, кнігавыдавец.

# 4 лютага

**1711** – У в. Ціхомль (Валынскае ваяв.) нарадзіўся Юзаф Ябланоўскі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, гісторык, мецэнат,

ваявода навагрaдзкі ў 1755-73, аднавіў Навагрaдзкі замак.

**1894** – У фальв. Крыстынопаль (Смургонскі р-н) памёр Адам Гурыновіч, беларускі паэт, фалькляpыст.

**1950** – Памёр Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец. Нараджэнец в. Асташына (Навагрaдзкі р-н).

**1957** – Памёр Бpаніслаў Ямант, мастак, педагог. Нараджэнец в. Дакудава (Лідзкі р-н).

## 5 лютага

**1637** – У Вільні памёр Язэп Вельямін Руцкі (нар. у 1573 ці 1574 у в. Рутка, Навагрaдзкі р-н), царкоўна-палітычны дзеяч, уніяцкі мітрапаліт, пісьменьнік-палеміст. Пахаваны ў віленскім Сьвятатраецкім манастыры.

## 6 лютага

**1921** – Выйшаў дэкрэт, які надаў беларускай, габрэйскай (ідыш), польскай і расейскай мовам статус дзяржаўных у БССР.

## 7 лютага

**1546** – У Ляхавічах (Берасьцейская вобл.) нарадзіўся Фёдар Еўлашоўскі (пам. у 1-й пал. 1619), грамадзскі дзеяч, пісьменьнік. Жыў у Навагрaдку.

**1891** – Памёр Вінцэнт Каратынскі, беларуска-польскі паэт, публіцыст, перакладнік. Нараджэнец в. Селішча (Карэліцкі р-н).

## 8 лютага

**1887** – У Гародні нарадзіўся Уладзіслаў Талочка, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзеяч, культуролаг, гісторык, літаратуразнавец.

**1891** – У в. Слабада (Віленскі пав.) нарадзіўся Каспар Валадкевіч (пам. у 1970), беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. У 1929-33 служыў ксяндзом у Малой Бераставіцы, з 1934 – пробашч у Квасоўцы (Гарадзенскі раён), перад вайной у Анжадаве (Ашмянскі р-н).

**1893** – У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі сьвятар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

**1906** – У в. Прытычына (Дзісьненскі пав.) нарадзіўся Кастусь Глінскі, юрыст, вязень савецкага канцлягеру, ваяваў у Арміі Андэрса, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). У 1930-ых працаваў суддзём у Ашмяне.

**1909** – Памёр Мечыслаў Карловіч, кампазітар, дырыжор, сын мовазнаўца і этнографа Яна Карловіча. Нараджэнец в. Вішнева (Смургонскі р-н).

**1914** – У Баранавічах нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходнебеларускага руху. У 1920-21 з бацькамі жыў у Зэльве, вучыўся ў Вялікай Кракотцы і Слоніме, працаваў у Лідзе.

**1991** – Беларускімі татарамі, якія пражываюць на Гарадзеншчыне, створана грамадска-культурнае таварыства "Кітаб".

## 9 лютага

**1867** – Памёр Караль Нямцэвіч (нар. у 1797), удзельнік паўстання 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**1999** – У в. Валеўка (Навагрудзкі р-н) памёр Уладзімір Урбановіч, беларускі краязнавец, педагог, культуролаг. Пахаваны ў Валеўцы.

## 10 лютага

**1452** – Памёр Сьвідрыгайла (нар. каля 1370), вялікі князь ВКЛ у 1430-32 гг.

**1909** – Памёр Эдвард Паўловіч, мастак, асьветнік, удзельнік паўстаньня 1863-64, мемуарыст. Вучыўся ў Жыровічах і Слоніме.

**1980** – Памёр Браніслаў Ржэўскі, беларускі літаратуразнавец, педагог, дысідэнт, палітычны вязень. Пахаваны ў Гародні.

**1994** – У Гародні пасьля зьбіцьця невядомымі памёр Антон Сьцяпура, дзеяч беларускага руху, сябра БНФ. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў.

## 11 лютага

**1807** – У в. Варацэвічы (Іванаўскі р-н) нарадзіўся Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстаньня 1830-31. У 1823 г. скончыў Сьвіслацкую гімназію.

**1940** – Быў адчынены Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласьці.

**1952** – У савецкім канцлягеры памёр Андрэй Цікота (паводле інш. зьв. 13 ці 21 лют.), беларускі рэлігійны і грамадзка-культурны дзеяч, генерал ордэну марыянаў. Нараджэнец хутару Плавушка (Смургонскі р-н).

**1952** – У Віцебску нарадзіўся Мікола Лук'янаў, беларускі мастак. Жыў і працаваў у Гародні.

**1979** – У Нью-Ёрку памёр Мікола Гарошка, дзеяч эміграцыі (ЗША), першы старшыня БАЗА. Нараджэнец в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н).

## 12 лютага

**1798** – У Пецярбургу памёр Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764-95 гг. Пахаваны ў касьцёле Сьв. Кацярыны на Неўскім прасьпекце. У крас. 1938 парэшткі перапахаваны ў касьцёле ў Воўчыне (Ка-

мянецкі р-н). Меў рэзідэнцыі ў Гародні.

**1799** – У Наваградку ў Фарным касьцёле ахрышчаны Адам Міцкевіч.

**1921** – Памёр Рудольф Абіхт, нямецкі вучоны-славіст. У 1917-18 выкладаў у Сьвіслацкай настаўніцкай семінарыі беларускую мову.

## 13 лютага

**1570** – Гарадзенскі магістрат зацьвярджае статут аб'яднанага цэху кавалёў, кацельнікаў, мечнікаў і сьлясароў.

**1806** – У Слоніме нарадзіўся Юльян Корсак, паэт, перакладнік.

**1903** – У в. Вострава (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Серафім Татарын, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ.

**1906** – У мяст. Гальшаны нарадзіўся Уладзімер Фінькоўскі (час і месца сьмерці невядомыя, пасьля 1960-га), дзеяч праваслаўнай царквы ў Беларусі і на эміграцыі (Нямеччына, Францыя, ЗША).

**1919** (ці 13 сак.) – Памёр Аляксандар Грыкоўскі (нар. у 1893 у в. Корніна, Беласточчына), беларускі грамадзкі дзеяч, педагог. У 1916 скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую гімназію, жыў і працаваў у Гародні.

**1968** – Нарадзіўся Антось Савук, беларускі краязнавец, публіцыст. Жыў і працаваў у Лідзе.

**1974** – У Будславе (Мядзельскі р-н) памерла Паўліна Мядзёлка, акторка, дзяячка беларускай культуры. Часта бывала ў Гародні. Пахавана ў Будславе.

**1984** – У Інавроцлаве (Польшча) памёр Язэп Найдзюк (Александровіч), дзеяч заходнебеларускага вызвольнага руху, выдавец, гісторык. Нараджэнец в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н).

## 14 лютага

**1937** – У в. Вялікая Лябёдка (Шчучынскі р-н) памёр Напалеон Чарноцкі, беларускі публіцыст, перакладнік.

## 15 лютага

**1863** – У баі каля в. Рэчыца (Пружанскі пав.) загінуў Станіслаў Сангін (нар. каля 1818), адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Працаваў на Гарадзеншчыне.

**1926** – Нарадзіўся (на Слонімшчыне) Мікола Ягаўдзік, беларускі вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША).

**1958** – У ЗША памёр Язэп Рэшаць, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзяяч, каталіцкі сьвятар, доктар філа-

софіі і тэалогіі. Служыў у Гародні вікарыем.

**1972** – У Эльблонгу (Польшча) памёр Міхал Шалкевіч, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1922 г. служыў у касцёле ў Тракелях (Вараноўскі р-н).

**2004** – У Менску ў шпіталі памёр Аляксандар Міхальчык, грамадзка-палітычны актывіст, старшыня Гарадзенскай гарадзкой арганізацыі партыі БНФ. Пахаваны ў Гародні на могілках па прасп. Касманаўтаў.

## *16 лютага*

**1895** – Памёр Тамаш Булгак (нар. у 1801, фальварак Міцкевічы, Наваградзкае ваяв.), удзельнік паўстаньняў 1830-31, 1863-64 гг.

**1902** – У Трокеніках нарадзіўся Мар'ян Богуш-Шышка, беларуска-польскі мастак, мастацкі педагог.

**1956** – Арыштаваны (паводле інш. зьв. 16 студз.) і пазьней асуджаны на 7 гадоў зьняволеньня па абвінавачаньні ў беларускім нацыяналізме выкладнік Гарадзенскага педінстытуту Браніслаў Ржэўскі.

## *17 лютага*

**1888** – У мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Янка Вярсоцкі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

**1916** – Памерла Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, у замужжы Кайрыс), беларуская грамадзка-палітычная дзяячка, паэтка, асьветніца, выдаўніца. Пахавана ў Старым Двары (Шчучынскі р-н).

**1943** – У Росіцы (Віцебшчына) фашысты спалілі каля 30 чалавек. Сярод іншых загінуў Антон Ляшчэвіч, нараджэнец в. Абрамаўшчына (Смургонскі р-н), беларускі сьвятар-марыянін, які застаўся зь вернікамі і сам пайшоў на сьмерць. Пазьней блаславёны.

## *18 лютага*

**1845** – Памёр Ігнат Анацэвіч, беларускі гісторык, археограф, педагог. Нараджэнец Малой Бераставіцы.

**1956** – У мяст. Мар'янава памёр Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт. Нараджэнец в. Лакцяны (Астравецкі р-н). Пахаваны ў в. Бомбля (Беласточчына).

**1988** – Савет Міністраў узяў пад ахову цэнтр Гародні – помнік горадабудаўніцтва і архітэктуры.

## *19 лютага*

**1861** – Так званая "адмена прыгоннага права" расейскім імператарам Аляксандрам II.

**1890** – У в. Барані (Астравецкі р-н) нарадзіўся Канстанцін Становіч (Казімер Сваяк), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт.

**1910** – У Гародні адбылася адна з першых беларускіх вечарынаў.

**1979** – Памёр Янка Геніюш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу. Пахаваны ў Зэльве.

## 20 лютага

**1387** – Першы агульназемскі прывілей ВКЛ.

**1810** – Памёр Марцін Пачобут Адляніцкі, асьветнік, астраном, педагог. Нараджэнец в. Саламянка (Гарадзенскі р-н).

**1889** – У в. Балотца (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Фёдар Турук, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, гісторык, педагог.

**1940** – У Гародні адчынены настаўніцкі інстытут – першая ў Заходняй Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова.

## 21 лютага

**Міжнародны** дзень роднай мовы.

**1918** – Была абвешчана Першая ўстаўная грамата БНР і створаны першы беларускі ўрад – Беларускі Народны Сакратарыят.

## 22 лютага

**1387** – Прывілей Ягайлы каталіцкай царкве ў ВКЛ.

**1862** – Памёр Вікенці Дмахоўскі (нар. у 1805 ці 1807 у в. Нагародавічы, Дзятлаўскі р-н), жывапісец, майстар гістарычнага жанру, удзельнік паўстаньня 1830-31 гг.

## 23 лютага

**1907** – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1930** – Нарадзілася (на Смургоншчыне) Часлава Семяновіч (дзявочае Садоўская), актывістка грамадзка-палітычных арганізацый у Гародні.

## 24 лютага

**1579** – Мір атрымаў Магдэбургскае права.

**1760** – Памёр Мацей Догель, гісторык-археограф, правазнавец. Нараджэнец в. Гембулы (Шчучынскі р-н).

**1902** – Нарадзіўся Янка Геніюш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу. Жыў і пахаваны ў Зэльве.

**1959** – Адчынены Лідзкі краязнаўчы музей.

## *25 лютага*

**1909** – У Слоніме нарадзіўся Сяргей Дарожны (сапр. Серада), беларускі пісьменьнік, перакладнік.

## *26 лютага*

**1625** – У в. Сэрвач (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Багуслаў Казімер Маскевіч, вайсковы і грамадзкі дзеяч ВКЛ, пісьменьнік-мемуарыст.

**1821** – У мяст. Вайшканы (Ковенская губ.) нарадзіўся Аляксандар Гінтаўт-Дзевалтоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху на Гарадзеншчыне.

**1934** – У в. ЗБляны (Лідзкі р-н) нарадзіўся Аляксей Логвін, адзін з стваральнікаў моладзевай падпольнай антысталінскай арганізацыі, вязень ГУЛАГу.

## *27 лютага*

**1919** – Была створана Літоўска-Беларуская ССР з сталіцай у Вільні.

**1927** – У Гародні памёр Мельхіёр Фардон, каталіцкі сьвятар, францішканін. Пахаваны на гарадзенскіх бернардынскіх могілках. Парэшткі перапахаваны 4 сьнежня 2003 году ў касьцёле Маці Божай Анёльскай.

**1936** – Адбыўся ўсеагульны штрайк рабочых Ліды (удзельнічала каля 4 тысяч чалавек).

## *28 лютага*

**1616** – Памёр Мікалай Крыштап Сіротка Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, падарожнік-мемуарыст.

**1922** – У Гародні памерла Станіслава Буйло, кіраўнічка беларускага дзіцячага прытулку.

**1942** – У Ленінградзе ад голаду памёр Канстанцін Пушкарэвіч беларуска-расейскі славіст, літаратуразнавец, педагог. Нараджэнец Слоніму.

## *29 лютага*

**1468** – На сойме Вялікім князем Казімерам Ягелёнчыкам выданы Судзебнік – першы кодэкс крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права ВКЛ.

# 1 сакавіка

**1566** – Набыў законную сілу Другі Статут ВКЛ.

**1581** – Створаны Галоўны літоўскі трыбунал – вышэйшы судовы і апеляцыйны орган у ВКЛ.

**1933** – У г. Уржум (Ніжагародзкі край, Расея) у ссылцы памёр Уладзімір Жылка, беларускі паэт, перакладнік, публіцыст, крытык. Скончыў вучэльню ў Міры.

**1960** – У Барысаве памёр Віктар Шутовіч, беларускі культурны дзеяч, каталіцкі сьвятар, вязень савецкіх канцлягероў. Нараджэнец в. Шутавічы (Смургонскі р-н). Пахаваны на барысаўскіх каталіцкіх могілках.

# 2 сакавіка

**1562** – Нарадзіўся Крыштап Мікалай Дарагастайскі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, заснавальнік друкарні ў Ашмяне Мураванай.

**1896** – У мяст. Поразава (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Глякоўскі (загінуў у Бухэнвальдзе, паводле інш. зьвестак расстраляны ў Менску ў 1941), беларускі каталіцкі духоўнік, грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

**2003** – Памерла Ванда Банішэўская, сястра супольнасьці Сёстры ад Анёлаў, носьбітка стыгматаў, вязьня ГУЛАГу. Нараджэнка в. Новая Каменка (Наваградзкі р-н).

**2013** – У в. Вецявічы (Слонімскі р-н) памёр Мікола Арочка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладнік. Пахаваны ў роднай вёсцы.

# 3 сакавіка

**1767** – Памёр Ёган Глаўбіц (нар. у 1700-?), архітэктар, які працаваў на Беларусі. Аўтар пабудовы Фарнага касьцёлу ў Лідзе (1765-70).

**1777** – Памёр Юзаф Ябланоўскі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, гісторык, мецэнат, ваявода навагрcraдзкі ў 1755-73, аднавіў Наваградзкі замак.

**1913** – Памёр Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер. Нараджэнец Альбярціну (Слонімскі р-н).

**1918** – У Берасьці паміж Савецкай Расеяй і Нямеччынай была падпісаная мірная дамова, паводле якой Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі.

**1996** – Гарадзенскі “Нёман” (трэнер Анатоль Варывончык) стаў першым чэмпіёнам Усходнееўрапейскай хакейнай лігі.

# 4 сакавіка

**1484** – У Гародні памёр Казімер, сын вялікага князя ВКЛ Казімера IV

Ягелончыка, патрон Гарадзенскага біскупства. Пахаваны ў віленскім катэдральным саборы (капліца Сьв. Казімера). Кананізаваны ў 1521. Дзень Сьвятога Казімера.

**1812** – Памёр Яўхім Храптовіч, грамадзкі, палітычны, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, магнат, публіцыст, паэт, перакладнік. Меў сядзібу ў Шчорсах.

**1890** – У мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт, дзеяч эміграцыі (Італія, Вялікабрытанія).

**1977** – Памёр Эдуард Гойлік, беларуска-польскі кампазітар, музычны педагог, хормайстар. Нараджэнец в. Верабейкі (Сьвіслацкі р-н).

**2004** – Памёр Міхась Навумовіч, дзеяч беларускай эміграцыі (Францыя). Нараджэнец Навагрkörчыны.

**2008** – У Вільні памерла Вера Спарычанка-Шостак, настаўніца, актывістка беларускага руху. Нараджэнка в. Запольле (Навагрkörдзкі пав).

## *5 сакавіка*

**1895** – У в. Кашанцы (Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Каваленя, беларускі археолаг.

**1942** – Нарадзіўся Аляксандар Міхальчык (Бераставіцкі р-н), грамадзка-палітычны актывіст, пэўны час старшыня Гарадзенскай гарадзкой арганізацыі партыі БНФ.

**1977** – У Нью-Джэрсі (ЗША) памёр Філарэт Родзька, беларускі настаўнік, быў у войску Булак-Балаховіча, дзеяч эміграцыі (ЗША). Нараджэнец в. Вераскава (Навагрadзкі р-н), працаваў у Вераскаве і Наваградку.

**2000** – У Рыме былі беатыфікаваныя 11 сясьцёр-назарэтанак, расстраляных гітлераўцамі ў 1943-ым каля Наваградку.

## *6 сакавіка*

**1833** – У в. Варонічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Бялькевіч, беларускі мовазнавец, педагог, аўтар слоўнікаў.

**1944** – Выдадзены ўказ аб стварэньні Беларускай Краёвай Абароны (БКА).

**1999** – У Вільні памёр Міхаіл Петрыкевіч, беларускі краязнавец, музеязнавец, педагог. Нараджэнец в. Падкасоўе (Наваградзкі р-н). Пахаваны на могілках Карвялішкес ля Вільні.

## *7 сакавіка*

**1967** – У Сопаце (Польшча) памёр Караль Румель, першы алімпіец зь Беларусі (гульні 1912, Стакгольм), коньнік-спартовец. Нараджэнец Гародні.

# 8 сакавіка

**1558** – У Лукішках (зараз у межах Вільні) нарадзіўся Альбрыхт Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Валодаў маёнткамі Лаздуны, Геранёны (Івейскі р-н).

**1901** – У в. Трашчычы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Карповіч, беларускі выдавец, актывіст КПЗБ.

**1910** – У Турцы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Пётр Конюх, беларускі сьпявак, дзеяч эміграцыі (Італія, Бельгія, ЗША, Канада).

**1928** – У Празе памёр Пётра Крэчаўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР. Пахаваны на Альшанскіх могілках. Нараджэнец в. Дубна (Мастоўскі р-н).

**1814** – Памёр Юзаф Несялоўскі (нар. у 1728), апошні навагрудзкі ваявода, удзельнік паўстаньня 1794. Меў родавы маёнтак у Варончы, пахаваны ў крыпце мясцовага касьцёлу.

**1989** – Памёр Мікола Ягаўдзік, беларускі вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, ЗША). Нараджэнец Слонімшчыны.

**1992** – У Слоніме памёр Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падпольля 1946-47 у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлягероў. Нараджэнец в. Ваўчкі (Слонімскі р-н). Пахаваны ў в. Клепачы (Слонімскі р-н).

# 9 сакавіка

**1659** – Маскоўскі гарнізон у Гародні разам з ваяводам здаўся войску гетмана Паўла Сапегі.

**1838** – Памёр Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт, базыльянін. Пахаваны на праваслаўных могілках Сергіевай пустыні паблізу Пецяргофа.

**1918** – Абвяшчэньне Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага зьезду Другой Устаўной граматы БНР.

# 10 сакавіка

**1711** (верагодна 12.03) – Нарадзіўся Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, перакладнік, літаратар. Жыў у Слоніме.

**1781** – У Менску памёр Міхал Карыцкі, паэт, грамадзкі дзеяч, педагог. Нараджэнец в. Дзітрыкі (Лідзкі р-н).

**1889** – У Гародні нарадзіўся Уладзімір Пігулеўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік.

**1926** – У в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Васіль Супрун, беларускі паэт, краязнавец, археолаг, вязень ГУЛАГу.

**1942** – У Мсьціславе нарадзіўся Міхась Ткачоў, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог. Жыў і працаваў у Гародні.

**1943** – У лесе пад Лідай фашысты расстралялі 9 каталіцкіх сьвятароў. Перапахаваныя пазьней на Астраўлянскіх могілках.

**2005** – У Гародні памёр Апанас Цыхун, беларускі краязнавец, педагог, пісьменьнік. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў. Нараджэнец в. Кунцаўшчына (Гарадзенскі р-н).

## 11 сакавіка

**1911** – У в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Леў Гарошка, асьветнік, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец, пісьменьнік, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Францыя, Вялікабрытанія, Ватыкан).

## 12 сакавіка

**1722** – Нарадзіўся (каля Наваградку) Бенядыкт Дабшэвіч (пам. у 1799), тэолаг-езуіт, філосаф.

**1986** – У Гародні створаны гісторыка-культурны клуб "Паходня".

## 13 сакавіка

**1797** – Памёр Юзаф Пац (нар. у 1736), вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньня 1794. Валодаў маёнткам Ражанка (Шчучынскі р-н).

**1890** – У в. Малая Лапеніца (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Аляксандар Савіч, беларускі гісторык, апалягет беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**1917** – У Пецярбургу загінуў Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадзка-літаратурнага руху пач. 20 ст. Пахаваны ў Сызрані (Самарская вобл.). Нараджэнец мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н).

**1934** – У в. Стральцы (Гарадзенскі р-н) нарадзілася Аўгіньня Кавалюк, паэтка, перакладчыца. Жыла і працавала ў Латвіі, Санкт-Пецярбургу.

## 14 сакавіка

**1863** – На Гарадзенскім чыгуначным вакзале адбыўся бой паўстанцаў з расейскім войскам. Частка атраду здолела пакінуць горад, але бальшыня паўстанцаў была арыштаваная.

**1943** – У Празе памёр Васіль Захарка, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР з 1928 па 1943. Нараджэнец в. Дабрасельцы (Зэльвенскі р-н). Пахаваны на Альшанскіх могілках.

**1990** – У Джэксане (штат Нью-Джэрсі, ЗША) памёр Аляксандар Асіпчык, царкоўны дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец Слоніма.

## 15 сакавіка

**1410** – Напад крыжацкіх палкоў на Ваўкавыск з мэтай забойства князя Вітаўта.

**1889** – На Віленшчыне нарадзіўся Павал Пякарскі, беларускі каталіцкі сьвятар. У 1925-32 служыў пробашчам у Жупранах, быў кіраўніком Ашмянскага дэканату.

**1953** – У Клецку нарадзіўся Валеры Задаля, беларускі журналіст, грамадзкі дзеяч. Жыў і працаваў у Наваградку, Ваўкавыску, Гародні.

**1992** – Памёр Уладзімер Цьвірка (да 1945 г. Вадзім Сурко), дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Ангельшчына, Бельгія), журналіст. Пахаваны на мюнхенскіх могілках Вэстфрайдгоф. Нараджэнец в. Беражное (Карэліцкі р-н).

**1994** – У Менску на 13-й сэсіі Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня была прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

## 16 сакавіка

**1853** – У Паставах памёр Канстанцін Тызэнгаўз, асьветнік, прыродазнавец. Нараджэнец мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н).

**1919** – У Гародні выйшаў першы нумар газэты "Бацькаўшчына" (выдавалася да 28 сак.).

**1991** – У Гародні створаны камерны аркестар, першыя канцэрты якога прайшлі ў музеі гісторыі рэлігіі.

**2008** – У Шчучыне памёр Вацлаў Дзежыц, беларускі краязнавец. Пахаваны на старых шчучынскіх каталіцкіх могілках.

## 17 сакавіка

**1807** – Памёр Казімер Нарбут (нар. у в. Крупава, Лідзкі р-н, 3.1.1738 ці 19.4.1738), беларускі асьветнік, педагог, філосаф.

**1999** – Памёр Міхась Біч, беларускі гісторык. Нараджэнец в. Мілявічы (Мастоўскі р-н).

## 18 сакавіка

**1758** – Памёр Тамаш Жаброўскі, беларускі асьветнік, архітэктар, астраном, матэматык. Нараджэнец маёнтку Дзятлава (Дзятлаўскі р-н).

**1791** – Прыняты закон "Аб вольных гарадах у Рэчы Паспалітай".

**1894** – У в. Барані (Астравецкі р-н) нарадзіўся Альбін Стаповіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст.

**1921** – Паміж РСФСР і Польшчай была падпісана Рыская дамова, якая падзяліла Беларусь тэрытарыяльна.

**1967** – Памёр Аляксандар Ільінскі, беларускі артыст тэатру. Нараджэнец Міру (Карэліцкі р-н).

## 19 сакавіка

**1768** – У Шчорсах (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Адам Храптовіч, асьветнік, мецэнат мастацтваў і навукі, удзельнік паўстаньня 1794 году. Заснаваў у Шчорсах буйную пачатковую школу.

**1895** – У в. Паляны (Смургонскі р-н) нарадзіўся Тамаш Грыб, беларускі палітычны і культурны дзеяч.

**1932** – У Асташыне (Наваградзкі р-н) выбухнуў бунт сялян супраць падатковага і нацыянальнага прыгнёту польскіх уладаў. У выніку расправы на наступны дзень 7 чалавек у Наваградку былі павешаныя, яшчэ 46 засуджаныя да турэмнага зьняволеньня.

**1974** – Памёр Эдуард Сташкевіч, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50. Пахаваны ў Солах (Смургонскі р-н).

## 20 сакавіка

**1440** – У выніку змовы забіты Жыгімонт Кейстутавіч (нар. каля 1365), вялікі князь ВКЛ у 1432-40 гг.

**1875** – На Украіне памёр Януар Сухадольскі, жывапісец-баталіст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Нараджэнец Гародні.

## 21 сакавіка

**1840** – У фальв. Сьвіраны (цяпер Летува) нарадзіўся Францішак Багушэвіч, беларускі паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1863-64. У 1861-63 жыў у Доцішках (Вараноўскі р-н), з 1898 да сьмерці ў 1900 жыў у Кушлянах (Смургонскі р-н),

**1849** – У Вільні ў турме, засуджаны да 20 гадоў катаргі за перавоз нелегальнай літаратуры, памёр Аляксандар Незабытоўскі, беларуска-польскі пісьменьнік, філосаф, гісторык. Нараджэнец Наваградчыны.

**1927** – Польскія ўлады забаранілі дзейнасьць Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Каля 400 кіраўнікоў і актывістаў Грамады былі рэпрасаваныя.

## 22 сакавіка

**1864** – У Вільні на Лукіскім пляцы павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня. Магіла была паблізу сёньняшняй вежы Гедыміна.

**1970** – У Жупранскай СШ (Ашмянскі р-н) адчынены музей Францішка Багушэвіча.

## 23 сакавіка

**1899** – У Жалудку (Шчучынскі р-н) нарадзілася Вольга Галіна (дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская), беларуская акторка, педагог.

**1918** – Рада БНР абвясьціла Гарадзеншчыну беларускай тэрыторыяй.

**1933** – Памёр Уладзімер Пянткевіч, кіраўнік Ўсходняй місіі, суперыёр законнага дому Айцоў Езуітаў ў Альбярціне.

**1978** – У Менску памёр Рыгор Шырма, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фальклярыст, публіцыст. Пахаваны на менскіх Усходніх могілках. Пэўны час жыў у Гародні.

## 24 сакавіка

**1794** – Пачалося вызвольнае паўстаньне на чале з Тадэвушам Касьцюшкам.

## 25 сакавіка

**1717** – У Дзятлаве нарадзіўся Альбрыхт Радзівіл (пам. пасьля 1790), дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**1871** – У Цьверы нарадзіўся Марыян Абрамовіч, рэвалюцыянер-народнік, публіцыст, дзеяч культуры. Вывучаў на Наваградчыне беларускую мову.

**1905** – У в. Добрыцкае (Барысаўскі р-н) нарадзіўся Браніслаў Ржэўскі, беларускі літаратуразнавец, педагог, дысідэнт, палітычны вязень. Працаваў у Гародні.

**1916** – У Цырыне (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Барыс Сладкоўскі, актывіст беларускай эміграцыі (Канада). Памёр у 1992.

**1918** – Абвяшчэньне Трэцяй Устаўной Граматы БНР. ДЗЕНЬ ВОЛІ.

**1992** – У Гародні выйшаў першы нумар газеты “Пагоня”.

## 26 сакавіка

**1932** – У Пінску памёр Зыгмунт Лазінскі, беларускі каталіцкі сьвятар. Пахаваны ў крыпце Пінскага катэдральнага касьцёлу. Нараджэнец в. Барацін (Карэліцкі р-н).

## 27 сакавіка

**1899** – У в. Малая Бераставіца (Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Аляксей Васіленя, грамадзка-палітычны дзеяч, у другую сусьветную вайну кіраўнік Беларускай Народнай Самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія).

## 28 сакавіка

**1886** – У Любяшове (цяпер Валынская вобл., Украіна) па-

мёр Уладзіслаў Борзабагаты, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64, лекар, мемуарыст. Нараджэнец маёнтку Рутка (Наваградзкі пав.).

**1928** – У в. Дэгісі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Эдуард Сташкевіч, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.

**1995** – Памёр Часлаў Найдзюк, беларускі грамадзкі дзеяч, юрыст. З 1949 жыў у Лос-Анджэласе (ЗША). Нараджэнец в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н).

## *29 сакавіка*

**1996** – У гарадах Беларусі прайшла серыя акцый супраць інтаграцыі Беларусі і Расеі.

## *30 сакавіка*

**1888** – У в. Якімаўка на Гомельшчыне нарадзіўся Ян Цеханоўскі, беларускі педагог, дырэктар Навагрadzкай гімназіі на пач. 1920-ых, пазьней працаваў у Ашмянах.

## *31 сакавіка*

**1391** – Гародня прывілеем Ягайлы атрымала магдэбургскае права.

**1785** – Памёр Антоні Тызэнгаўз (нар. у 1733 у Наваельні, Дзятлаўскі р-н), дзяржаўна-грамадзкі дзеяч ВКЛ, граф, мецэнат, рэфарматар. Жыў і дзеіў у Гародні. Пахаваны ў Жалудку (Шчучынскі р-н).

**2007** – У Вільні памёр Аляксей Анішчык, беларускі краязнавец, педагог, пісьменьнік. Пахаваны на віленскіх Сьвята-Эфрасіноўскіх могілках. Нараджэнец в. Мондзіна (Наваградзкі р-н).

# 1 красавіка

**1548** – Памёр Жыгімонт І Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506-48 гг.

**1773** – У Юршышчах (Лідзкі пав.) нарадзіўся Юстын Нарбут, гісторык, удзельнік паўстаньня 1794 году, стрыечны брат Тодара Нарбута.

**1862** – У мяст. Халапенічы (Крупскі р-н) нарадзіўся (паводле аўтабіяграфіі 6 крас.) Адам Багдановіч, беларускі этнограф, бацька Максіма Багдановіча.

**1877** – У в. Дабрасельцы (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Васіль Захарка, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР з 1928 па 1943 гг.

**1909** – У Слоніме нарадзіўся Аляксандар Асіпчык, царкоўны дзеяч у эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1914** – У в. Лявонцева (Мантураўскі р-н, Кастрамская вобл., Расея) нарадзіўся Васіль Струмень (сапр. Аляксандар Лебедзеў), беларуска-украінскі пісьменьнік. Жыў у Зачэпічах (Дзятлаўскі р-н).

**1919** – У мястэчку Мір (Карэліцкі р-н) пачалося паўстаньне (доўжылася да 4 крас.) мясцовых жыхароў супраць улады бальшавікоў. Было задушана карнікамі, у баёх загінулі 25 паўстанцаў і 30 чэкістаў.

**1943** – Расстраляны (ці памёр у Бэрлінскай турме) Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі сьвятар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашыстоўскіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

**1976** – Памёр Іван Тарасюк, удзельнік беларускага патрыятычнага падполься на Слонімшчыне ў 1946-47. Пахаваны ў Слоніме. Нараджэнец в. Глоўсевічы.

# 2 красавіка

**1853** – У ноч на 2 красавіка моцная паводка ў Гародні падмыла Каложскую царкву. У выніку абвалілася паўднёвая сьцяна і палова заходняй.

**1933** – У в. Зьмяёўцы (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Віктар Шымук, беларускі пісьменьнік, перакладнік.

# 3 красавіка

**1973** – Памёр Анатоль Марцінкевіч, адзін з пачынальнікаў беларускага баскетболу. Нарадзіўся, жыў і працаваў у Гародні.

# 4 красавіка

**1557** – У маёнтку Астроўна (Бешанковіцкі р-н) нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. На Га-

радзеншчыне валодаў Слонімскім староствам, Каменкай (Шчучынскі р-н).

**1682** – Памёр Міхал Казімер Пац (нар. у 1624), дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ. Валодаў Гераненамі.

**1683** – Памёр Багуслаў Казімер Маскевіч, вайсковы і грамадзкі дзеяч ВКЛ, пісьменьнік-мемуарыст. Пахаваны ў дамініканскім касьцёле ў Навагрудку.

**1846** – Памёр Леан Бароўскі, літаратуразнавец, педагог. У 1807-11 быў выкладнікам паэтыкі і рыторыкі ў Сьвіслацкай гімназіі.

**1863** – У баі загінуў Юльян Бакшанскі, удзельнік вызвольнага руху, камандзір паўстанцкага атраду, публіцыст. Нараджэнец маёнтку Тупальшчына (Смургонскі р-н). Пахаваны ў в. Плябань (Маладэчанскі р-н).

**1923** – У Навагрудку нарадзіўся Кастусь Сіткоўскі, беларускі настаўнік, эмігрант (Аўстралія).

# 5 красавіка

**1784** – Памёр Францішак Ярманскі (Юрманскі), каталіцкі рэлігійны дзеяч, педагог. Быў рэктарам Шчучынскага піярскага калегіюму.

**1923** – У в. Старыя Дзевяткавічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Барыс Данілюк, дзеяч СБМ, беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

# 6 красавіка

**1948** – Памёр Мікола Шыла (нар. у 1888 у Смургонях), грамадзкі дзеяч, нашанівец, журналіст, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына).

**1997** – У Гародні адбыўся міжнародны рок-фэст “Губерталіі альбо рок-сустрэчы пры старым Каралеўскім Тракце”.

# 7 красавіка

**1410** – У Кежмарку (цяпер Славаччына) крыжакі зьдзесьнілі спробу забойства князя Вітаўта.

**1860** – Памёр Карл Падчашынскі, асьветнік, архітэктар, дасьледнік, педагог. Нараджэнец в. Жырмуны (Вараноўскі р-н).

**1983** – Памерла Ларыса Геніюш, беларуская паэтка, вязень ГУЛАГу. Пахавана ў Зэльве.

# 8 красавіка

**1904** – У Лідзе нарадзіўся СьцяпанВаршаўскі, амэрыканскі матэматык, прафесар унівэрсітэту ў Мінесоце.

**1932** – У мяст. Нягневічы (Навагрудзкі р-н) адбыўся збройны выступ сялян, быў разгромлены паліцэйскі пастарунак.

## 9 красавіка

**1858** – Нарадзіўся (каля Пінску) Фадзей Дмахоўскі (дата сьмерці невядомая), жывапісец, графік. Пакінуў малюнкі Лідзкага замку.

**1860** – Нарадзіўся Вільгельм Краеўскі, арганізатар шкляной вытворчасьці на Лідчыне.

## 10 красавіка

**1635** – Памёр Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Фундаваў у Слоніме кляштар францішканцаў, касьцёл канонікаў рэгулярных.

**1824** – Нарадзіўся Антон Брахоцкі, уладаньнік маёнтку Морына (Івейскі р-н), удзельнік паўстаньня 1863 году, пасьля якога быў высланы.

**1931** – У в. Чамяры (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Чыгрын, беларускі літаратуразнавец, паэт, крытык.

## 11 красавіка

**1808** – У в. Ляхі (Пружанскі р-н) нарадзіўся Леан Зянковіч, паэт, публіцыст, мемуарыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**1863** – Каля вёскі Новы Двор (Шчучынскі р-н) адбылася бітва паміж паўстанцкім атрадам Людвіка Нарбута і расейскім войскам.

**2007** – У Гародні памёр Валеры Задаля, беларускі журналіст, грамадзкі дзеяч. Жыў і працаваў у Наваградку, Ваўкавыску. Пахаваны на могілках каля стан. Аульс пад Гародняй.

## 12 красавіка

**1890** – У в. Шчорсы (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), беларускі пісьменьнік, эканаміст.

**1997** – Гарадзенскі “Камунальнік” (галоўны трэнер Анатоль Паняшын) стаў пераможцам 6-га мужчынскага валейбольнага чэмпіянату краіны. Першы такі посьпех гарадзенцаў.

## 13 красавіка

**1871** – У мяст. Лугіна (Марыямпальскі пав., Летува) нарадзіўся Юры Матулевіч, рымска-каталіцкі рэлігійны дзеяч Заходняй Беларусі і Летувы, блаславёны.

**1940** – Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі сем’яў рэпрасаваных і асоб, якія ўцяклі за мяжу.

## 14 красавіка

**1707** – Памёр Тодар Абуховіч (нар. у 1642 у в. Дарагава, Карэ-

ліцкі р-н), дзяржаўны, вайсковы дзеяч ВКЛ, мемуарыст.

**1835** – У в. Сянно (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Валер'ян Вільчэўскі, лекар, удзельнік паўстаньня 1863-64 у атрадзе Францішка Юндзіла ў Слонімскім пав.

**1885** – У в. Максімаўка (Маладэчанскі р-н) нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, сябра Рады БНР, публіцыст. Заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (у 1920-22).

**1920** – У в. Страшава (Беласточчына) нарадзіўся Аляксей Карпюк, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Жыў і працаваў у Ваўкавыску, Гародні.

## 15 красавіка

**1852** – Памёр Тадэвуш Тышкевіч, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньняў 1794 і 1830 гг. З 1813 жыў у Сьвіслачы.

**1900** – У в. Вялікія Азяранкі (Ваўкавыскі р-н) (паводле іншых даных у в. Азяраны Сакольскага пав. (цяпер Беласточчына) нарадзіўся Уладзімер Тамашчык, праваслаўны сьвятар, архіяпіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (Васіль) на эміграцыі. Забіты ў 1970-ым пры загадкавых абставінах.

**1928** – У в. Рацюны (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Павал Жук, вязень ГУЛАГу, удзельнік Нарыльскага паўстаньня, стваральнік Гарадзенскай абласной Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

## 16 красавіка

**1794** – Якуб Ясінскі ўзначаліў вызвольнае паўстаньне ў ВКЛ.

**1888** – У Кракаве памёр (ці 19 крас.) Зыгмунт Урублеўскі, навуковец-фізік, удзельнік паўстаньня 1863-64. Нараджэнец Гародні.

**1940** – Памёр Адам Багдановіч, беларускі этнограф, бацька Максіма Багдановіча. Пахаваны ў Яраслаўлі. Жыў у Гародні.

**1947** – Памёр Антон Дамброўскі, беларускі грэцка-каталіцкі дзеяч, філосаф, тэолаг. З 1925 працаваў у Альбярціне і Сынковічах.

**1959** – У Менску памерла Зінаіда Бандарына, беларуская пісьменьніца, паэтка. Нараджэнка Гародні. Пахавана на менскіх Усходніх могілках.

## 17 красавіка

**1863** – У Коўне ў шпіталі ад ран памёр Лявон Кульчыцкі (нар. каля 1823), адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году на Гарадзеншчыне.

**1891** – На Сакольшчыне (Беласточчына) нарадзіўся Язэп Варонка, беларускі палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі (ЗША). Адзін з заснаваньнікаў у Гародні таварыства "Бацькаўшчына".

**1973** – Памёр Пётр Юргялевіч, беларускі мовазнавец, педагог, вязень савецкіх канцлягероў. Нараджэнец мяст. Трабы (Івейскі р-н).

## 18 красавіка

**Міжнародны** дзень помнікаў і гістарычных мясьцін.

**1838** – У маёнтку Адамарын (Маладэчанскі р-н) нарадзіўся Уладзіслаў Дыбоўскі, удзельнік паўстаньня 1863-64, заолаг, батанік, палеантолаг, мінеролаг, фальклярыст. З 1878 - да пач. 1900-ых жыў у Нянькаве (Навагрудзкі р-н).

**1847** – Памёр Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец, дасьледнік расьліннага і жывёльнага сьвету Беларусі. Нараджэнец в. Ясенцы, пахаваны ў в. Нача (Вараноўскі р-н).

**1887** – У мяст. Турэц (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зімёнка), беларускі паэт, сатырык, гумарыст.

**1952** – За адну ноч з Заходняй Беларусі на ўсход СССР вывезьлі 1683 сям'і, якія былі абвінавачаныя ў "варожай дзейнасьці супраць калгасаў".

**1990** – Была заснавана Гарадзенская абласная краязнаўчая асацыяцыя.

**1998** – Гарадзенскі хакейны Нёман за тур да завяршэння 6-га першынства краіны ўпершыню ў гісторыі стаў чэмпіёнам (галоўны трэнер Анатоль Варывончык).

## 19 красавіка

**1907** – У в. Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н) нарадзіўся Рыгор Акулевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе (Федэрацыя рускіх канадцаў).

**1996** – У Гародні памёр Пётр Башко, беларускі настаўнік, педагог. Нараджэнец Парэчча (Гарадзенскі р-н).

## 20 красавіка

**1666** – На Слонімшчыне нарадзіўся Крыштап Станіслаў Завіша, пісьменьнік-мемуарыст, перакладнік, аратар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

**1749** – У Полацку памёр Мацей Бейтнік (нар. у лютым 1708 ці 1705), беларускі жывапісец. Выканаў насьценныя размалёўкі ў езуіцкім калегіуме ў Жодзішках (Смургонскі р-н).

**1758** – Нарадзіўся (у Слонімскім пав.) Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт, базыльянін.

**1893** – У в. Дордзішкі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Леанард Чарняк, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. Вучыўся ў Ашмянах, працаваў у Эйшышках, з 1920 у Смургонях, у 1933-36 у Трабах.

## *21 красавіка*

**1833** – У в. Мастаўляны (Беласточчына) нарадзіўся Віктар Каліноўскі, гісторык, археограф, адзін зь ідэолягаў паўстаньня 1863 году Жыў у фальварку Якушоўка (Сьвіслацкі р-н).

**1902** – У в. Ясянёўка (Беласточчына) нарадзіўся Вацлаў Пянткоўскі, каталіцкі сьвятар, асьветнік. Перад другой сусьветнай вайной служыў прэфектам наваградзкай гімназіі.

## *22 красавіка*

**1863** – Каля мяст. Азёры (Гарадзенскі р-н) прайшоў бой паміж паўстанцкім атрадам Аляксандра Лянкевіча і расейскім войскам.

**1994** – У Менску прайшла першая сустрэча беларускай моладзі сьвету (доўжылася 22-23 крас., 200 дэлегатаў з краін былога СССР і Польшчы).

**2005** – У Лёндане (штат Антарыё, Канада) памёр Барыс Рагуля, дзеяч нацыянальнага руху ў 1940-ыя, кіраўнік Саюзу Беларускай Моладзі на Наваградчыне, пасьля вайны дзеяч беларускай эміграцыі (Бельгія, Канада). Нараджэнец мяст. Турэц (Карэліцкі р-н).

## *23 красавіка*

**1657** – Памёр Сільвестар Косаў (нар. у кан. 16 ст. у маёнтку Жаробычы, Шумілінскі р-н), праваслаўны царкоўна-грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, публіцыст.

**1934** – У Вераскава (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Конан, філосаф, літаратуразнавец, культуролаг, публіцыст.

## *24 красавіка*

**1775** – Нарадзіўся (на Беласточчыне) Якуб Фалькоўскі, асьветнік-дабрачынец, рэктар Шчучынскай піярскай школы, аўтар сістэмы навучаньня глуханямых дзяцей.

**1866** – Нарадзіўся Анатоль Касьперскі (верагодна ў Галынскай гміне, дата сьмерці невядомая), беларускі настаўнік, арганіст, вясной 1924 быў пробашчам у Бераставіцы.

**1953** – У Монтэвідэо (Уругвай) памёр Іван Саланевіч, спартовец, публіцыст, выдавец. Заснаваньнік у Гародні спартовага таварыства “Сокал”.

**1959** – У Лідзе адчынены краязнаўчы музей.

## *25 красавіка*

**1904** – У Варшаве памёр Францішак Далеўскі (нар. у 1825 у фальв. Руднікі, Лідзкі пав.), адзін з стваральнікаў Братняга зьвязу літоўскай моладзі, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1972** – У г. Самэрсэт (ЗША) памёр Віктар Войтанка (на эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіраваньня, БКА, у 1943 працаваў лекарам у Слоніме, медык, праваслаўны сьвятар, дзеяч эміграцыі.

**1999** – У Гародні прайшло шэсьце патрыётаў з паходнямі. Скончылася жорсткай сутычкай з міліцыянтамі на вуліцы Ажэшкі.

**2003** – Па дарозе ў Беларусь памёр Янка Жамойцін, беларускі грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзеяч беларускай эміграцыі (Польшча). Нараджэнец в. Клімавічы (Лідзкі р-н).

**2007** – У Гародні памерла Часлава Семяновіч, актывістка грамадзка-палітычных арганізацый у Гародні, сябра КХП БНФ. Пахавана на могілках па прасп. Касманаўтаў.

## *26 красавіка*

Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

**1835** – Памёр Анёл Доўгірд, філосаф, лёгік, педагог. Працаваў у Лідзе і Шчучыне.

**1862** – У Вільні пасьля сібірскай катаргі памёр Аляксандар Далеўскі, адзін з стваральнікаў Братняга зьвязу літоўскай моладзі, удзельнік вызвольнага руху. Нараджэнец фальв. Кункулка (Лідзкі пав.).

**1883** – Памёр Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстаньня 1830-31. У 1823-ім скончыў Сьвіслацкую гімназію.

**1886** – У в. Лынкішкі (Астравецкі р-н) нарадзіўся Юльян Бароўка (пам. у 1964), беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, працаваў у Гародні, у 1923 служыў у Барунах, з 1937 у Рэплі, дзе і памёр.

## *27 красавіка*

**1613** – У Жыровічах заснаваны ўніяцкі кляштар.

**1917** – У Варшаве памёр Лазар Замэнгоф, лекар, вынаходнік мовы эсперанта, які нарадзіўся ў Беластоку і пэўны час жыў у Гародні.

**1919** – Польскія войскі занялі Гародню, дзе знаходзіўся Урад БНР і беларускае войска.

**1922** – У в. Запольле (Навагрудзкі р-н) нарадзілася Яўгенія Шастак, беларуская грамадзкая дзеячка, лекарка, вязень ГУЛАГУ.

**1947** – У Менску памёр Валянцін Таўлай, беларускі паэт, дзеяч заходнебеларускага руху. У 1920-21 з бацькамі жыў у Зэльве, вучыўся ў Вялікай Кракотцы і Слоніме, працаваў у Лідзе. Пахаваны на Вайсковых могілках у Менску.

## *28 красавіка*

**1794** – Жыхары Гародні далучыліся да паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі.

**1900** – У Кушлянах (Смургонскі р-н) памёр Францішак Багушэвіч, беларускі паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1863-64. Пахаваны ў Жупранах (Ашмянскі р-н).

**1911** – Нарадзіўся Васіль Каляда, актывіст КПЗБ, настаўнік, у 1959-69-дырэктар Дома музею Адама Міцкевіча ў Навагрудку.

**1919** – Пасьля адыходу нямецкіх частак у Гародню ўвайшло польскае войска.

**1944** – У Іўі памёр Ільдафонс Бобіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, выдавец. Пахаваны каля івейскага касьцёлу.

**1945** – На фронце ў час штурму г. Гдыня (Польшча) загінуў Сяргей Крывец (нар. у 1909 у в. Сухінічы, Мастоўскі р-н), беларускі паэт.

## *29 красавіка*

**1893** – У Дамброве Беластоцкай (Сакольшчына) нарадзіўся Зыгмунт Штафінскі, каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху 20 ст. З 1922-га служыў у Ашмянскім дэканаце, у 1930-31 – вікарыем у Дзятлаве.

**1931** – Памёр Яўхім Карскі, беларускі філолаг-славіст, мовазнавец, літаратуразнавец, фальклярыст, этнограф, палеограф, археограф, бібліёграф, педагог, заснавальнік навуковага беларусазнаўства. Нараджэнец в. Лаша (Гарадзенскі р-н). Пахаваны ў Санкт-Пецярбургу.

## *30 красавіка*

Сусьветны дзень пародненых гарадоў.

**1632** – Памёр Жыгімонт III Ваза, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1587-1632 гг.

**1945** – У в. Сьліжы Пескаўскія (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Віктар Дубіцкі, беларускі настаўнік, сябра КХП БНФ.

**2007** – Памёр Васіль Супрун, беларускі паэт, краязнавец, археолаг, вязень ГУЛАГу. Нараджэнец в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н). Пахаваны ў Слоніме.

## 1 траўня

**1576** – Стэфан Баторы стаў каралём Рэчы Паспалітай.

**1906** – У Гародні нарадзілася Аляксандра Бергман (дзявочае Кучкоўская), беларуская дзяячка КПЗБ, дасьледніца гісторыі, вязьня савецкіх канцлягераў.

**1931** – У Слоніме нарадзіўся Алег Лойка, беларускі пісьменьнік, літаратуразнавец, перакладнік, педагог.

## 2 траўня

**1447** – У Вільні Вялікі князь ВКЛ Казімер IV Ягелёнчык выдаў прывілей, які замацоўваў шырокія правы баяр.

**1917** – Нарадзіўся Фелікс Шунейка, беларускі майстар мастацкага ткацтва. З 1949 г. жыў і працаваў у Гародні. Памёр у 2006 г.

**1920** – У Менску выйшаў першы нумар часопісу "Рунь" (рэдактар Янка Купала, выдавец Вацлаў Іваноўскі), выдаваўся да 4 ліп. 1920.

**1939** – Памёр Іван Сініцкі, беларускі мемуарыст, падарожнік, дасьледнік Новай Зеляндыі, удзельнік беларускага руху пачатку 20 ст. Нарадзіўся на Смургоншчыне ў 1856 ці 1861 г.

**1954** – У Вільні памёр Павал Пяцарскі, беларускі каталіцкі сьвятар. У 1925-32 служыў пробашчам у Жупранах, быў кіраўніком Ашмянскага дэканату. Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

## 3 траўня

**1722** – У Дзятлаве нарадзіўся Станіслаў Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ.

**1791** – Вялікі Сойм Рэчы Паспалітай у Варшаве прыняў новую Канстытуцыю.

## 4 траўня

**1799** – У мяст. Мір нарадзіўся Фларыян Бохвіц, асьветнік, філосаф, пісьменьнік.

**1863** – У баі пад Дубічамі (цяпер Летува) загінуў Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1863 году.

## 5 траўня

**1831** – У маёнтку Рутка (Навагрудзкі пав.) нарадзіўся Уладзіслаў Борзабагаты, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64, лекар, мемуарыст.

**1900** – У в. Клюшчаны (Астравецкі р-н) нарадзіўся Адольф Клімовіч, беларускі каталіцкі, грамадзкі дзеяч, журналіст, выдавец, вязень савецкіх канцлягераў.

**1902** – У в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Мікола Гарошка, дзеяч эміграцыі (ЗША), першы старшыня БАЗА.

**1910** – У в. Кунцаўшчына (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Апанас Цыхун, беларускі краязнавец, педагог, пісьменьнік.

**1968** – У Дзятлаве адчынены музей народнай славы.

**1978** – Адкрыўся Гарадзенскі Дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы.

## 6 траўня

**1434** – Вялікі князь ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч у Троках выдаў прывілей, які быў скіраваны на зьяднаньне вакол яго феадалаў.

**1761** – У в. Ясенцы (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец, дасьледнік расьліннага і жывёльнага сьвету Беларусі.

**1924** (ці 1922) – У Лідзе нарадзіўся Данат Яцкевіч, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія).

**1926** – У Вільні памёр Казімер Сваяк (сапр. Канстанцін Стаповіч), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт. Нараджэнец в. Барані (Астравецкі р-н). Пахаваны на могілках Росы.

**1938** – На піярскім касьцёле ў Лідзе была адчынена дошка ў гонар Людвіка Нарбута.

**1965** – У Гародні на доме, дзе жыў Максім Багдановіч, адчынена мемарыяльная дошка.

## 7 траўня

**Сьвята** абраза Маці Божай Жыровіцкай.

**1794** – Выданы Палянэцкі (каля мястэчка Палянэц) універсал Тадэвуша Касьцюшкі – спроба рэфармаваньня становішча сялян у Рэчы Паспалітай.

**1794** – Пад Палянамі (Ашмянскі пав.) адбылася бітва паміж паўстанцамі і расейскім войскам.

## 8 траўня

**1551** – Памерла Барбара Радзівіл, вялікая княгіня літоўская, каралева польская. Жыла ў Геранёнах з 1538 па 1542.

**1674-Каралём** Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Ян Сабескі (быў ім да 1696).

**1896** – У в. Кавалішкі (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Антон Дамброўскі, беларускі грэцка-каталіцкі дзеяч, філосаф, тэолаг. З 1925 працаваў у Альбярціне і Сынковічах.

## 9 траўня

**1866** – У Гародні нарадзіўся Леў Бакст (сапр. Розэнберг), парыж-

скі жывапісец і графік, тэатральны мастак, заканадаўца моды.

## 10 траўня

**1966** – У Лёндане (Вялікабрытанія) памёр Аркадзь Варава (нар. у 1918 у в. Вялікія Жухавічы, Карэліцкі р-н), удзельнік БКА, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія), выдавец.

**1986** – Памёр Аляксандар Карповіч, беларускі выдавец, актывіст КПЗБ. Нараджэнец в. Трашчычы (Карэліцкі р-н).

**1998** – У Гародні памёр Уладзімір Шурпа, беларускі паэт, журналіст, педагог.

## 11 траўня

**1989** – У Сібіры памёр Сяргей Гайка (нар. у 1912 у в. Ясьвілы, Вараноўскі р-н), беларускі журналіст, вязень ГУЛАГу.

## 12 траўня

**1775** – У Гародні была заснаваная Вышэйшая медыцынская акадэмія.

## 13 траўня

**Сьвята** Гарадзенскай грэцка-каталіцкай парафіі Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме.

**1840** – У фальв. Кункулка (Лідзкі пав.) нарадзіўся Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64.

**1870** – У сядзібе Ізабэлін (Навагрsuccрадзкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Турчыновіч (згінуў бязь вестак пасьля 1917), беларускі гісторык, краязнавец, педагог.

**1879** – У в. Задзьвеі (Навагрудзкі пав.) нарадзіўся Янка Серада (згінуў бязь вестак пасьля 19.11.1943), дзеяч беларускага нацыянальнага руху, страшыня прэзыдыюму Рады БНР.

**1875** – У маёнтку Ендрыхоўцы (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Жукоўскі (загінуў у гітлераўскім канцлягеры Прушкава ў жн. 1944), беларуска-польскі мастак.

**1931** – У в. Казулішкі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Дзежыц, беларускі краязнавец.

## 14 траўня

**1613** – Мястэчка Жыровічы атрымала Магдэбургскае права.

**1995** – У Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны рэферэндум, які зьмяніў дзяржаўную сымболіку, надаў расейскай мове статус дзяржаўнай, зрабіў зьмены ў Канстытуцыю, надаўшы права прэзідэнту распускаць парлямант, пастанавіў пра эканамічную інтаграцыю з Расеяй.

## 15 траўня

**1909** – У в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Язэп Найдзюк (Александровіч), дзеяч заходнебеларускага вызвольнага руху, выдавец, гісторык. Аўтар кнігі “Беларусь учора і сяньня”.

**1912** – У в. Чамяры (Слонімскі р-н) нарадзіўся Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), беларускі паэт.

**1916** – У в. Запольле (Наваградзкі р-н) нарадзілася Ніна Тарас, беларуская паэтка.

**1944** – У в. Занюкі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Антон Сьцяпура, дзеяч беларускага руху ў Гародні, сябра БНФ.

## 16 траўня

**1686** – Паміж Рэччу Паспалітай і Расеяй заключаны “Вечны мір”.

**1916** – Памёр Валер’ян Вільчэўскі, лекар, удзельнік паўстаньня 1863-64 у атрадзе Францішка Юндзіла ў Слонімскім пав. Нараджэнец в. Сянно (Наваградзкі р-н).

**1986** – У Гародні адчынены Дом-музей Максіма Багдановіча.

## 17 траўня

**1934** – Расстраляны Алесь Салагуб, беларускі паэт, публіцыст. Нараджэнец в. Зарудзічы (Смургонскі р-н).

## 18 траўня

**Міжнародны** дзень музеяў.

**1910** – Памерла Эліза Ажэшка, польска-беларуская пісьменьніца, удзельніца паўстаньня 1863-64. З 1869 жыла ў Гародні. Пахавана на старых каталіцкіх могілках у Гародні.

**1991** – У нідэрляндзкім Вашэнары, перамогшы па пенальці “Саттан” зь Вялікабрытаніі, гарадзенскі “Рытм” заваяваў еўрапейскі Кубак кубкаў па хакеі на траве.

## 19 траўня

**Сьвята** Слонімскай грэцка-каталіцкай парафіі Сьвятой Тройцы.

**1780** – Нарадзіўся Людвік Міхал Пац, вайсковы дзеяч, удзельнік паўстаньня 1830-31. Валодаў маёнткам Ражанка (Шчучынскі р-н), меў палац у Гародні.

**1792** – Каля Міру адбылася бітва беларуска-літоўскіх харугваў з расейскімі захопнікамі.

## 20 траўня

**1299** – Памёр Даўмонт, князь нальшчанскі і пскоўскі. Канані-

заваны праваслаўнай царквой.

**1907** – У в. Новая Каменка (Наваградзкі р-н) нарадзілася Ванда Банішэўская, сястра супольнасьці Сёстры ад Анёлаў, носьбітка стыгматаў, вязьня ГУЛАГу.

**1965** – Памёр Антон Жэбрак, беларускі генетык, селекцыянер, грамадзкі дзеяч. Нараджэнец в. Збляны (Зэльвенскі р-н).

**1994** – У Жыровічах былі адсьвяткаваны 500-ыя ўгодкі з часу зьяўленьня Жыровіцкай Божай Маці і 520-ыя ўгодкі з часу заснаваньня манастыра.

# *21 траўня*

**1688** – У Дзятлаве нарадзіўся Мікалай Фаўстын Радзівіл, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ.

**1923** – У в. Равяцічы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Міхась Капціловіч (памёр у Наваградку ў 1990-ых), настаўнік, удзельнік Саюзу Вызваленьня Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў.

**2011** – У лесе паблізу вёскі Кадыш (Гарадзенскі р-н), быў асвечаны памятны крыж у гонар паўстанцаў 1863 году.

# *22 траўня*

**1792** – Ашмяны атрымалі герб.

**1863** – У Вільні за падтрымку паўстанцаў расейскімі карнікамі расстраляны ксёндз Станіслаў Ішора. Служыў вікарыем у жалудоцкім касьцёле.

**1863** – Пераможны бой паўстанцкіх атрадаў з расейскімі карнікамі ля вёскі Кадыш (Гарадзенскі р-н).

**1899** – У в. Малыя Азяранкі (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Мікола Чарнецкі, беларускі публіцыст, педагог, грамадзкі дзеяч.

**1940** – У мясцовасьці Русальшчына невядомымі быў забіты Вацлаў Родзька, беларускі каталіцкі сьвятар. Працаваў у гарадзенскім фарным касьцёле, у 1920-28 служыў у Гальшанах (Ашмянскі р-н), з 1929 – у Старых Васілішках (Шчучынскі р-н), з 1937 – у Трабах (Івейскі р-н). Пахаваны пры касьцёле ў Трабах.

# *23 траўня*

**1761** – Шчучын атрымаў герб.

**1888** – У Гародні нарадзіўся Караль Румель, першы алімпіец зь Беларусі (гульні 1912, Стакгольм), коннік-спартовец.

**1946** – У менскай турме НКВД памёр Кастусь Езавітаў, дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, публіцыст, перакладнік, педагог, гісторык. Пэўны час (канец 1918-пач. 1919) дзеіў у Гародні.

**1967** – У Чыкага (ЗША) памёр Мікола Дзямідаў, вайсковы, гра-

мадзка-палітычны дзеяч. У 1943 акруговы школьны інспектар, арганізатар батальёну беларускай самааховы ў Лідзе.

**1980** – У Гародні памёр Мікалай Марцінчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, лекар, вязень, савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Кубельнікі (Бераставіцкі р-н).

## 24 траўня

**Дзень** славянскай пісьменнасьці.

**1377** – Памёр Вялікі князь ВКЛ Альгерд.

**1863** – У Вільні за чытаньне ў Вавёрскім касьцёле (Лідзкі р-н) Маніфэсту паўстаньня расстраляны ксёндз Раймунд Зямацкі.

**1930** – У Наваградку нарадзілася Галіна Русак (дзявоч. Родзька), беларуская мастачка-эмігрантка (з 1949 жыла ў ЗША).

**1963** – У Гародні нарадзіўся Зьміцер Кісель, беларускі грамадзкі дзеяч, журналіст.

**1983** – У Лёндане памёр Павал Навара, удзельнік БКА, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). Вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай семінарыі. Нараджэнец в. Купіск (Наваградзкі р-н). Пахаваны на могілках у р-не Фінчлі ў Лёндане.

**1996** – У Гародні пачаўся І фэстываль нацыянальных культур (доўжыўся 24-26 траўня).

## 25 траўня

**1792** – Геранёны атрымалі герб.

**1868** – У Ваўкавыску нарадзіўся Давыд Яноўскі, адзін з мацнейшых шахматыстаў сьвету канца 19-пач. 20 ст., з 23 гадоў жыў у Францыі і ЗША.

**1898** – У Ленчыцах (Польшча) нарадзіўся Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадзска-культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-ых жыў і дзеіў у Слоніме.

**1905** – У мяст. Казлоўшчына (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), беларускі пісьменьнік, паэт, журналіст, выдавец, з 1944 жыў у эміграцыі (Нямеччына, Канада).

**1910** – У Гародні нарадзіўся Пётр Кас, амэрыканскі вучоны-хімік. Памёр у 1980-ыя.

**1917** – Памёр Максім Багдановіч, беларускі паэт, перакладнік, крытык. Пахаваны ў Ялце на старых гарадскіх могілках. У Гародню пераехаў з бацькамі ў год нараджэньня.

**1937** – У в. Янаўшчына (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Сяргей Сідар, беларускі географ, педагог.

## 26 траўня

**1873** – Памёр Міхаіл Дзьмітрыеў (нар. у 1832 у Пецярбургу),

расейска-беларускі этнограф, фальклярыст, педагог. Быў дырэктарам гімназіі ў Наваградку, першым дырэктарам (1867-73) Гарадзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Пахаваны ў Гародні на старых праваслаўных могілках.

**1994** – У Сіднэі (Аўстралія) у аўтамабільнай катастрофе загінуў Кастусь Сіткоўскі, беларускі настаўнік, эмігрант (Аўстралія). Нараджэнец Наваградку.

**1999** – Памерла Лідзія Ялоўчык (у замужжы Лісок), беларуская пісьменьніца, паэтка, педагог. Нараджэнка в. Марцянаўцы (Ваўкавыскі р-н).

## 27 траўня

**1871** – У Францыі версальцамі расстраляны Канстанцін Далеўскі (нар. у 1837 у фальв. Кункулка, Лідзкі пав.), удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1900** – У в. Макашы (Нясвіжскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Жылка, беларускі паэт, перакладнік, публіцыст, крытык. Скончыў вучэльню ў Міры.

**1937** – У в. Мілявічы (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Міхась Біч, беларускі гісторык.

**1981** – Памёр Уладзімір Рубацкі, летувіска-беларускі сьпявак. Нараджэнец Ашмянаў.

## 28 траўня

**1836** – У в. Субартоніс (Варэнскі р-н, Летува) нарадзіўся Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, фальклярыст, музыказнавец. Жыў у Вішневе (Смургонскі р-н).

**1924** – У в. Мікалаева (Івейскі р-н) нарадзіўся Леанід Побаль, беларускі археолаг.

## 29 траўня

**1909** – У Ваўкавыску нарадзілася Яніна Жэймо, акторка тэатру і кіно.

## 30 траўня

**1610** – Вялікі князь Жыгімонт III Ваза надаў Ліпнішкам магдэбургскае права.

**1829** – Памёр Францішак Сапега, генерал, удзельнік паўстаньня 1794 г, яго кіраўнік у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах. Трымаў у Дзярэчыне тэатар.

**1862** – У Наваградку нарадзіўся Мікалай Лявонцьеў, вайсковец, падарожнік, дыплямат. Быў графам Абісінскай імперыі.

**1976** – У Кінгстане (Антарыё, Канада) памёр Аляксей Грыцук, дзеяч беларускай эміграцыі (Канада). У 1930-ыя быў на вайсковай службе ў Лідзе.

**2006** – У Гародні памёр Алесь

Ліпень, беларускі мастак, скульптар.

## 31 траўня

**1800** – У Варшаве памёр Міхал Казімер Агінскі (нар. у 1730, або 1728), магнат, Слонімскі стараста, вялікі гетман Літоўскі.

**1924** – У Пазнані (Польшча) памёр Канстанцін Горскі, кампазітар, музыкант-скрыпач. Нараджэнец Ліды.

**1938** – Расстраляны Сямён Якубчык, беларускі гісторык, публіцыст. Нараджэнец в. Калантаі (Ваўкавыскі р-н).

**1979** – У Амстэрдаме (штат Новы Ёрк, ЗША) памёр Францішак Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, рэлігійна-асьветніцкі публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі (Францыя, Бельгія, ЗША). Нараджэнец в. Чухны (Смургонскі р-н).

## 1 чэрвеня

**1434** – Памёр вялікі князь і кароль Ягайла (нар. каля 1348).

**1891** – У Ліпнішках (Івейскі р-н) нарадзіўся Янка Францук, беларускі каталіцкі сьвятар, вязень савецкага канцлягеру.

**1911** – У в. Чамяры (Слонімскі р-н) нарадзіўся Якуб Міско, беларускі пісьменьнік, журналіст.

**1911** – У Гародні нарадзіўся Анатоль Марцінкевіч, адзін з пачынальнікаў беларускага баскетболу.

**1970** – Памёр Тадэвуш Іваноўскі (Тадас Іванаускас), беларуска-летувіскі заолаг, педагог. Нараджэнец м. Лябёдка (Шчучынскі р-н).

## 2 чэрвеня

**1926** – У в. Запольле (Наваградзкі пав.) нарадзіўся Пятро Рашэтнік, дзеяч нацыянальнага руху, сябра СБМ, вязень ГУЛАГу. Вучыўся ў Наваградку ў гімназіі і настаўніцкай семінарыі.

## 3 чэрвеня

**1786** – У мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Канстанцін Тызэнгаўз, асьветнік, прыродазнавец.

**1863** – Ля вёскі Расолішкі (Ашмянскі пав.) адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам Зыгмунта Мінейкі і расейскім войскам.

**1924** – У в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Тарасюк, удзельнік беларускага патрыятычнага падпольля на Слонімшчыне ў 1946-47.

**1997** – У Атаве (Канада) памёр Янка Сурвілла, беларускі грамадзкі дзеяч, эмігрант (Нямеччына, Гішпанія, Канада). Нараджэнец в. Белевічы (Смургонскі р-н).

## 4 чэрвеня

**1847** – У Варшаве памёр Стафан Грабоўскі, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794. Нараджэнец в. Асташына (Наваградзкі р-н).

**1952** – У Чыкага памёр Язэп Варонка, беларускі палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі (ЗША). Адзін з заснавальнікаў у Гародні таварыства “Бацькаўшчына”.

**1984** – Памёр Іван Хомчык, удзельнік беларускага патрыятычнага падпольля на Слонімшчыне ў 1946-47. Пахаваны на радзіме ў в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н).

## 5 чэрвеня

**1792** – Мястэчка Цырын атрымала герб.

**1863** – За ўдзел у паўстаньні расстраляны Альбэрт Ласковіч, уладаньнік маёнтку Кір'янаўцы (Лідзкі р-н).

**1870** – У в. Барацін (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Зыгмунт Лазінскі, каталіцкі сьвятар, біскуп.

**1911** – У в. Копцевічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Адам Дасюкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, журналіст.

## 6 чэрвеня

**1633** – Мястэчка Ліпнішкі (Іўеўскі р-н) атрымала герб.

**1819** – У Сьвіслачы адкрылася гімназія.

**1841** – У маёнтку Мількаўшчына (Гарадзенскі р-н), нарадзілася Эліза Ажэшка (дзявочае Паўлоўская, польска-беларуская пісьменьніца, удзельніца паўстаньня 1863-64.

**1863** – У Магілёве расейскімі карнікамі расстраляны (ці 18 чэрв.) Ільдафонс Анцыпа (нар у 1815 (?) у в. Мілавань каля Гародні), публіцыст удзельнік паўстаньняў 1830-31,1863 гг., палявы камандзір. Вучыўся ў Слоніме.

**2011** – У Менску памёр Уладзімір Конан, філосаф, літаратуразнавец, культуролаг, публіцыст. Нараджэнец в. Вераскава (Навагрудзкі р-н).

## 7 чэрвеня

**1492** – У Гародні памёр Казімер Ягелончык, вялікі князь ВКЛ (1440-92).

**1563** – Жыгімонтам ІІ Аўгустам выданы Віленскі прывілей, які параўняў у ВКЛ у правах праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў.

**1825** – У мяст. Тургелі (цяпер Летува) нарадзіўся Эдвард Паўловіч, мемуарыст, мастак, асьветнік, удзельнік паўстаньня 1863-64. Вучыўся ў Жыровічах і Слоніме.

**1880** – У маёнтку Лябёдка (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Іваноўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады, асьветнік, выдавец, міністар асьветы ў Радзе БНР, бурмістар Менску (1941-43).

**1984** – Памёр Іван Мазалеўскі (нар. у 1894 у в. Вайнілавічы Мастоўскага р-ну), беларускі народны казачнік.

## 8 чэрвеня

**1895** – У в. Погіры (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Ігнат Дварчанін, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог.

**1981** – Створаны Гарадзенскі лялечны тэатар.

# 9 чэрвеня

**1728** – Нарадзіўся Казімер Рагоўскі, езуіцкі тэолаг, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, выкладаў у Наваградку.

**1809** – Памёр Францішак Хамінскі (дата нар. невядомая), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся на Слонімшчыне.

**1915** – У в.Клімавічы (Лідзкі р-н) нарадзілася Людміла Жамойціна (па мужу-Янкоўская), беларуская настаўніца, у 1939-41 працавала ў Лідзе, пасьля вайны ў эміграцыі (Польшча).

**1919** – На зьезьдзе была ўтворана Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны.

**1929** – У Гародні пачаўся так званы працэс 75-і – суд, арганізаваны польскімі ўладамі над дзеячамі заходнебеларускага вызвольнага руху (доўжыўся да 21 чэрвеня 1929 г.).

# 10 чэрвеня

**1794** – У Гародні ўтвораная Цэнтральная дэпутацыя Вялікага Княства Літоўскага – выканаўчы орган паўстаньня 1794 г.

**1885** – У Гародні адбыўся моцны пажар, большая частка гораду згарэла, пацярпела ажно 2392 сям'і.

**1923** – У Варшаве памёр Міхал Федароўскі, фальклярыст, этнограф, археолаг, калекцыянер, які шмат гадоў працаваў на Гарадзеншчыне. Пахаваны на варшаўскіх Павонзкаўскіх могілках.

# 11 чэрвеня

**1976** – Памёр Леанард Чарняк, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. Нараджэнец в. Дордзішкі (Смургонскі р-н). Вучыўся ў Ашмянах, працаваў у Эйшышках, з 1920 у Смургонях, у 1933-36 у Трабах.

**1978** – У Лайле (штат Ілінойс) памёр Янка Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (Канада, Швайцарыя, ЗША), тэолаг. Нараджэнец в. Клешнякі (Шчучынскі р-н).

# 12 чэрвеня

**1895** – У фальв. Кур'янаўшчына (Лагойскі р-н) нарадзіўся Леапольд Родзевіч (загінуў пасьля 1938 у савецкім канцлягеры), беларускі палітычны і грамадзкі дзеяч, драматург, публіцыст, паэт. У 1924 кіраваў Гарадзенскай арганізацыяй КПЗБ.

**1987** – Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Гарадзенскага абласнога аддзялення Беларускага Фонду Культуры (БФК). Старшынём абраны Сяргей Габрусевіч.

## 13 чэрвеня

**1859** – У Лідзе нарадзіўся Канстанцін Горскі, кампазітар, музыкант-скрыпач.

**1943** – У в. Васілішкі (Шчучынскі р-н) польскімі падпольнікамі забіты Юльян Саковіч, дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, актывіст ТБШ і КПЗБ, Беларускай народнай самапомачы. Пахаваны ў Лідзе.

**1999** – У Варшаве Папа Ян Павал II абвесьціў пра 108 новых блаславёных, мучанікаў II сусьветнай вайны. Сярод іх 12 асобаў зь Беларусі.

## 14 чэрвеня

**1634** – Паміж Рэччу Паспалітай і Расейскай дзяржавай была падпісана Палянаўская мірная дамова.

**1900** – У в. Несьцяровічы (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі, беларускі сьпявак, педагог, дзеяч эміграцыі.

**1903** – Памёр Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, фальклярыст, музыказнавец. Жыў у Вішневе (Смургонскі р-н).

**1987** – У Лёндане памёр Кастусь Глінскі, юрыст, вязень савецкага канцлягеру, ваяваў у Арміі Андэрса, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). У 1930-ых працаваў суддзём у Ашмяне.

**1997** – У Карэлічах прайшлі міжнародныя чытаньні, прысьвечаныя Ігнату Дамэйку. Заснаваньне ў Медзьвядцы музея Дамэйкі.

## 15 чэрвеня

**1896** – У мяст. Любча (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Павал Каравайчык, беларускі культурны дзеяч, пісьменьнік.

## 16 чэрвеня

**1931** – У Вільні з-за перасьледу польскімі ўладамі застрэліўся Францішак Рамейка, беларускі каталіцкі сьвятар. У 1909-10 працаваў у Іўі.

**1955** – У Нью Ёрку памёр Васіль Рагуля, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, пасол польскага сойму, педагог, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Бельгія, ЗША). Нараджэнец в. Ачукевічы (Навагрудзкі р-н).

**1999** – Памёр Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч беларускай эміграцыі (Вялікабрытанія, Аўстралія). Выкладаў у 1930-ыя на настаўніцкіх курсах у Гародні. Пахаваны ў Мэльбурне.

## 17 чэрвеня

**1793** – У Гародні пачаўся апошні сойм Рэчы Паспалітай. Зацьвердзіў другі падзел Рэчы

Паспалітай і прыняў новую канстытуцыю.

**1848** – Памёр Максіміліян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы. Нараджэнец мяст. Падароск (Ваўкавыскі р-н).

**1938** – У Омску расстраляны Аркадзь Смоліч, беларускі нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ, картограф. У ліст.-сьнежн. 1918 па даручэньні ўраду БНР працаваў у Гародні.

**1958** – У Рызе памёр Уладзімір Пігулеўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Нараджэнец Гародні.

**2006** – Памёр Іван Сяргейчык, беларускі празаік, паэт, вайсковец. Пахаваны ў Слоніме.

## *18 чэрвеня*

**1806** – У маёнтку Парэчча (Слонімскі р-н) нарадзіўся Міхал Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызвольнага руху, удзельнік паўстаньня 1830-31.

**1889** – У Ваўкавыску нарадзіўся Уладзімер Каліноўскі (расстраляны ў савецкім зьняволеньні (1940-?)), беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст.

**1911** – У в. Мінкі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Аляксандар Шыдлоўскі, беларускі культурны дзеяч, кампазітар.

**2011** – У Гародні была адчынена мемарыяльная дошка ў гонар кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага.

## *19 чэрвеня*

**1669** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Міхал Вішнявецкі (кіраваў да 10.11.1673).

**1912** – У мяст. Радунь (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Пятро Бітэль, беларускі пісьменьнік, паэт, перакладнік, педагог, праваслаўны сьвятар.

**1914** – У Ашмяне нарадзіўся Уладзімір Рубацкі, летувіска-беларускі сьпявак.

**1924** – У в. Бычкі (Ушацкі р-н) нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. З 1947 па 1978 жыў і працаваў у Гародні.

**1941** – Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі сябраў некамуністычных грамадзкіх і палітычных арганізацый.

## *20 чэрвеня*

**1566** – У Грыпсхольме (Швецыя) нарадзіўся Жыгімонт III Ваза, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1587-1632 гг.

**1794** – Каля Міру адбыўся бой паміж паўстанцамі Касьцюшкі і расейскім войскам.

**1914** – У в. Дзяляцічы (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Чабатар, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

**1925** – У в. Белевічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Янка Сурвіла, беларускі грамадзкі дзеяч, эмігрант (Нямеччына, Гішпанія, Канада).

**2005** – Памерла Аляксандра Бергман, беларуская дзяячка КПЗБ, дасьледніца гісторыі, вязьня савецкіх канцлягераў. Нараджэнка Гародні.

**2011** – У Гародні памёр Эдуард Мазько, беларускі паэт, гісторык. Пахаваны ў Мастах.

**2013** – У Менску памёр Уладзімір Сакалоўскі, беларускі літаратуразнавец. Нараджэнец в. Мяльканавічы (Слонімскі р-н).

## *21 чэрвеня*

**1741** – У Ліёне (Францыя) нарадзіўся Жан-Эмануіл Жылібэр, францускі прыродазнавец, вучоны, які працаваў у Гародні і Вільні.

**1948** – У Менску нарадзіўся Ян Матусевіч, уніяцкі сьвятар, дэкан Беларускай Грэцка-Каталіцкай царквы. З 1980 па красавік 1990 жыў і працаваў у Барунах.

**1967** – У Вільні памёр Фелікс Стацкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Грамады і ТБШ. Нараджэнец Шчучына.

## *22 чэрвеня*

**1905** – Памёр Вільгельм Краеўскі, арганізатар шкляной вытворчасьці на Лідчыне. Пахаваны на могілках паблізу в. Агароднікі (Лідзкі р-н).

**1919** – У Гародні выйшла газета “Родны край” (выдавалася да 19.7.1919, была забароненая на 6-ым нумары).

**1941** – Напад фашысцкай Германіі на СССР. Працяг другой сусьветнай вайны на тэрыторыі Гарадзеншчыны.

**1943** – На Беларусі была ўтворана моладзевая патрыятычная арганізацыя – Саюз Беларускай Моладзі (СБМ, дзеіў у Беларусі да ліпеня 1944).

**1993** – У Менску ў фінале Кубку Беларусі па футболе гарадзенскі “Нёман” (галоўны трэнер Станіслаў Уласевіч) перамог рэчыцкі “Ведрыч” – 2:1 і ўпершыню заваяваў трафей.

**2003** – У шпіталі ў Бараўлянах (Менскі р-н) памёр Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. З 1947 па 1978 жыў і працаваў у Гародні. Пахаваны ў Менску.

## *23 чэрвеня*

**1792** – Мястэчка Радунь (Вараноўскі р-н) атрымала герб.

**1941** – У Гародні ўсталявалася нямецкая фашыстоўская ўлада.

## *24 чэрвеня*

**1767** – У в. Асташына (Навагрsucceedingзкі р-н) нарадзіўся Стафан Грабоўскі, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794.

**1812** – На Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна 1812 году.

**1863** – У Лідзе за чытаньне маніфэсту паўстаньня ў в. Ішчална (Шчучынскі р-н) расстраляны ксёндз Адам Фалькоўскі.

**1941** – Войскі фашыстоўскай Нямеччыны захапілі Гародню.

## *25 чэрвеня*

**1652** – Мястэчка Жыровічы (Слонімскі р-н) атрымала Магдэбургскае права.

**1660** – Адбыліся бітвы войскаў Рэчы Паспалітай з расейцамі пад Зэльвай, Галынкай, Дзярэчынам.

**1685** – Мястэчка Астрына (Шчучынскі р-н) атрымала гарадзкія правы.

**1794** – Бой паміж паўстанцамі Касьцюшкі і расейскім войскам ля мястэчка Солы (Смургонскі р-н).

**1840** – Расейскай імперыяй было спынена дзеяньне Статута ВКЛ 1588 у Гарадзенскай, Віленскай і Менскай губернях.

**1894** – У в. Мішуковічы (Івейскі р-н) нарадзіўся Антон Ус, беларускі і расейскі грамадзка-культурны дзеяч.

## *26 чэрвеня*

**1819** – У Вільні памёр Францішак Нарвойш, асьветнік, багаслоў, філосаф, матэматык. Жыў і працаваў у Гародні.

**1863** – Расейскімі карнікамі ў ваколіцах Наваградку па загадзе Міхаіла Мураўёва расстраляны Адам Пуслоўскі (нарадзіўся ў 1842 (?) на Наваградчыне), удзельнік вызвольнага паўстаньня. Пахаваны ля в. Сенна (Наваградзкі р-н).

**1932** – У Польшчы памёр Вінцук Гарасімовіч, беларускі грамадзка-рэлігійны дзеяч, рыма-каталіцкі сьвятар. Нарадзіўся ў 1870 у мяст. Мір.

**1932** – У в. Зачэпічы (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Яўген Місарэвіч, беларускі гісторык. Працаваў у Дзятлаве, Радуні, Смаргоні, Гародні. Памёр у 2011 г.

**1968** – Памёр Сьцяпан Войтанка, праваслаўны сьвятар (вучыўся ў Гародні, працаваў у Дварцы і Марозавічах Дзятлаўскага р-ну), дзеяч Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў ЗША.

## 27 чэрвеня

**1697** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Аўгуст II Моцны (кіраваў да 1733).

**1784** – Нарадзіўся (Піншчына) Леан Бароўскі, літаратуразнавец, педагог. У 1807-11 быў выкладнікам паэтыкі і рыторыкі ў Сьвіслацкай гімназіі.

**1919** – У в. Бігосава (Віцебшчына) бальшавікамі расстраляны Міхал Буклярэвіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. 24.3.1920 урачыста перапахаваны ў Іказьні (Браслаўскі р-н). Нараджэнец в. Лінгі (Вараноўскі р-н).

**1933** – У в. Мінявічы (Мастоўскі р-н) самагубствам скончыў Міхась Явар (сапр. Карась), беларускі паэт, удзельнік Грамады, ТБШ. Пахаваны ў Навасёлках (Мастоўскі р-н).

## 28 чэрвеня

**1931** – У Наваградку адчынены курган Адама Міцкевіча.

**1932** – У в. Катчыно (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Пётр Марціноўскі, беларускі педагог, краязнавец, літаратуразнавец, кіраўнік Зэльвенскага літаратурнага аб'яднаньня.

## 29 чэрвеня

**1440** – Вялікім князем ВКЛ абраны Казімер IV Ягелончык, малодшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай.

**1925** – У Менску нарадзіўся Юры Астроўскі, беларускі біяхімік, акадэмік, грамадзкі дзеяч. Жыў і працаваў у Слоніме, Гародні.

**1940** – Дэпартацыя з тэрыторыі Заходняй Беларусі бежанцаў.

**1974** – У Карэлічах адчынены краязнаўчы музей.

**2002** – У Наваградку пачаўся двухдзённы міжнародны фэст сярэднявечнай культуры "Наваградскі замак-2002".

## 30 чэрвеня

**1812** – У Гародню ўвайшлі напалеонаўскія войскі.

**1866** – Памёр Антон Глінскі (нар. у 1797), беларуска-польскі пісьменьнік, фальклярыст, перакладнік. Нараджэнец Шчорсаў.

## 1 ліпеня

**1569** – Была падпісана Люблінская ўнія – міжнародна-прававы акт аб'яднаньня ВКЛ з Польшчай у федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую.

**1812** – Напалеон абвесьціў узнаўленьне Вялікага Княства Літоўскага і стварыў часовы ўрад ВКЛ.

**1890** – Памёр Апалін Гофмейстар (нар. у 1825 у Берасьці), дзеяч вызвольнага руху ў 1840-60-ыя). У час паўстаньня 1863-64 цывільны начальнік Гарадзенскага ваяводзтва.

**1902** – У Адэсе нарадзіўся Антон Карніцкі, беларускі мастак. Жыў і працаваў у Слоніме.

**1904** – У Гародні нарадзіўся Генрык Глябовіч, рэлігійны дзеяч, сьвятар, тэолаг.

## 2 ліпеня

**1949** – У Смургонях нарадзіўся Віктар Шоць, беларускі настаўнік, краязнавец, актывіст Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ.

**1989** – У Лідзе адкрыты помнік Адаму Міцкевічу (скульптар Валер'ян Янушкевіч).

**1996** – Адбылося адраджэньне традыцыйнага паломніцтва да цудатворнай іконы Маці Божай Будслаўскай. З гэтага года адбываюцца штогадовыя пілігрымкі вернікаў з усёй Беларусі.

## 3 ліпеня

**1792** – Адбылася бітва пад Зэльвай, расейскія войскі занялі Зэльвеншчыну.

**1910** – У в. Міхнаўка (Беласточчына) нарадзіўся Аляксей Грыцук, дзеяч беларускай эміграцыі (Канада). У 1930-ыя быў на вайсковай службе ў Лідзе.

## 4 ліпеня

**1910** – У Парыжы памёр Мікалай Лявонцьеў, вайсковец, падарожнік, дыплямат. Быў графам Абісінскай імпэрыі. Нараджэнец Наваградку.

**1930** – У в. Мялькanавічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Сакалоўскі, беларускі літаратуразнавец.

**1991** – У Гародні адчынены абласны лялечны тэатар.

## 5 ліпеня

**1772** – Расея, Аўстра-Венгрыя, Прусія заключылі ў Пецярбургу трактат пра падзел Рэчы Паспалітай (першы падзел).

**1996** – У Вялікай Бераставіцы адчынены раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

**1998** – У Лідзе выйшаў 1-ы нумар літаратурна-мастацкага часопісу “Ад лідскіх муроў”.

## 6 ліпеня

**1253** – Вялікі князь ВКЛ Міндоўг прыняў тытул караля, каранаваны ў Наваградку.

**1984** – У Воршы памёр Аляксандар Вернікоўскі, беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў з 1950-ых у Дварцы (Дзятлаўскі р-н).

## 7 ліпеня

**1572** – Памёр Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1548-72 гг, фармальна з 1529. Скончылася дынастыя Ягайлавічаў, якая кіравала ў ВКЛ і Польшчы 186 гадоў.

**1633** – У Вільні памёр Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. Пахаваны ў крыпце касьцёлу Сьв. Міхала.

**1796** – У в. Малюшычы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Ян Чачот, асьветнік, паэт, фальклярыст, філамат.

**1955** – Памёр Іван Макей (нар. у Дзярэчыне ў 1882), беларускі народны казачнік. Жыў у Алексічах (Зэльвенскі р-н).

## 8 ліпеня

**1993** – У Менску пачаўся Першы зьезд беларусаў сьвету (доўжыўся 8-10 ліпеня).

## 9 ліпеня

**1863** – У Вільні павешаны Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня.

**2002** – У Міры генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура ўрачыста адкрыў помную дошку на Мірскім замку, якая сьведчыць пра тое, што замак улучаны ў сьпіс сусветнай культурнай спадчыны.

## 10 ліпеня

**1795** – У Гародні было заснавана Вярхоўнае літоўскае кіраваньне.

**1830** – Памёр Людвік Сабалеўскі, філолаг, бібліёграф. Працаваў у Шчорсах (Наваградзкі р-н).

**1863** – У Ваўкавыску быў расстраляны Станіслаў Завістоўскі, адстаўны штабс-капітан, камандаваў паўстанцкім атрадам у Гародні.

**1900** – У в. Стаўрова (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Пётра Сергіевіч, беларускі мастак. На Гарадзен-

шчыне расьпісаў касьцёлы ў Жодзішках, Солах (Смургонскі р-н), Поразаве (Сьвіслацкі р-н).

## 11 ліпеня

**1496** – Гародня атрымала поўнае Магдэбургскае права, якое надаў ёй прывілеем Вялікі князь літоўскі Аляксандар.

**1969** – Памёр Данат Яцкевіч, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Нараджэнец Ліды.

## 12 ліпеня

**1913** – У мяст. Ілья (Вялейскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Голасаў (загінуў пасьля 1944 у савецкім канцлягеры), беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў у 1934-ым у в. Ятвеск (Шчучынскі р-н).

**1941** – Фашыстоўскі акупацыйны рэжым зьмяніў адміністрацыйныя межы Беларусі ў бок іх скарачэньня. У выніку значная частка Гарадзеншчыны адышла да Прусіі (Райху), некаторыя раёны – да Летувы.

**1958** – У Слоніме нарадзіўся Павал Лойка, беларускі гісторык.

## 13 ліпеня

**1592** - Памёр Альбрыхт Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Валодаў маёнткамі Лаздуны, Геранёны (Івейскі р-н).

**1704** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Ляшчынскі.

**1866** – У в. Нача (Ляхавіцкі р-н) нарадзіўся Напалеон Чарноцкі, беларускі публіцыст, перакладнік. З 1936 да сьмерці жыў у в. Вялікая Лябёдка (Шчучынскі р-н).

**1943** – Каля вёскі Навумавічы (Гарадзенскі р-н) гітлераўцамі была расстраляная Марыяна Бярнацкая (дзявочае Чакала, нар. у 1888 у Ліпску каля Ломжы, Польшча), якая ахвяравала жыцьцём за іншага чалавека. 13.6.1999 была беатыфікавана каталіцкім касьцёлам.

**1990** – У Вільні памёр Янка Багдановіч, беларускі пісьменьнік, мемуарыст, вязень савецкіх канцлягероў. Выхоўваўся ў Барунскім дзіцячым прытулку. Пахаваны на віленскіх могілках Саўлес.

**2008** – Памёр Віктар Дубіцкі, беларускі настаўнік, сябра КХП БНФ. Нараджэнец в. Сьліжы Пескаўскія (Мастоўскі р-н). Пахаваны на праваслаўных могілках у Луне (Мастоўскі р-н).

## 14 ліпеня

**1992** – У Гародні памёр Аляксей Карпюк, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў.

**1994** – У Сэйнт-Кэтэрынзе (Канада) памёр Пётр Конюх, беларускі сьпявак, дзеяч эміграцыі (Італія, Бельгія, ЗША, Канада). Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку (ЗША). Нараджэнец в. Турэц (Карэліцкі р-н).

**2007** – Каля ўезду ў Ваўкавыск пастаўлены і асьвечаны крыж у памяць ахвяраў таталітарных рэжымаў ХХ стагоддзя.

## 15 ліпеня

**1410** – Адбылася Грунвальдзкая бітва, разгром Тэўтонскага ордэну войскам ВКЛ.

**1678** – У мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Анастаз Кярсьніцкі (пам. у 1733), каталіцкі тэолаг, правазнавец, педагог, пісьменьнік

**1876** – У фальв. Пешчын (Шчучынскі р-н) нарадзілася Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, у замужжы Кайрыс), беларуская грамадзка-палітычная дзяячка, паэтка, асьветніца, выдавец.

**1903** – На хутары Лагуцева (Дзятлаўскі р-н) нарадзілася Алена Лябецкая, дзяячка ТБШ.

## 16 ліпеня

**1874** – У Брусэлі памёр Віктар Гельтман, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Разам з братам Язэпам стварыў у 1819 г. у Сьвіслацкай гімназіі тайную патрыятычную арганізацыю.

**1976** – У Нью Ёрку (ці Хэўтгопне) памёр Янка Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладнік, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец в. Арляняты (Смургонскі р-н).

## 17 ліпеня

**1919** – Урад Літоўска-Беларускай рэспублікі спыніў сваю дзейнасьць.

**1998** – Памёр Сяргей Сідар, беларускі географ, педагог. Нараджэнец в. Янаўшчына (Зэльвенскі р-н).

## 18 ліпеня

**1946** – У савецкім зьняволеньні памёр Альбін Ярашэвіч (нар. у 1879 у Сакольскім пав.), беларускі каталіцкі тэолаг, грамадзкі дзеяч, вязень фашыстоўскіх і савецкіх турмаў. Працаваў сьвятаром Ваўкавыскага фарнага касьцёлу ў 1927-37.

**1964** – Памерла Любоў Мазалеўская, беларуская артыстка, рэжысёрка, педагог. Нараджэнка в. Каўшова (Мастоўскі р-н).

## 19 ліпеня

**1635** – Памёр Павал Стафан Сапега (нар. у 1565), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, падканцлер. Жыў і пахаваны ў Гальшанах.

**1912** – У в. Мондзіна (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Аляксей Анішчык, беларускі краязнавец, педагог, пісьменьнік.

**1919** – У Варшаве памёр Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстаньня 1863-64, ваяваў на Ашмяншчыне.

**1927** – У в. Загора (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Міхась Саўка, беларуска-бельгійскі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнавец, археолаг.

**1943** – У савецкім канцлягеры загінуў Сяргей Дарожны (сапр. Серада), беларускі пісьменьнік, перакладнік. Нараджэнец Слоніму.

## 20 ліпеня

**1889** – Памёр Фёдар Турук, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, гісторык, педагог. Нараджэнец в. Балотца (Навагрудзкі р-н).

**1950** – У Гародні адчынены сельскагаспадарчы інстытут (цяпер – аграрны ўнівэрсітэт).

## 21 ліпеня

**1770** – Памёр Ульрык Крыштап Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменьнік. Нараджэнец Дзятлава.

**1860** – У Вільні (паводле інш. зьв. у маёнтку Ярылаўка) нарадзіўся Антон Каменскі, графік і жывапісец. Жыў у Ярылаўцы (Ваўкавыскі р-н).

**2008** – У Баранавічах памёр Пятро Рашэтнік, дзеяч нацыянальнага руху, сябра СБМ, вязень ГУЛАГу. Вучыўся ў Навагрудку ў гімназіі і настаўніцкай семінарыі. Пахаваны ў Баранавічах.

## 22 ліпеня

**1831** – У Наваградак увайшлі паўстанцы супраць расейскай акупацыі.

**1852** – У в. Баландзічы (Янаўскі р-н, Берасьцейшчына) нарадзілася Марыя Бутаўт-Андрайковіч, беларуска-польская мастачка. Жыла ў маёнтку Гарнастаевічы (Сьвіслацкі р-н). Памерла ў 1933 г.

## 23 ліпеня

**1906** – У в. Мялькanaвічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Антон Валынчык, беларускі хормайстар, кампазітар, педагог.

**1927** – У в. Вялікая Кракотка (Слоніскі р-н) гуртком ТБШ была пастаўлена камедыя Янкі Купалы “Паўлінка”.

**1996** – У Гародні была адчынена аптэка-музей (у будынку езуіцкага кляштара – найстарэйшая аптэка ў Беларусі).

## 24 ліпеня

**1820** – У Пружанах нарадзіўся Люцыян Крашэўскі, мастак, фатограф, удзельнік паўстаньня 1863-64. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**1567 –** Жыгімонт Аўгуст прымае ў Гародні па чарзе маскоўскае, турэцкае і малдаўскае пасольствы. Мастак Ганс Адэльгаўзер робіць малюнак з натуры. У 1568-ым Мацей Цюндт стварыў па ім гравюру "Старажытная Гародня".

**1896** – У мяст. Нягневічы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Орса, беларускі педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1925** – Альбярцін атрымаў статус першага ў Беларусі прыходу грэцка-каталіцкага абраду.

## 25 ліпеня

**1884** – У Вільні нарадзіўся Аляксандар Вернікоўскі, беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў з 1950-ых у Дварцы (Дзятлаўскі р-н).

**1919** – Памёр Іван Хлябцэвіч (нар. у 1857 у в. Сядзельнікі, Ваўкавыскі р-н), беларускі праваслаўны духоўнік, краязнавец, публіцыст.

**1984** – Памёр Уладзімір Караткевіч, народны пісьменьнік Беларусі. Пахаваны ў Менску на Усходніх могілках.

**1993** – У Лідзе ўсталяваны помнік Францішку Скарыну (скульптар – Валер'ян Янушкевіч).

**1997** – У ЗША памерла Натальля Арсеньнева, беларуская паэтка, дзяячка беларускай эміграцыі (ЗША). У 1922-24 жыла ў Слоніме.

**2006** – У Менску памёр Янка Брыль, беларускі народны пісьменьнік. Перыядычна жыў у Загоры (Карэліцкі р-н). Пахаваны ў Калодзішчах пад Менскам.

**2012** – У Гародні памерла Тамара Талерчык, беларуская настаўніца, актывістка ТБМ. Пахавана на могілках Аульса.

## 26 ліпеня

**1511** – Наваградак атрымаў Магдэбургскае права.

**1592** – Памёр Ян Кішка (нар. каля 1540), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, заснаваньнік Івейскай арыянскай школы.

**1792** – Мястэчка Астрына (Шчучынскі р-н) атрымала герб.

**1933** – У Гародні памёр Францішак Грынкевіч, беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. У 1909-12 кіраўнік Гарадзенскага гуртка

беларускай моладзі. Пахаваны на старых гарадзенскіх каталіцкіх могілках.

**1978** – Памёр Аляксей Васіленя, грамадзка-палітычны дзеяч, у другую сусьветную вайну кіраўнік Беларускай Народнай самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Пахаваны на могілках Роквуд у Сыднэі.

**1992** – У першы дзень барселонскай алімпіяды ў першым жа відзе алімпійскім чэмпіёнам у стральбе з адвольнага малакалібернага пісталету стаў гарадзенец Канстанцін Лукашык.

## 27 ліпеня

**1891** – Памерла Бірута (Амелія Даравінская, нар. каля Вільні, 1863), фальклярыстка, этнографка. Жыла і працавала ў Лідскім пав.

**1910** – Памёр Уладзіслаў Дыбоўскі, удзельнік паўстаньня 1863-64, заоляг, батанік, палеантоляг, мінералёг, фальклярыст. З 1878 - да пач. 1900-ых жыў у Нянькаве (Наваградзкі р-н). Пахаваны ў маёнт. Войнава пад Любчай.

**1944** – Нарадзіўся Валянцін Шаўцоў, беларускі педагог. Працаваў у Гародні, быў дырэктарам СШ No9.

**1988** – Памёр Серафім Татарын, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ. Нараджэнец Вострава (Зэльвенскі р-н).

**1990** – Вярхоўным Саветам была прынятая Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

**1995** – Актывісты лідзкіх грамадзкіх арганізацый усталявалі два крыжы на магіле паўстанцаў 1863 году на полі бою паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы.

## 28 ліпеня

**1812** – У Варшаве нарадзіўся Юзаф Ігнацы Крашэўскі, пісьменьнік, гісторык, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**1879** – У в. Ачукевічы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Васіль Рагуля, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Бельгія, ЗША).

## 29 ліпеня

**1960** – Памёр Тодар Данілюк, беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, адзін з стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, з 1950 жыў ў ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку. Нараджэнец в. Сурынка (Слонімскі р-н).

## 30 ліпеня

**1917** – Памёр Ян Курчэўскі (нар. у 1854 у мяст. Данюшава, Смургонскі р-н), беларускі каталіцкі духоўнік, гісторык, педагог.

## 31 ліпеня

**1802** – У маёнтку Мядзьведка (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Ігнат Дамэйка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі. З 1884 па 1888 жыў у маёнтку Жыбартоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

**1913** – У в. Падкасоўе (Навагрдзкі р-н) нарадзіўся Міхаіл Петрыкевіч, беларускі краязнавец, музеязнавец, педагог.

**1941** – Памёр Якуба Чэхаўскі, беларускі атлет і барэц. Нараджэнец Гародні.

**1942** – Каля Наваградку гітлераўцы расстралялі 60 мірных жыхароў і двух каталіцкіх сьвятароў – Міхала Далецкага (з 1924 служыў пробашчам у Уселюбе, Навагрaдзкі р-н, з 1933 быў дэканам і пробашчам у Наваградку) і Юзафа Кучынскага.

**2012** – У Менску памёр Янка Саламевіч, беларускі літаратуразнавец, фальклярыст, бібліёграф. Наараджэнец в. Малая Кракотка (Слонімскі р-н).

# 1 жніўня

**1520** – У Кракаве нарадзіўся Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1548-72 гг, фармальна з 1529.

**1914** – Пачалася Першая сусьветная вайна.

**1921** – У в. Пудзіна (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Урбановіч, беларускі краязнавец, педагог, культуролаг.

**1943** – У ўрочышчы Батароўка каля Наваградку фашыстамі былі расстраляныя 11 сясьцёр-назарэтанак. 6.3.2000 яны былі беатыфікаваныя.

**1994** – Памёр Восіп Блізьнюк, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Шаматова (Смургонскі р-н). Пахаваны ў Смургонях.

# 2 жніўня

**1794** – Пад Слонімам адбылася бітва паміж корпусам Караля Серакоўскага і расейскім войскам.

**1833** – У Гародні каля Скідзельскай заставы (раён сёньняшняга аўтавакзалу) павешаны Міхал Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызвольнага руху, удзельнік паўстаньня 1830-31. Нараджэнец Парэчча (Слонімскі р-н).

**1919** – У Вільні Цэнтральнай Беларускай Радай Віленшчыны і Гарадзеншчыны была ўтворана Беларуская вайсковая камісія – орган па фармаваньні беларускіх частак у польскім войску.

**2002** – У мяст. Пагранічны (Бераставіцкі р-н) улады разбурылі будынак аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

# 3 жніўня

**1470** – Заснаваны Жыровіцкі манастыр.

**1615** – Памёр Крыштап Мікалай Дарагастайскі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, заснавальнік друкарні ў Ашмяне Мураванай.

**1847** – Памёр Марцін Цяплінскі (нар. у 1810-? у фальв. Крупава, Зэльвенскі р-н, паводле інш. зьв. у Цяшэйкаве), паэт, фальклярыст, удзельнік паўстаньня 1830-1831 гг.

# 4 жніўня

**1838** – У Валожыне нарадзіўся Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстаньня 1863-64, ваяваў на Ашмяншчыне.

**1917** – У Адэсе нарадзіўся Янка Брыль, беларускі народны пісьменьнік. Перыядычна жыў у Загоры (Карэліцкі р-н).

**1973** – У Чыкага памёр Міхал Урбановіч, беларускі культурны

дзеяч, педагог, каталіцкі сьвятар у замежжы (ЗША). Пахаваны на чыкагскіх могілках Сьв. Казімера. Нараджэнец Астрыны.

**2001** – У Менску памёр Вячаслаў Адамчык, беларускі пісьменьнік. Нараджэнец в. Варакомшчына (Дзятлаўскі р-н). Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

## *5 жніўня*

**1392** – Было падпісана Востраўскае пагадненьне паміж Ягайлам і Вітаўтам, паводле якога ўлада ў ВКЛ перадавалася Вітаўту.

**1461** – У Кракаве нарадзіўся Аляксандар, вялікі князь ВКЛ у 1492-1506 гг.

**1862** – У Гародні нарадзіўся Мельхіёр Фардон, каталіцкі сьвятар, францішканін.

**1864** – У Варшаўскай цытадэлі павешаны Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Вучыўся ў Сьвіслачы. Пахаваны ў Львове.

**1886** – У в. Дакудава (Лідзкі р-н) нарадзіўся Браніслаў Ямант, беларуска-польскі мастак, педагог.

**1908** – Памёр Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Пахаваны ў Парыжы на могілках Пэр-Ляшэз. Нараджэнец Жалудка (Шчучынскі р-н).

**1915** – У в. Парэчча (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Пётр Башко, беларускі настаўнік, педагог.

**1938** – У Курапатах пад Менскам расстраляны Мітрафан Тамільчык, беларускі фізік, выкладнік Беларускага палітэхнічнага інстытуту. Нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы (Слонімскі р-н) у 1896.

**1947** – У в. Шылавічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Віталь Скалабан, беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст.

## *6 жніўня*

**1492** – У Вільні вялікі князь ВКЛ Аляксандар выдаў прывілей, які меў характар феадальнай канстытуцыі і замацоўваў асновы дзяржаўна-грамадзкага ладу ў ВКЛ.

**1517** – Францішак Скарына ў Празе выдаў першую кніжку Бібліі – першую беларускую і ўсходнеславянскую кнігу.

**1520** – Нарадзілася Барбара Радзівіл, вялікая княгіня літоўская, каралева польская ў 1550-51. Жыла ў Геранёнах з 1538 па 1542.

**1627** – Нарадзіўся Аляксандар Палубінскі, ваенны дзеяч ВКЛ, слонімскі падкаморы, ваўкавыскі і слонімскі староста.

**1715** – У в. Гембулы (Лідзкі пав.) нарадзіўся Мацей Догель, гісторык-археограф, правазнавец.

**1884** – У мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н, паводле інш. зьв. в. Клейнікі, Бельскі пав.)

нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог.

**1914** – У в. Ачукевічы (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Міхась Рагуля, грамадзкі, культурніцкі дзеяч, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

## 7 жніўня

**1837** – У фальв. Карманішкі (цяпер Летува) нарадзіўся Баляслаў Калышка, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64.

**1879** – У в. Дубна (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Пётра Крэчаўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР.

**1880** – У Слоніме нарадзіўся Гальяш Леўчык (паводле інш. зьв. 20 ліп., сапр. Ільля Ляўковіч, загінуў у верас. 1944 у Варшаве), беларускі паэт, асьветнік, калекцыянер.

**1995** – Памёр Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), беларускі грамадзкі дзеяч, паэт, удзельнік заходнебеларускага руху.

## 8 жніўня

**1976** – У г. Глен Спэй (ЗША) памёр Мікалай Лапіцкі, праваслаўны сьвятар, рэлігійна-грамадзкі дзеяч беларускага замежжа. Жыў і працаваў у Ашмяне.

**1977** – У Парыжы памёр Леў Гарошка, асьветнік, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец, пісьменьнік, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Францыя, Вялікабрытанія, Ватыкан). Пахаваны на могілках Сэн-Панкрас у Лёндане. Нараджэнец в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н).

## 9 жніўня

**1850** – У г. Намыслаў (Сілезія) нарадзіўся Рудольф Абіхт, нямецкі вучоны-славіст. У 1917-18 выкладаў у Сьвіслацкай настаўніцкай семінарыі беларускую мову.

**1856** – Памёр Фларыян Бохвіц, асьветнік, філосаф, пісьменьнік. Пахаваны ў в. Дарава (Ляхавіцкі р-н). Нараджэнец Міра.

**1890** – У в. Чамяры (Слонімскі р-н) нарадзіўся Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст Грамады.

**1910** – У маёнтку Жлобаўцы (Ваўкавыскі р-н) нарадзілася Ларыса Геніюш (дзявочае Міклашэвіч), беларуская паэтка, вязень ГУЛАГу.

## 10 жніўня

**1796** – У в. Малая Капліца (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Ігнат Легатовіч, беларуска-польскі паэт, педагог.

## 11 жніўня

**1127** – Першая згадка пра Гародню ў пісьмовых крыніцах (Ляўрэнцеўскі летапіс).

**1884** – У в. Абабы (Новааляксандраўскі пав.) нарадзіўся Міхал Далецкі, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1924 служыў пробашчам у Уселюбе (Наваградзкі р-н), з 1933 быў дэканам і пробашчам у Наваградку.

## 12 жніўня

**1877** – У в. Сурынка (Слонімскі р-н) нарадзіўся Тодар Данілюк, беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстаньня, адзін з стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, з 1950 жыў ў ЗША.

**1948** – У Чэхаславаччыне савецкімі карнымі органамі былі арыштаваныя Янка і Ларыса Геніюшы, пазьней засуджаныя да 25 гадоў савецкага канцлягеру.

## 13 жніўня

**1911** – У в. Малышкаўшчына (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Вінцэнт Склубоўскі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст ТБШ, пасьля другой сусьветнай вайны дзеіў на Беласточчыне.

**1923** – У в. Католышы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Самсон Пярловіч, сябра Саюзу Вызваленьня Беларусі, беларускі паэт, вязень ГУЛАГу.

## 14 жніўня

**1385** – Была падпісана Крэўская ўнія – дамова аб зьвязе ВКЛ і польскага каралеўства.

**1889** – У Дзюдзергофе (пад Пецярбургам) памёр Аляксандар Гінтаўт-Дзевалтоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху на Гарадзеншчыне.

**1941** – У Асьвенціме загінуў Максіміліян Кольбэ, рымска-каталіцкі дзеяч, які ахвяраваў жыцьцём за іншага чалавека. У 1922-27 служыў у Гарадзенскім кляштары францішканцаў. Пазьней кананізаваны.

**1985** – У Крэўскім замку і на Янавай гары пад Крэвам інтэлігенцыя зь Менску, Маладэчна, Гародні адзначыла 600-ыя ўгодкі Крэўскай уніі.

## 15 жніўня

**1721** – Памёр Крыштап Станіслаў Завіша, пісьменьнік-мемуарыст, перакладнік, аратар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

**1780** – У в. Малая Бераставіца

(Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Ігнат Анацэвіч, беларускі гісторык, археограф, педагог.

**1831** – У в. Селішча (Карэліцкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 15 чэрв.) Вінцэсь Каратынскі, беларуска-польскі паэт, публіцыст, перакладнік.

**1858** – Нарадзіўся (у Гарадзенскай губ.) Міхаіл Пліс, беларускі грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар.

**1935** – У в. Пятралевічы (Слонімскі р-н) нарадзілася Тамара Талерчык, беларуская настаўніца, актывістка ТБМ.

**1954** – У мяст. Падсьвільле памёр (паводле інш. зьв. 15 верас.) Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Вандраваў па Гарадзеншчыне, пэўны час працаваў у Навагрудку. Пахаваны на могілках паміж в. Ліпляны і Малыя Давыдкі (Глыбоцкі р-н).

## 16 жніўня

**1869** – Памерла Габрыэля Альбіна Пузына, беларуская паэтка, мемуарыстка. Жыла ў Дабраўлянах (Смургонскі р-н).

**1992** – Памёр Станіслаў Сьвірка, беларуска-польскі літаратуразнавец, фальклярыст. Нараджэнец в. Нёман (Мастоўскі р-н).

## 17 жніўня

**1629** – У Алескім замку (цяпер мяст. Алеска, Львоўская вобл., Украіна) нарадзіўся Ян III Сабескі, кароль Рэчы Паспалітай і Вялікі князь ВКЛ у 1674-96.

**1807** – У Гародні адбылося ўрачыстае асьвячэньне Сафійскага сабору (касьцёлу Фара Вітаўта, які пасьля пажару 1793 перабудаваны ў праваслаўны храм).

**1949** – У в. Пустаборы (Зэльвенскі р-н) нарадзіўся Іван Сяргейчык, беларускі празаік, паэт, вайсковец.

## 18 жніўня

**1891** – У в. Баброўня (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Макар Краўцоў (сапр. Макар Касьцевіч, загінуў у Беластоку ў зьняволеньні ў сьнеж. 1939), беларускі паэт, пісьменьнік, удзельнік Слуцкага паўстаньня.

**1978** – У Гервятах (Астравецкі р-н) памёр Станіслаў Хадыка (нар. у 1893 на Віленшчыне), беларускі каталіцкі сьвятар, вязень савецкіх канцлягераў. Прац. у Казловічах (Гарадзенскі р-н), Гервятах.

## 19 жніўня

**1848** – У Вільні памёр Мі-

хал Палінскі-Пёлка, педагог, матэматык. Нараджэнец Слонімшчыны.

**1926** – У Навагрудку прайшла дэманстрацыя пратэсту супраць польскай улады.

**1998** – У Гародні памёр Валянцін Шаўцоў, беларускі педагог, дырэктар СШ No9. Пахаваны на могілках каля стан. Аульс пад Гародняй.

## 20 жніўня

**1506** – Памёр Аляксандар Ягелончык (ці 19-га), вялікі князь ВКЛ у 1492-1506 гг. Пахаваны ў Вільні.

**2011** – У Менску памёр Віталь Скалабан, беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст. Нараджэнец в. Шылавічы (Слонімскі р-н)

## 21 жніўня

**1860** – Памёр Канут Русецкі (нар. у 1801 у в. Сьцебякай, Летува), мастак, педагог, які працаваў на Беларусі, напісаў шэраг краявідаў Навагрудку, Ашмяншчыны.

**2006** – У Менску памёр Іван Чыгрын, беларускі літаратуразнавец, паэт, крытык. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н). Пахаваны ў Менску.

## 22 жніўня

**1916** – Нямецкія войскі каля в. Белая (Смургонскі р-н) прымянілі хімічную газавую атаку супраць расейскага войска. Загінулі 116 чалавек.

**1978** – У Менску памёр Пілiп Пестрак, беларускі літаратар, актывіст КПЗБ. Пахаваны на менскіх Усходніх могілках. У 1927-29 жыў у Слоніме. Быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму.

## 23 жніўня

**1430** – Адбыўся зрыў палякамі каранацыі князя Вітаўта.

**1847** – У Друскеніках (цяпер Летува) памёр Ян Чачот, асьветнік, паэт, фальклярыст, філамат. Нараджэнец в. Малюшычы (Карэліцкі р-н). Пахаваны ў Ротніцы паблізу Друскенікаў.

## 24 жніўня

**1744** – У Гародні адбыўся павятовы соймік, які выступіў за захаваньне права “лібэрум вета”.

**1906** – У фальв. Баўдыры (Смургонскі р-н) нарадзіўся Юльян Саковіч, дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, актывіст ТБШ і КПЗБ, Беларускай народнай самапомачы.

**1979** – У Сьвіслачы адчынены раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

**1986** – У Гародні прайшоў першы Дзень народнага майстра.

## *25 жніўня*

**1910** – У г. Барань (Аршанскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Корбан, беларускі пісьменьнік, байкапісец, перакладнік. У 1946-48 жыў і працаваў ў Лідзе.

**1932** – У в. Крушыняны (Беласточчына) нарадзіўся Пятрусь Макаль, беларускі літаратар. Вучыўся і працаваў у Гародні.

**1991** – Вярхоўны Савет БССР надаў "Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР" канстытуцыйны статус і прыпыніў дзейнасьць КПБ.

**1991** – У Чыкага памёр Вацлаў Папуцэвіч (у эміграцыі Пануцэвіч), беларускі грамадзкі дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец в. Малая Альшанка (Гарадзенскі р-н).

## *26 жніўня*

**1861** – У Гародні прайшла рэлігійна-палітычная маніфэстацыя на чале з ксяндзом Юзафам Маеўскім супраць расейскай акупацыйнай палітыкі.

**1892** – У в. Калантаі (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Сямён Якубчык, беларускі гісторык, публіцыст.

**1994** – У Менску памёр Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменьнік. Пахаваны ў в. Лявонавічы (Нясьвіжскі р-н). З 1931 да 1945 жыў у Слоніме.

## *27 жніўня*

**1906** – У в. Лявонавічы (Нясьвіжскі р-н) нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменьнік. З 1931 да 1945 жыў у Слоніме.

**1937** – У Менску расстраляны Аляксандар Каваленя, беларускі археолаг. Нараджэнец в. Кашанцы (Бераставіцкі р-н).

**1993** – У вёсцы Азярніца (Слонімскі р-н) памёр Алесь Сучок (сапр. Пятро Дабрыян) беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыцьцё беларускіх школ на Гарадзеншчыне. Пахаваны ў Азярніцы.

**1994** – У в. Малі пад Астраўцом усталяваны помнік Восіпу Гашкевічу (скульптар Валер'ян Янушкевіч), дыплямату, вучонаму, падарожніку.

## *28 жніўня*

**1772** – Нарадзіўся Францішак Сапега, генерал, удзельнік паўстаньня 1794 г, яго кіраўнік у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах, трымаў у Дзярэчыне тэатар.

**1890** – У Рушчанах (Віленшчына) нарадзіўся Язэп Рэшаць, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзяяч, каталіцкі сьвятар, доктар філасофіі і тэалогіі. Служыў у Гародні вікарыем.

**1914** – У в. Панькі (Івейскі р-н) нарадзіўся Нікандар Мядзейка, беларускі настаўнік, дзеяч Беларускай Народнай Самапомачы, дзеяч эміграцыі (Францыя, ЗША). Вучыўся ў Барунах, працаваў у Лідзкай акрузе.

**1915** – У в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Часлаў Найдзюк, беларускі грамадзкі дзеяч, пасьля другой сусьветнай жыў у Лос-Анджэласе (ЗША).

**1950** – У савецкім канцлягеры Караганды загінуў Адам Чабоцька (нар. у 1923 у в. Католышы, Наваградзкі р-н), сябра Саюзу Вызваленьня Беларусі, удзельнік беларускага патрыятычнага падпольля. Пахаваны на лягерных могілках.

**1969** – У Аўстраліі ў аўтакатастрофе загінуў Сяргей Розмысл, палітычны і вайсковы дзеяч БКА на Лідчыне, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Сям'я жыла ў Гудзінішках (Вараноўскі р-н). Пахаваны ў Мэльбурне.

**1999** – У Міры пачаўся двухдзённы 1-ы агульнабеларускі конкурс народных майстроў "Дрэва жыцця".

## 29 жніўня

**1756** –У мяст. Жнін (Гнезьненскае ваяв., Польшча) нарадзіўся Ян Сьнядэцкі, астраном, матэматык, філосаф, асьветнік Рэчы Паспалітай. Сямейны маёнтак і пахавальная капліца былі ў Гародніках (Гарадках, Ашмянскі р-н).

**1893** – У Гародні нарадзіўся Станіслаў Жыўна (памёр у 1940-ыя), натураліст, калекцыянер, стваральнік у 1926-ым годзе ў Гародні музея прыроды.

**1970** – У в. Махро (Янаўскі р-н, Берасьцейская вобл.) нарадзіўся Эдуард Мазько, беларускі паэт, гісторык. Вучыўся, жыў і працаваў у Гародні.

## 30 жніўня

**1855** – Памёр Юльян Корсак, паэт, перакладнік. Нараджэнец Слоніму.

**1915** – У в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Хомчык, удзельнік беларускага патрыятычнага падпольля на Слонімшчыне ў 1946-47.

## 31 жніўня

**1768** – У в. Жукоўшчына (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстаньня 1794.

**1835** – Памёр Людвік Міхал Пац, вайсковы дзеяч, удзельнік паўстаньня 1830-31. Валодаў маёнткам Ражанка (Шчучынскі р-н), меў палац у Гародні.

**1996** – Памёр Пятрусь Макаль, беларускі літаратар. Вучыўся і працаваў у Гародні.

# 1 верасьня

**1431** – Было падпісана перамір’е ВКЛ з Польшчай, паводле якога Польшча прызнала Сьвідрыгайлу вялікім князем і ўладаром усіх зямель ВКЛ.

**1432** – Замах на Сьвідрыгайлу ў Ашмянах. У ВКЛ адбыўся дзяржаўны пераварот у выніку якога вялікім князем ВКЛ абвешчаны Жыгімонт Кейстутавіч.

**1853** – У Варшаве нарадзіўся Міхал Федароўскі, фальклярыст, этнограф, археолаг, калекцыянер. Шмат гадоў працаваў на Гарадзеншчыне.

**1863** – Каля Барунаў адбыўся бой паміж паўстанцамі і расейскім карным войскам.

**1928** – У в. Касута (Вялейскі р-н) нарадзіўся Расьціслаў Лапіцкі, арганізатар і кіраўнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне і Смургоншчыне ў 1948-50. Расстраляны саветамі 28.10.1950(?).

**1939** – Пачалася другая сусьветная вайна, беларусы з Заходняй Беларусі былі ў складзе польскага войска.

**2002** – У Міры прайшоў Дзень беларускага пісьменства.

# 2 верасьня

**1814** – Памёр Жан-Эмануіл Жылібэр, францускі прыродазнавец, вучоны, які працаваў у Гародні і Вільні.

**1848** – Памёр Якуб Фалькоўскі, асьветнік-дабрачынец, рэктар Шчучынскай піярскай школы, аўтар сістэмы навучаньня глуханямых дзяцей.

**1998** – У Менску памёр Ян Матусевіч, уніяцкі сьвятар, дэкан Беларускай Грэцка-Каталіцкай Царквы. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках. З 1980 па красавік 1990 жыў і працаваў у Барунах.

# 3 верасьня

**1731** – У в. Занкі (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, беларускі вучоны, царкоўны дзеяч, літаратар.

**1894** – У мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадзка-літаратурнага руху пач. 20 ст.

**1908** – У Варшаве памерла Марыя Ямант-Дмахоўская (нар. у 1842), удзельніца паўстаньня 1863 году, нявеста Кастуся Каліноўскага. Пахавана на Паванзкоўскіх могілках у Варшаве.

**1909** – У Гародні заснаваны нелегальны гурток беларускай моладзі.

**1960** – Памёр Міхась Васілёк (сапр. Касьцевіч), беларускі паэт, актывіст Грамады, ТБШ.

Пахаваны ў Гародні на старых праваслаўных могілках.

**1980** – Памёр Мікола Дучыц, беларускі мастак. Нараджэнец Любчы.

## 4 верасьня

**1992** – У Таронта памёр Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), беларускі пісьменьнік, паэт, журналіст, выдавец, з 1944 жыў у эміграцыі (Нямеччына, Канада). Нараджэнец мяст. Казлоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

## 5 верасьня

**1840** – У в. Балванішкі (цяпер Зялёны Бор, Ашмянскі р-н) нарадзіўся Зыгмунт Мінейка, удзельнік паўстаньня 1863-64, беларускі і грэцкі грамадзкі дзеяч, этнограф, калекцыянер, мемуарыст.

**1917** – У в. Гарадэчна (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Язэп Сажыч, дзеяч беларускай эміграцыі (ЗША), старшыня рады БНР з 1982 па 1997.

**1937** – Расстраляны Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зімёнка), беларускі паэт, сатырык, гумарыст. Нараджэнец мяст. Турэц (Карэліцкі р-н).

## 6 верасьня

**1764** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

## 7 верасьня

**Дзень** беларускага пісьменства і друку

**1714** – У в. Дзітрыкі (Лідзкі р-н) нарадзіўся Міхал Карыцкі, паэт, грамадзкі дзеяч, педагог.

**1729** – Вялікі князь Аўгуст II пацьвердзіў Лідзе магдэбургскае права.

**1832** – У маёнтку Шаўры (Варанoўскі р-н) нарадзіўся Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1863-64.

**1856** – Памёр Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філолаг, калекцыянер, краязнавец. Нараджэнец мяст. Дзярэчын (Зэльвенскі р-н).

## 8 верасьня

**1514** – Адбылася бітва пад Воршай. Разгром войскамі ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім маскоўскага войска. Дзень беларускай вайсковай славы.

**1791** – У Вільні нарадзіўся Людвік Сабалеўскі, філолаг, бібліёграф. Працаваў у Шчорсах.

**2005** – У Гальшанах адбылося адкрыцьцё помнага знака-каменю Соф'і Друцкай (Гальшанскай).

# 9 верасьня

**1936** – У в. Верхаўляны (Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Сяргей Габрусевіч, беларускі педагог, культуролаг, філосаф.

**1939** – У в. Саволеўка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Шурпа, беларускі паэт, журналіст, педагог.

# 10 верасьня

**1942** – У Пецярбургу саветамі расстраляны Павал Хоміч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. Нараджэнец Ваўкавыску.

**1990** – Памёр Міхась Саўка, беларускі і бельгійскі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнавец, археолаг. Нараджэнец в. Загора (Карэліцкі р-н).

**1994** – У Гародні адбылося масавае сьвяткаваньне 480-ых угодкаў перамогі ў бітве пад Воршай.

# 11 верасьня

**1841** – У в. Дэмбрава (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Гіяцынт Альхімовіч (пам. пасьля 1897 у Францыі (?)), мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1841** – У в. Коркіна (Іркуцкая губ., Расея) на пасяленьні пасьля катаргі памёр Міхал Рукевіч, удзельнік вызвольнага руху, філамат. На пач. 1820-ых жыў у Мількаўшчыне (Гарадзенскі р-н).

**1938** – У Наваградку адчынены Дом-музей Адама Міцкевіча.

**1992** – У Наваградку адчынены гісторыка-краязнаўчы музей (заснаваны 29.7.1987).

# 12 верасьня

**1933** – Памёр Антон Каменскі, графік і жывапісец. У 1885-91 жыў у маёнтку Ярылаўка (Ваўкавыскі р-н).

**2002** – Пачаліся трохдзённыя ўрачыстасьці ў зьвязку з 200-ымі ўгодкамі з дня нараджэньня Ігната Дамэйкі. Мерапрыемствы прайшлі ў вёсках Крупава і Запольле (Лідзкі р-н), Наваградку і Міры.

# 13 верасьня

**1875** – У в. Асавец (Кобрынскі пав.) нарадзіўся Сяргей Паўловіч, праваслаўны сьвецкі і культурна-асьветны дзеяч у Заходняй Беларусі, багаслоў, педагог, пісьменьнік, публіцыст і выдавец. У 1913-18 – інспектар народных школ у Ваўкавыскім павеце.

**1914** – У в. Верабейкі (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Эдуард Гойлік, беларуска-польскі кампазітар, музычны педагог, хормайстар.

**1983** – Памёр Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага грамадзка-культурніцкага руху, этнограф. У 1940-ых працаваў школьным інспектарам у Ашмяне.

## 14 верасьня

**1884** – У Навагрудку (у засьценку Вераскоўшчына) нарадзіўся Фабіян Абрантовіч, беларускі ўніяцкі духоўнік, грамадзка-культурны дзеяч, філосаф, рэлігійны педагог.

**2000** – У г. Сомэрсэт (штат Нью-Джэрзі) памерла Галіна Русак (Родзька), беларуская мастачка-эмігрантка (з 1949 жыла ў ЗША). Пахавана на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку. Нараджэнка Навагрудку.

## 15 верасьня

**1830** – У Гародні была адчынена публічная бібліятэка (цяперашняя абласная бібліятэка імя Яўхіма Карскага).

**1845** – У маёнтку Юзэфаў (Люблінскае ваяв., Польшча) памёр Францішак Ксаверы Несялоўскі, удзельнік паўстаньняў 1794 (ваяваў на Гарадзеншчыне), 1830 гг. Меў родавы маёнтак у Варончы (Карэліцкі р-н).

**1907** – У Берасьці нарадзіўся Барыс Суравы (памёр у сьнежні 1998), беларускі грамадзкі дзеяч, эмігрант (Вялікабрытанія). У час другой сусьветнай вайны быў школьным інспектарам, кіраўніком СБМ па Слонімскай акрузе.

**1913** – У в. Ёлкі (Слонімскі пав.) нарадзіўся Рыгор Зыбайла, беларускі палітычна-вайсковы дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай Народнай Самапомачы ў 1941-42 гг.

**1997** – Памёр Рудольф Пастухоў, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Жыў у Слоніме.

**2002** – У Бяліцы (Лідзкі р-н) былі ўсталяваныя памятны крыж і мемарыяльная пліта ў гонар бітвы 1659 году, калі шляхта Лідзкага пав. дала бой 30-тысячнаму маскоўскаму войску (праз месяц памятныя знакі былі зьнішчаны ўладай).

## 16 верасьня

**1668** – Кароль Рэчы Паспалітай і Вялікі князь ВКЛ Ян Казімер адрокся ад трона.

**1825** – Памёр Францішак Карпінскі, паэт-сентыменталіст, асьветнік. Жыў у сваім маёнтку Хорашаўшчына (Сьвіслацкі р-н).

**1920** – У Навагрудку заснаваны дом-музей Адама Міцкевіча.

**1938** – НКВД расстраляны Іосіф Мацюкевіч, беларускі мовазнавец. Нараджэнец в. Гернікі (Дзятлаўскі р-н).

**1940** – У Вільні памёр Сяргей Паўловіч, праваслаўны сьвецкі і культурна-асьветны дзеяч у Заходняй Беларусі, багаслоў, педагог, пісьменнік, публіцыст і выдавец. У 1913-18 – інспектар народных школ у Ваўкавыскім павеце. Пахаваны на віленскіх Літоўскіх могілках.

**1965** – У Берасьці ў выніку зьбіцьця невядомымі загінуў Адам Трыпус, беларускі вайсковец, настаўнік. Пахаваны на берасьцейскіх Трышынскіх могілках. Нараджэнец Вялікай Бераставіцы.

**2011** – У Лідзе памёр Уладзімір Хрышчановіч (нар. у 1944), беларускі краязнавец, грамадзскі актывіст, сябра КХП БНФ.

## *17 верасьня*

**1590** – Ліда атрымала права на герб.

**1774** – Нарадзіўся Тадэвуш Тышкевіч, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньняў 1794 і 1830 гг. З 1813 жыў у Сьвіслачы.

**1860** – У в. Збочна (Слонімскі р-н) нарадзіўся Кандрат Лейка, беларускі пісьменьнік, педагог.

**1891** – У в. Балічы (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Антон Баліцкі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч.

**1898** – У в. Едначы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Павал Крынчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст ТБШ.

**1912** – У в. Пількаўшчына (Мядзельскі р-н) нарадзіўся Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), беларускі грамадзкі дзеяч, паэт. Удзельнік заходнебеларускага руху.

**1922** – У в. Сіняўская Слабада (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Калесьнік, беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік.

**1927** – У в. Купіск (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Павал Навара, удзельнік БКА, дзеяч эміграцыі (Вялікабрытанія). Вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай семінарыі.

**1939** – Савецкія войскі перайшлі мяжу з Польшчай і да 25 верасьня занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі разам зь Вільняй і Беластокам. Адбылося далучэньне Заходняй Беларусі да БССР.

## *18 верасьня*

**1807** – Памёр Францішак Смуглевіч (Пранас Смуглявічус), жывапісец, графік, педагог, які працаваў на Гарадзеншчыне.

**1890** – У в. Дольныя Малевічы (Сакольскі пав.) нарадзіўся Язэп Бойка (Байко), беларускі каталіцкі сьвятар. Працаваў у Ельні (Лідзкі р-н), Поразаве (Сьвіслацкі р-н). Летам 1943 г. спалены разам з іншымі жыхарамі Налібокаў. Паводле іншай

версіі расстраляны ў Налібоцкай пушчы 6 ці 7 жніўня.

**1891** – У в. Дубовая (Сакольскі павет) нарадзіўся Міхал Шалкевіч, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1922 г. служыў у касьцёле ў Тракелях (Вараноўскі р-н).

**1956** – Памёр Міхал Борык, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1933 служыў у Смургонях, у 1933-38 – у Нястанішках (Смургонскі р-н).

**1993** – У Астравецкім раёне былі ўрачыста адсьвяткаваныя 100-ыя ўгодкі з дня нараджэньня паэтаў Казімера Сваяка і Янкі Быліны.

**1998** – У Менску памёр Віктар Шымук, беларускі пісьменьнік, перакладнік. Нараджэнец в. Зьмяёўцы (Дзятлаўскі р-н). Пахаваны ў Дзятлаве.

## *19 верасьня*

**1730** – Каранацыя залатымі папскімі каронамі Жыровіцкага цудатворнага абраза Маці Божай і Ісуса.

**1797** – У Гародні нарадзіўся Януар Сухадольскі, жывапісец-баталіст, удзельнік паўстаньня 1830-1831.

**1921** – У мяст. Здалбунаў (Ровенская вобл., Украіна) памёр Кандрат Лейка, беларускі пісьменьнік, педагог. Нараджэнец в. Збочна (Слонімскі р-н).

**1991** – Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб зьмене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацьверджана “Пагоня”, Дзяржаўным сьцягам – бела-чырвона-белы сьцяг.

## *20 верасьня*

**1903** – У Баку нарадзілася Натальля Арсеньнева, беларуская паэтка, дзяячка беларускай эміграцыі (ЗША). З 1922 да 1924 жыла ў Слоніме.

**1914** – Нарадзіўся (на Навагрудчыне) Базыль Камароўскі, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Канада).

**1922** – У в Праважа (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Уладзімер Сідлярэвіч, дзеяч БКА, беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Вучыўся ў Лідзе, працаваў настаўнікам у Васілішках (Шчучынскі р-н).

**1929** – У Слоніме адчынены краязнаўчы музей.

**1939** – Пасьля падпалу дому польскімі правакатарамі загінуў Аляксандар Бертэль (нар. у 1902 у в. Вялікія Кавалічы, Гарадзенскі р-н), дзеяч заходнебеларускага руху, сябра КПЗБ.

**1944** – Утворана Гарадзенская вобласьць.

**2003** – У Гародні каля Калож-

скай царквы адкрыты помнік Давыду Гарадзенскаму.

## 21 верасьня

**1918** – У в. Клетнае (Глускі р-н) нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, беларускі мовазнавец. Жыў і працаваў у Гародні.

**2004** – У Гародні і ваколіцах зафіксаваны землятрус – 2 балы па шкале Рыхтара.

## 22 верасьня

**1880** – Памёр Уладзіслаў Сымановіч (нар.каля 1831 у Вільні), беларускі лекар, удзельнік паўстаньня 1863-64 на Слонімшчыне.

**1975** – Памёр Павал Крынчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст ТБШ. Нараджэнец в. Едначы (Слонімскі р-н).

## 23 верасьня

**1904** – У Гародні адбылося выступленьне навучэнцаў мужчынскай гімназіі супраць адкрыцьця расейскай уладай у Вільні помніка Кацярыне ІІ.

**2010** – У вёсцы Пеляса (Вараноўскі р-н) адкрыты драўляны помнік вялікаму князю Вітаўту (аўтар – Альгімантас Сакалаўскас).

## 24 верасьня

**1641** – У в. Ятра (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Незабітоўскі (пам. увосень 1717 у Наваградку), палітычны, грамадзкі дзеяч, мемуарыст.

**1815** – У Вільні нарадзілася Габрыэля Альбіна Пузына, беларуская паэтка, мемуарыстка. Жыла ў Дабраўлянах (Смургонскі р-н).

**1824** – Пачаў будавацца Аўгустоўскі канал.

**1893** – У Будславе (Мядзельскі р-н) нарадзілася Паўліна Мядзёлка, акторка, дзяячка беларускай культуры. Часта бывала ў Гародні, у 1919 была арыштавана.

**1904** – У в. Цяцеркі (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага грамадзка-культурніцкага руху, этнограф. У 1940-ых працаваў школьным інспектарам у Ашмяне.

**1969** – У Гародні нарадзіўся Юры Гумянюк, беларускі літаратар, паэт, журналіст.

## 25 верасьня

**1845** – Памёр Юстын Нарбут, гісторык, удзельнік паўстаньня 1794 году, стрыечны брат Тодара Нарбута. Нараджэнец Юршышчаў (Лідзкі пав.). Пахаваны ў Вільні.

**1914** – У Зэльве нарадзіўся Аў-

ген Смаршчок, педагог, перакладчык, прафесар, сьвятар БАПЦ (Бельгія).

**1951** – У савецкім канцлягеры (Комі АССР) загінуў Вячаслаў Лаўскі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог, адзін з заснаваньнікаў беларускага студэнцкага руху. Нараджэнец в. Слачва (Наваградзкі р-н), працаваў у Навагрудку.

**1997** – Гарадзенскі гарсавет зацьвердзіў сьцяг Гародні – блакітная харугва, на якой вышыты залаты алень Сьвятога Губерта, які пераскоквае праз плот.

## 26 верасьня

**1890** – У в. Гернікі (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Іосіф Мацюкевіч, беларускі мовазнавец.

**1924** – У Альбярціне пад Слонімам айцы-езуіты заснавалі Ўсходнюю грэка-каталіцкую місію з навіцыятам.

**2002** – У Гародні памёр Аляксандар Шыдлоўскі, беларускі культурны дзеяч, кампазітар. Пахаваны на могілках па праcп. Касманаўтаў.

## 27 верасьня

**Сусьветны** дзень турызму.

**1422** – Каля возера Мельна (у сутоках рэк Вісла і Аса) падпісаны мір паміж Польшчай з ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам, які канчаткова завяршыў апошнюю вайну паміж ордэнам і ВКЛ.

**1533** – Нарадзіўся (у Румыніі) Стафан Баторы, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі. Жыў у Гародні.

**1892** – У в. Віцькі (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Сяргей Баран (загінуў у 1937 (?) у савецкім зьняволеньні), беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог.

## 28 верасьня

**1936** – Нарадзіўся Рудольф Пастухоў, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Жыў у Слоніме.

**1937** – У Менску НКВД расстраляны Міхаіл Лойка, беларускі эканаміст, географ, матэматык. Нараджэнец в. Ярэмічы (Карэліцкі р-н).

**1953** – У аўтакатастрофе загінуў Базыль Камароўскі, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Канада). Нараджэнец Наваградчыны.

**1989** – У Жыровічах аднавіла дзейнасьць Менская праваслаўная духовая семінарыя.

## 29 верасьня

**1529** – Пачаў дзеіць I Статут ВКЛ.

**1794** – У в. Заблошчына (непадалёк Вільні) нарадзіўся Ігнат Ходзька, пісьменьнік, мемуарыст.

**1794** – У Гародню прыбыў Тадэвуш Касьцюшка, на наступны дзень узнагароджваў паплечнікаў-паўстанцаў.

**1891** – У в. Бацэвічы (Клічаўскі р-н) нарадзіўся Аркадзь Смоліч, беларускі нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ, картограф. У ліст.-сьнежн. 1918 па даручэньні ўраду БНР працаваў у Гародні.

**1905** – У Пецярбургу нарадзіўся Сяргей Розмысл, палітычны і вайсковы дзеяч БКА на Лідчыне, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Сям'я жыла ў Гудзінішках (Вараноўскі р-н).

**1929** – Памёр Ян Тарчэўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, нашанівец, настаўнік. Нараджэнец в. Асінаўка (Ашмянскі р-н).

**1994** – У Гародні прайшлі ўрачыстасьці, прысьвечаныя 200-ым угодкам вызвольнага паўстаньня 1794 году. На будынку Новага замку адчынена мемарыяльная дошка.

**2007** – У Сынковічах (Зэльвенскі р-н) да 600-годдзя Сынковіцкай царквы адбыўся першы Дзень хрысьціянскай паэзіі.

## 30 верасьня

**1728** – У в. Саламянка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 30 кастр.) Марцін Пачобут-Адляніцкі, асьветнік, астраном, педагог.

**1890** – У в. Абрамаўшчына (Смургонскі р-н) нарадзіўся Антон Ляшчэвіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар-марыянін, блаславёны.

**1892** – У мяст. Мяджыбаш (цяпер Лятычаўскі р-н Житомірскай вобл., Украіна) нарадзілася Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), беларуская пісьменьніца, грамадзка-культурная дзяячка. Жыла ў Гародні.

**1967** – У Кастоўцу (Варшаўскае ваяв., Польшча) памёр Янка Францук, беларускі каталіцкі сьвятар, вязень савецкага канцлягеру. Нараджэнец в. Ліпнішкі (Івейскі р-н).

**2005** – У Гародні памёр Зьміцер Кісель, беларускі грамадзкі дзеяч, журналіст. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў.

# 1 кастрычніка

**1888** – У Слоніме нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі грамадзкі і рэлігійны дзеяч.

**1903** – У в. Базары (Смургонскі р-н) нарадзіўся Міхал Ляпеха (памёр у 1992 у Маладэчне, дзе і пахаваны), беларускі краязнавец, захавальнік сядзібы-музею Багушэвіча ў Кушлянах.

**1940** – У савецкім канцлягеры (Комі АССР) загінуў Сямён Жыткевіч (нар. у 1893 у в. Вялікая Кракотка, Слонімскі р-н), беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ.

# 2 кастрычніка

**1413** – Была заключана Гарадзельская ўнія ВКЛ з Польшчай, якая надала беларуска-летувіскай шляхце палітычныя правы.

**1819** – У в. Смалічы (Нясьвіжскі р-н, ці ў в. Зубкава, Наваградзкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 15.9.1818) Аляксандар Незабытоўскі, беларуска-польскі пісьменьнік, філосаф, гісторык.

**1896** – У мяст. Любча (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Мікола Дучыц, беларускі мастак.

**1920** – У Гародні выйшаў першы нумар газеты "Беларуская справа" – орган Цэнтральнага беларускага нацыянальнага камітэту (выдавалася да 7 студз. 1921).

**1930** – У Гародні выйшаў першы нумар часопісу "Беларуская думка" (рэдактары А. Лукашык, Л. Лукашык, выходзіў да 1932).

# 3 кастрычніка

**1848** – У мяст. Шарашова (Пружанскі р-н) памёр Міхал Баброўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824-26 працаваў у Жыровічах.

**1914** – Нарадзіўся Ян Новак-Езяранскі (паходзіў з Гарадзеншчыны), польскі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, які спрыяў беларускаму нацыянальнаму руху.

**1922** – У в. Рамашкевічы на Наваградчыне нарадзіўся Міхась Навумовіч, дзеяч беларускай эміграцыі (Францыя).

**1994** – Памёр Іван Бабіч (нар. у 1930 у в. Бабічы, Глыбоцкі р-н), сябра Глыбоцкай групы Саюзу Беларускіх патрыётаў, вязень савецкіх турмаў. Пахаваны ў Ваўкавыску.

# 4 кастрычніка

**1582** – У Рэчы Паспалітай уведзены грыгарыянскі каляндар.

**1741** – У в. Галаскоў (Івана-Франкоўская вобл., Украіна)

нарадзіўся Францішак Карпінскі, паэт-сентыменталіст, асьветнік. Жыў у сваім маёнтку Харашаўшчына (Сьвіслацкі р-н).

**1929** – Памёр Пятро Сяўрук (нар. у 1905 у мяст Скідаль, Гарадзенскі р-н), беларускі пісьменьнік, актывіст ТБШ і Грамады. Пахаваны ў Скідалі.

**1984** – У мясцовасці Грэвер недалёка ад Лёвена (Бельгія) памёр Аўген Смаршчок, беларускі і бельгійскі педагог, праваслаўны духоўнік. Пахаваны ў Бельгіі. Нараджэнец Зэльвы.

**2007** – Памёр Віктар Абухоўскі, беларускі археолаг. Нараджэнец в. Сялец (Смургонскі р-н). Пахаваны ў Менску.

## 5 кастрычніка

**1458** – Нарадзіўся Сьвяты Казімер, сын вялікага князя ВКЛ Казімера IV Ягелончыка, патрон Гарадзенскага біскупства.

**1763** – Памёр Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай вялікі князь ВКЛ у 1733-66.

**1872** – У в. Малі (Астравецкі р-н) памёр Восіп Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледнік Японіі і Кітаю, натураліст. Пахаваны ў Вільні на Ефрасінеўскіх могілках.

**1884** – У мяст. Новы Двор (на Сакольшчыне, Беласточчына) нарадзіўся Францішак Грынкевіч, беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. У 1909-12 кіраўнік Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі.

**1938** – Пасьля зьбіцьця невядомымі ад інфаркту памёр Ян Цеханоўскі, беларускі педагог, дырэктар Наваградзкай гімназіі на пач. 1920-ых, пазьней працаваў у Ашмянах.

## 6 кастрычніка

**1745** – У Варшаве нарадзіўся Францішак Смуглевіч, жывапісец, графік, педагог, які працаваў на Гарадзеншчыне.

**1876** – У в. Асташына (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец.

**1890** – У Гародні нарадзіўся Лейб Найдус, габрэйскі паэт, перакладнік.

**1908** – У в. Скорычы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Алесь Мілюць, беларускі паэт.

**2007** – У вёсцы Бердаўка (Лідзкі р-н) прайшлі ўрачыстасьці з нагоды 480-годдзя, на палацы Дамбавецкіх была адчынена мемарыяльная дошка (скульптар Рычард Груша) у гонар Аляксандра Дамбавецкага, краязнаўца, дзяржаўна-грамадзкага дзеяча.

## 7 кастрычніка

**1765** – У Гузаве (непадалёк Варшавы) нарадзіўся Міхал Клеафас

Агінскі, магнат, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстаньня 1794. Жыў у Залесьсі (Смургонскі р-н).

**1937** – Саветамі расстраляны Сямён Клінцэвіч (нар. у крас. 1899 у мяст. Трабы, Івейскі р-н), дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст КПЗБ.

**1938** – У в. Вострава (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Валянцін Блакіт (сапр. Болтач), беларускі празаік, публіцыст, паэт.

## *8 кастрычніка*

**1870** – У г. Арол (Расея) нарадзіўся Аляксандар Булатовіч (паходзіў з Гарадзеншчыны), падарожнік, дасьледнік Усходняй Афрыкі, дыплямат, праваслаўны іераманах.

**1991** – У Вільні памерла Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), беларуская пісьменьніца, грамадзка-культурная дзяячка. Пэўны час жыла ў Гародні. Пахавана на могілках Панерай.

## *9 кастрычніка*

**1929** – У Варшаве памёр Адам Лісоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Пахаваны на каталіцкіх могілках у Кляшчэлях (Беласточчына). Нараджэнец в. Каранды (Смургонскі р-н).

**2001** – У Гародні, Наваградку і Асташыне (Наваградскі р-н) адчынены выставы фотапрацаў Яна Булгака ў звязку з яго 125-ымі ўгодкамі.

## *10 кастрычніка*

**1739** – У Варшаве памёр Дамінік Рудніцкі, пісьменьнік, педагог. Працаваў у Наваградку.

**1867** – У Менску памёр Ігнат Легатовіч, беларускі і польскі паэт, педагог. Нараджэнец в. Малая Капліца (Гарадзенскі р-н).

**1881** – У в. Асінаўка (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Ян Тарчэўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, нашанівец, настаўнік.

**1932** – Нарадзілася Часлава Ашукоўская, удзельніца беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.

**1934** – У в. Радзялавічы (Ганцавіцкі р-н, Берасьцейская вобл.) нарадзіўся Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатру. Жыў і памёр у Слоніме.

**1939** – Бяз згоды Вярхоўнага савету БССР Сталін перадаў Вільню і Віленскі край Летуве. Да Летувы адышлі часткі Астравецкага, Ашмянскага, Вараноўскага і Радуньскага раёнаў.

**1949** – Памёр Аляксандар Данілевіч (нар. у мяст. Моўчадзь, Баранавіцкі р-н, 1877), беларускі педагог, матэматык, публіцыст; скончыў Сьвіслацкую семінарыю ў 1896.

## 11 кастрычніка

**1760** – У Слоніме памёр Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, перакладнік, літаратар.

**1909** – У Гародні нарадзілася Зінаіда Бандарына, беларуская пісьменьніца, паэтка.

**1973** – У в. Сялец (Смургонскі р-н) нарадзіўся Віктар Абухоўскі, беларускі археолаг.

## 12 кастрычніка

**1398** – На востраве Салін (на Нёмане) была падпісана мірныя дамова пра дапамогу паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.

**1761** – Шчучын атрымаў магдэбургскае права.

**1884** – У в. Лінгі (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Міхал Буклярэвіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

**2003** – У ноч на 12 кастрычніка ў в. Рандзілаўшчына (Дзятлаўскі р-н) згарэў Казлоўшчынскі дыспансэр-інтэрнат для псіханеўралягічных хворых. Загінуў 31 чалавек.

## 13 кастрычніка

**1884** – Нарадзіўся Баляслаў Пачопка, беларускі культурна-асьветніцкі і рэлігійны ўніяцкі дзеяч. Працаваў дырэктарам Сьвіслацкай настаўніцкай семінарыі.

**1888** – У засьценку Пунькі (Глыбоцкі р-н) нарадзіўся Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Працаваў настаўнікам у Наваградку.

## 14 кастрычніка

**1725** – Нарадзіўся (у Берасьцейскім ваяв.) Францішак Ярманскі (Юрманскі), каталіцкі рэлігійны дзеяч, педагог. Быў рэктарам Шчучынскага піярскага калегіюму.

**2010** – У Гародні ля Сьвята-Пакроўскага сабора да сьвята Пакроваў і 110-ых угодкаў Гарадзенскай праваслаўнай епархіі ўрачыста адкрытая скульптурная кампазіцыя “Пакровы Прасьвятой Багародзіцы” (скульптар Уладзімір Панцялееў).

## 15 кастрычніка

**1432** – У Гародні выдадзены прывілей караля Ягайлы, які

ўраўняў у правах праваслаўных князёў і баяраў з феадаламі-каталікамі.

**1817** – У Салюры (Швайцарыя) памёр Тадэвуш Касьцюшка, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстаньня 1794 году. У 1818 парэшткі былі перанесены ў Кракаў і зьмешчаны ў Вавельскім замку.

**1833** – У Флярэнцыі памёр Міхал Клеафас Агінскі, магнат, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстаньня 1794. Жыў у Залесьсі (Смургонскі р-н).

**1916** – У Сьвіслачы адкрылася Беларуская настаўніцкая семінарыя.

## *16 кастрычніка*

**1896** – Памерла Марыя Багдановіч (дзявочае Мякота, нар. у 1869 у Ігумене), маці Максіма Багдановіча. Пахавана ў Гародні на старых праваслаўных могілках.

**1947** – За выступ супраць "лысенкаўшчыны" і прапаганду "буржуазнай навукі" генетыкі з пасады прэзідэнта Акадэміі навук БССР звольнены Антон Жэбрак.

**1955** – У Ашмянах адчынены краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча.

**1999** – Памёр Вацлаў Гебельт, шахматны кампазіст, вязень ГУЛАГу, пасьля вызваленьня ў 1949 жыў да сьмерці ў Лідзе.

## *17 кастрычніка*

**1696** – Нарадзіўся Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь ВКЛ у 1733-66.

**1893** – У Ваўкавыску нарадзіўся Павал Хоміч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар.

## *18 кастрычніка*

**1596** – У Берасьці была падпісана царкоўная Унія. Была абвешчана ў царкве Сьв. Мікалая.

**1906** – У в. Зарудзічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Алесь Салагуб, беларускі паэт, публіцыст.

**1960** – У Марыупалі (Украіна) памёр Іван Бялькевіч, беларускі мовазнавец, педагог, аўтар слоўнікаў. Нараджэнец в. Варонічы (Слонімскі р-н).

**1991** – У Маладэчне памёр Пятро Бітэль, беларускі пісьменьнік, паэт, перакладнік, педагог, праваслаўны сьвятар. Нараджэнец мяст. Радунь (Вараноўскі р-н). Пахаваны ў в. Вішнева (Валожынскі р-н).

## *19 кастрычніка*

**1988** – У Менску былі ўтвораныя рэспубліканскае грамадзкае гісторыка-асьветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралёг Беларусі" і арг-

камітэт Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”.

## 20 кастрычніка

**1506** – На княжаньне ў ВКЛ абраны Жыгімонт І Стары.

**1812** – У час французска-расейскай вайны ў Слоніме адбыўся вялікі бой.

**1892** – У в. Клешнякі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Янка Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (Канада, Швайцарыя, ЗША), тэолаг.

**1911** – У Карэлічах нарадзіўся Валянцін Рамановіч, беларускі мастак.

**1916** – У в. Ахматава (Алатырскі р-н, Чувашыя) нарадзіўся Алесь Сучок (сапр. Пятро Дабрыян) беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыцьцё беларускіх школ на Гарадзеншчыне.

**1953** (ці 1955) – У Маскве памёр Яўген Хлябцэвіч, беларускі бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог. Нараджэнец Жыровічаў.

**2001** – Памёр Мікола Лук’янаў, беларускі мастак. Пахаваны ў Гародні на могілках па праспр. Касманаўтаў.

## 21 кастрычніка

**1878** – У Варшаве памёр Восіп Кавалеўскі, гісторык, філамат, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства. Нараджэнец Вялікай Бераставіцы.

**1900** – У Гародні нарадзіўся Фэлікс Купцэвіч, беларускі пісьменьнік, крытык.

**1935** – У Зэльве нарадзіўся Юрка Геніюш, беларускі пісьменьнік і публіцыст.

## 22 кастрычніка

**1613** – У выніку пажару згарэла большая частка старажытнага Наваградку.

**1909** – У в. Вярбіцы (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Раман Лецка, беларускі краязнавец, калекцыянер, вязень савецкіх канцлягераў.

**1941** – На тэрыторыі Беларусі створана Беларуская народная самапомач.

**1957** – Памёр Аляксандар Савіч, беларускі гісторык, апалягет Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Нараджэнец в. Малая Лапеніца (Ваўкавыскі р-н).

**2010** – У Менску ў шпіталі памёр Павал Лойка, беларускі гісторык. Нараджэнец Слоніма.

**2013** – У Гародні памёр Сяргей Габрусевіч, беларускі педагог, культуролаг, філосаф. Нараджэнец в. Верхаўляны (Бераставіцкі р-н). Пахаваны на могілках па праспр. Касманаўтаў.

# 23 кастрычніка

**1928** – У в. Хадзявічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Лаўрын Клыбік, дзеяч беларускай эміграцыі (Англія, Бельгія), медык, навуковец-фармацэўт.

**1981** – У Менску памёр Якуб Міско, беларускі пісьменьнік, журналіст. Пахаваны на менскіх Паўночных могілках. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н).

# 24 кастрычніка

**1795** – Адбыўся III падзел Рэчы Паспалітай.

**1999** – У Якушоўцы (Сьвіслацкі р-н) у час Дня памяці паўстанцаў 1863 году адбылося ўрачыстае адкрыцьцё памятнага крыжа.

# 25 кастрычніка

**1589** – Нарадзіўся Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**1925** – У в. Баяры (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Леў Мірачыцкі, беларускі гісторык-славіст, літаратар. Памёр у 2002.

**1992** – У г. Сарны (Ровенская вобл., Украіна) памёр Васіль Струмень (сапр.Аляксандар Лебядзеў), беларуска-украінскі пісьменьнік. Пахаваны ў Сарнах. Жыў у Зачэпічах (Дзятлаўскі р-н).

# 26 кастрычніка

**1944** – На фронце на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі загінуў Алесь Мілюць, беларускі паэт. Пахаваны ў брацкай магіле ў пасёлку Ватуціна (Несьцераўскі р-н, Калінінградзкая вобл.). Нараджэнец в. Скорычы (Карэліцкі р-н).

**1999** – Памёр Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), беларускі паэт. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н). Пахаваны ў Слоніме.

# 27 кастрычніка

**1430** – Памёр Вялікі князь Вітаўт (нар. у 1350). Яго рэзідэнцыя была ў Гародні.

**1890** – У в. Шутавічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Віктар Шутовіч, беларускі культурны дзеяч, каталіцкі сьвятар, вязень савецкіх канцлягероў.

**2003** – Памёр Антось Савук, беларускі краязнавец, публіцыст. Жыў і працаваў у Лідзе.

# 28 кастрычніка

**1845** – У Гародні нарадзіўся Зыгмунт Врублеўскі, навуковец-фізік, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1886** – Нарадзіўся Сьцяпан Войтанка, праваслаўны сьвя-

тар (вучыўся ў Гародні, працаваў у Дварцы і Марозавічах Дзятлаўскага р-ну), дзеяч Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў ЗША.

**1974** – Памёр Рыгор Акулевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Нараджэнец в. Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н).

## *29 кастрычніка*

**1937** – У Менску ў НКВД цягам ночы былі расстраляныя 22 беларускія і жыдоўскія пісьменнікі, шэраг навукоўцаў і грамадзкіх дзеячоў. Сярод забітых былі Хацкель Дунец, нараджэнец Слоніму, Майсей Кульбак, нараджэнец Смургоняў.

**1938** – У в. Малая Кракотка (Слонімскі р-н) нарадзіўся Янка Саламевіч, беларускі літаратуразнавец, фальклярыст, бібліёграф.

## *30 кастрычніка*

**1883** – У в. Лакцяны (Астравецкі р-н) нарадзіўся Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт.

**1890** – У мяст. Астрына (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Міхал Урбановіч, беларускі культурны дзеяч, педагог, каталіцкі сьвятар у замежжы (з 1924-га ў ЗША).

**1937** – У Менску НКВД былі расстраляныя 32 чалавекі, сярод якіх Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), беларускі пісьменьнік, эканаміст. Нараджэнец в. Шчорсы (Наваградзкі р-н).

## *31 кастрычніка*

**1932** – Памёр Кіпрыян Кандратовіч (нар. у 1859), беларускі генерал, міністар БНР. Пахаваны ў Пагароднe (Вараноўскі р-н), пазьней перапахаваны ў Варанове каля праваслаўнай царквы.

**1937** – У Менску НКВД расстраляны Антон Баліцкі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч. Нараджэнец в. Балічы (Гарадзенскі р-н).

**1992** – У Менску памёр Міхась Ткачоў, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог. Пахаваны на Усходніх могілках. Жыў і працаваў у Гародні.

**1993** – У Гародні на доме па адрасе праспект Будаўнікоў-27, дзе жыў Міхась Ткачоў, адчынена памятная дошка.

## 1 лістапада

У лацінскім абрадзе сьвята Усіх Сьвятых.

**1933** – У в.Варакомшчына (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Вячаслаў Адамчык, беларускі пісьменьнік.

**1943** – На Дзісеншчыне фашыстамі расстраляны Адам Дасюкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, журналіст. Нараджэнец в. Копцевічы (Смургонскі р-н).

**1984** – Памёр Пётра Сергіевіч, беларускі мастак. На Гарадзеншчыне расьпісаў касьцёлы ў Жодзішках, Солах (Смургонскі р-н), Поразаве (Сьвіслацкі р-н).

**2001** – У Слоніме памёр Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатру. Пахаваны ў Сьвіслачы.

**2003** – У Жодзішках (Смургонскі р-н) асьвечаны памятны крыж у гонар Андрэя Цікоты, беларускага рэлігійнага і грамадзка-культурнага дзеяча.

## 2 лістапада

**Дзяды,** дзень памінаньня памерлых.

**1869** – У маёнтку Крупляны (Навагрдзкі р-н) нарадзіўся Язэп Стаброўскі, беларускі археолаг, краязнавец.

**1959** – У Нью Ёрку памёр Аляксандар Орса, беларускі педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку. Нараджэнец мяст. Нягневічы (Навагрдзкі р-н).

**1997** – Сябры Лідзкай гарадзкой арганізацыі ТБМ ў гарадзкім парку ўсталявалі крыж на магіле ўдзельніка паўстаньня 1863 г. ксяндза Адама Фалькоўскага. Празь некалькі дзён крыж быў зьнесены ўладамі.

**2007** – У Санкт-Пецярбургу памерла Аўгіньня Кавалюк, паэтка, перакладчыца. Жыла і працавала ў Латвіі, Санкт-Пецярбургу. Нараджэнка в. Стральцы (Гарадзенскі р-н).

## 3 лістапада

**667** – Нарадзіўся Сьвяты Губерт, патрон Гародні.

**1540** – Вялікая княгіня літоўская і польская каралева Бона Сфорца пацьвярджае Гародні магдэбургскае права і загадвае мець пячатку з гербам.

**1679** – Памёр Аляксандар Палубінскі, ваенны дзеяч ВКЛ, слонімскі падкаморы, ваўкавыскі і слонімскі староста.

**1890** – У Слоніме нарадзіўся Канстанцін Пушкарэвіч, беларускі-расейскі славіст, літаратуразнавец, педагог.

# 4 лістапада

**1794** – Пры абароне прадмесьця Варшавы Прагі загінуў Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынэр, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794. Пахаваны пры варшаўскім касьцёле "На Камёнку".

**1993** – Памёр Раман Лецка, беларускі краязнавец, калекцыянер, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Вярбіцы (Наваградзкі р-н).

**2000** – У Парэччы (Слонімскі р-н) усталяваны памятны крыж у гонар паўстанца Міхала Валовіча і яго паплечнікаў.

# 5 лістапада

**1250** – Памёр Елісей Лаўрышаўскі, беларускі Сьвяты. Жыў у Лаўрышаве (Наваградзкі р-н).

**1576** – Кароль Стафан Баторы пацьвердзіў Гародні ўсе прывілеі.

**1922** – Адбыліся першыя выбары ў польскі сойм, у які беларусы правялі 14 сваіх прадстаўнікоў.

**1999** – Памёр Уладзімер Сідлярэвіч, дзеяч БКА, беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Вучыўся ў Лідзе, працаваў настаўнікам у Васілішках. Пахаваны ў Мэльбурне.

# 6 лістапада

**1689** – У Дзярэчыне нарадзіўся Антоні Казімер Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**1862** – У фальв. Якушоўка (Сьвіслацкі р-н) памёр Віктар Каліноўскі, гісторык, археограф, адзін зь ідэолягаў паўстаньня 1863 году. Пахаваны ў Сьвіслачы.

**1912** – На Наваградчыне нарадзіўся Віктар Войтанка (на эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіраваньня, БКА, у 1943 працаваў лекарам у Слоніме, медык, праваслаўны сьвятар, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1980** – У Нью Ёрку памёр Станіслаў Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец в. Арляняты (Смургонскі р-н).

# 7 лістапада

**1790** – У в. Жырмуны (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Карл Падчашынскі, асьветнік, архітэктар, дасьледнік, педагог.

**1898** – У в. Дольная Сьвіслач (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Клімент Якаўчык (загінуў у 1941 на фронце), беларуска-расейскі пісьменьнік.

## 8 лістапада

**1632** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Уладзіслаў Ваза (кіраваў да 20.5.1648)

**1784** – У маёнтку Шаўры (Бараноўскі р-н) нарадзіўся Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец.

**1903** – У в. Мінявічы (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Міхась Явар (сапр. Карась), беларускі паэт, удзельнік Грамады, ТБШ.

**1973** – Памёр Аляксандар Жукоўскі (нар. у 1926 у в. Залесьсе, Слонімскі р-н), удзельнік слонімскай падпольнай патрыятычнай арганізацыі "Чайка", вязень савецкіх турмаў і канцлягеру. Пахаваны ў в. Залесьсе (Слонімскі р-н).

## 9 лістапада

**1817** – Памёр Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстаньня 1794. Нараджэнец в. Жукоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

**1942** – Каля Барысава гестапаўцамі расстраляны Генрык Глябовіч, рэлігійны дзеяч, сьвятар, тэолаг. Пазней беатыфікаваны. Нараджэнец Гародні.

## 10 лістапада

**1911** – У в. Нёман (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Сьвірка, беларуска-польскі літаратуразнавец, фальклярыст.

**1921** – У Смургонях нарадзіўся Віктар Роўда, беларускі харавы дырыжор, педагог.

## 11 лістапада

**1903** – У мяст. Мір (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Ільінскі, беларускі артыст тэатру.

**1937** – На Салавецкіх астравах НКВД расстраляны (ці 3.11.1937), Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст Грамады. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н).

## 12 лістапада

**1794** (ці 1796) – У в. Гожна (?, Беласточчына) нарадзіўся Міхал Рукевіч, удзельнік вызвольнага руху, філамат. На пач. 1820-ых жыў у Мількаўшчыне (Гарадзенскі р-н).

**1920** – У в. Борхаў (Рагачоўскі р-н) нарадзіўся Андрэй Макаёнак, драматург, народны пісьменьнік Беларусі. У 1945-46 жыў і працаваў у Гародні.

**1930** – У в. Шаматова (Смургонскі р-н) нарадзіўся Восіп Блізьнюк, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях, вязень савецкіх канцлягераў.

**2001** – Вышэйшым гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусь зачынена газета “Пагоня”. Пазьней галоўны рэдактар газеты Мікола Маркевіч і журналіст Павал Мажэйка асуджаны да зьняволення паводле крымінальнай справы за “паклёп на прэзідэнта”.

# 13 лістапада

**1625** – Памёр Саламон Рысінскі (нар. у 1560 (?) у в. Рысін, цяпер Себежскі р-н Пскоўскай вобл.), паэт, філосаф, этнограф, педагог у ВКЛ. Верагодна, што пахаваны ў в. Дзяляцічы (Наваградзкі р-н).

**1891** – У в. Руднікі (цяпер Пружанскі р-н) нарадзіўся Іван Саланевіч, спартовец, публіцыст, выдавец. Заснавальнік у Гародні спартовага таварыства “Сокал”.

**1892** – У в. Лаша (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Язэп Троська (сапр. Дудзюк, загінуў пасьля 1930 у савецкіх турмах), беларускі гісторык, краязнавец, педагог.

**1942** – Памёр Уладзіслаў Талочка, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзеяч, культуролаг, гісторык, літаратуразнавец. Нараджэнец Гародні. Пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

**1985** – Памёр Антон Валынчык, беларускі хормайстар, кампазітар, педагог. Нараджэнец в. Мяльканавічы (Слонімскі р-н) Пахаваны ў Гародні на могілках па прасп. Касманаўтаў.

**1989** – У Менску памёр Фёдар Янкоўскі, беларускі мовазнавец. Пахаваны на Ўсходніх могілках. Жыў і працаваў у Гародні.

# 14 лістапада

**1892** – У в. Ярэмічы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Міхаіл Лойка, беларускі эканаміст, географ, матэматык.

**1905** – У в. Баброўня (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Міхась Васілёк (сапр. Касьцевіч), беларускі паэт, актывіст Грамады, ТБШ.

**1939** – Заходняя Беларусь была афіцыйна ўлучаная ў склад БССР.

# 15 лістапада

**1812** – Каля Ваўкавыску адбыўся бой паміж французскім і расейскім войскамі (доўжыўся два дні).

**1893** – У в. Чухны (Смургонскі р-н) нарадзіўся Францішак Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, рэлігійна-асьветніцкі публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі (Францыя, Бельгія, ЗША). Скончыў школу ў Ашмяне.

**1985** – Памёр Аляксандар Калодка, грамадзкі дзеяч, правазнавец, публіцыст, вязень

фашыстоўскіх канцлягераў, дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія). Нараджэнец в. Церабостынь (Карэліцкі р-н). Пахаваны на беларускіх могілках Фоўкнер у Мэльбурне.

**1987** – Памёр Рыгор Зыбайла, беларускі палітычна-вайсковы дзеяч, старшыня Слонімскай акруговай Беларускай Народнай Самапомачы ў 1941-42 гг.

## 16 лістапада

Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі.

**1888** – У в. Шурычы (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 16 сьнеж.) Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, ідэоляг беларускага нацыянальнага руху.

**1982** – Памёр Андрэй Макаёнак, драматург, народны пісьменьнік Беларусі. У 1945-46 жыў і працаваў у Гародні.

## 17 лістапада

**1893** – У Дзьвінску (цяпер Латвія) нарадзіўся Кастусь Езавітаў, дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, публіцыст, перакладнік, педагог, гісторык. Пэўны час (канец 1918-пач. 1919) дзеіў у Гародні.

**1906** – У в. Гібінята (Ашмянскі пав., цяпер Валожынскі р-н) нарадзіўся Янка Багдановіч, беларускі пісьменьнік, мемуарыст, вязень савецкіх канцлягероў. Выхоўваўся ў Барунскім дзіцячым прытулку.

## 18 лістапада

**1937** – НКВД расстраляны Адам Бычкоўскі (нар. у 1889 у фальв. Талочкі на Сакольшчыне), беларускі грамадзка-культурны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі.

**2007** – У Менску памёр Віктар Роўда, беларускі харавы дырыжор, педагог. Пахаваны на менскіх Усходніх могілках. Нараджэнец Смургоняў.

## 19 лістапада

**1784** (ці 1785) – У вёсцы Вулька (Бельскі пав., Беласточчына) нарадзіўся Міхал Баброўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824-26 працаваў у Жыровічах.

**1927** – У в. Ваўчкі (Слонімскі р-н) нарадзіўся Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падпольля 1946-47 у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлягероў.

**1996** – З станцыі Яцукі (Дзятлаўскі р-н) адпраўлены эшалён з апошняй ракетай "Тополь". Беларусь стала бязьядзернай дзяржавай.

**2007** – У Дэтройце (ЗША) памёр Язэп Сажыч, дзеяч беларусь-

скай эміграцыі (ЗША), старшыня рады БНР з 1982 па 1997. Нараджэнец в. Гарадэчна (Наваградзкі р-н).

**2008** – У Слоніме памёр Алег Лойка, беларускі пісьменьнік, літаратуразнавец, перакладнік, педагог. Пахаваны ў Слоніме.

## 20 лістапада

**1648** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Ян Казімер (кіраваў да 1668).

**1922** – У Клецку нарадзіўся Уладзімер Кісель (памёр у жн. 1999 у Гародні, пахаваны на могілках каля стан. Аульс пад Гародняй), удзельнік падпольнай арганізацыі Саюз Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў і турмаў.

**1985** – У Беластоку памёр Юрка Геніюш, беларускі пісьменьнік і публіцыст. Нараджэнец Зэльвы.

**1998** – Памерла Яўгенія Шастак, беларуская грамадзкая дзеячка, лекарка, вязень ГУЛАГУ. Нараджэнка в. Запольле (Наваградзкі р-н).

## 21 лістапада

**1830** – Памёр Ян Сьнядэцкі, астраном, матэматык, філосаф, асьветнік Рэчы Паспалітай. Сямейны маёнтак і пахавальная капліца былі ў Гародніках (Гарадках, Ашмянскі р-н). Пахаваны ў Яшунах (Летува).

**1937** – У Чабаксарах (Чувашская АССР) НКВД расстраляны Павал Каравайчык, беларускі культурны дзеяч, пісьменьнік. Нараджэнец мяст. Любча (Наваградзкі р-н).

## 22 лістапада

**1715** – Нарадзіўся Антоні Скарульскі, рэктар Наваградзкага езуіцкага калегіюму ў 1760-64.

**1800** – Памёр Саламон Майман (сапр. Хейман, нар. у 1753 ці 1754), філосаф-асьветнік. Нараджэнец Міру (Карэліцкі р-н).

## 23 лістапада

**1824** – У Рыме нарадзіўся Баляслаў Русецкі, мастак, які працаваў на Беларусі. Адзін час жыў у Гародні, зрабіў шэраг размалёвак у гарадзенскіх касьцёлах, алтарную карціну "Сьвяты Казімер" у гарадзенскай фары.

**1866** – У Кракаве памёр Адам Кіркор, беларуска-польскі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, грамадзкі дзеяч.

## 24 лістапада

**1970** – У Клюшчанах (Астравецкі р-н, па іншых зьвестках у Вільні) памёр Адольф Клімовіч,

беларускі каталіцкі грамадзкі дзеяч, журналіст, выдавец, вязень савецкіх канцлягероў. Пахаваны ў Клюшчанах.

**1998** – У Гародні адбыўся масавы мітынг пратэсту (каля 2 тыс. удзельнікаў) супраць праекту дамовы пра стварэньне саюзнай дзяржавы Беларусі з Расеяй.

## *25 лістапада*

**1714** – У маёнтку Дзятлава (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Тамаш Жаброўскі беларускі асьветнік, архітэктар, астраном, матэматык.

**1795** – Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Гарадзенскім Новым замку адрокся ад дзяржаўнага трону.

**1940** – Масква без згоды Вярхоўнага савету БССР перадала Летуве Друскенікі, землі Сьвянцянскага раёну і некалькі сельсаветаў суседніх раёнаў.

**2002** – У Гародні выйшаў 1-ы нумар інфармацыйна-аналітычнага бюлетэню “Свой Лад”, рэдактар Віктар Сазонаў. Выходзіў да траўня 2004, калі рэдакцыя была разгромлена КДБ, усяго выйшла 14 нумароў.

**2003** – Памерла Людміла Махнюк (дзявочае Каліноўская), дзеячка беларускага культурніцкага руху ў эміграцыі (ЗША). Нараджэнка мяст. Скідаль (Гарадзенскі р-н). Пахавана на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

**2007** – У ЗША памёр Кастусь Мярляк, беларускі грамадзка-культурны-рэлігійны дзеяч, дзеяч БНР у эміграцыі (Італія, Аргентына, ЗША).

## *26 лістапада*

**1864** – Памёр Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец. Пахаваны ў в. Нача (Вараноўскі р-н).

**1885** – У Канстантынопалі памёр Адам Міцкевіч, паэт, асьветнік, філамат. Пахаваны ў Парыжы. 4.7.1890 парэшткі былі перавезены ў Кракаў і зьмешчаны ў Вавельскім замку.

**1889** (ці 1891) – На Віленшчыне нарадзіўся Вацлаў Раманоўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. У 1922-36 служыў пробашчам у Германішках (Вараноўскі р-н). Памёр ці згінуў пасьля 1939 г.

**1891** – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Янка Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладнік, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**1930** – У Оршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч, народны пісьменьнік Беларусі. Часта бываў у Гародні.

# 27 лістапада

**1900** – У в. Слачва (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Вячаслаў Лаўскі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог, адзін з заснаваньнікаў беларускага студэнцкага руху.

**1903** – У в. Сакаўцы (Івацэвіцкі р-н) нарадзіўся Піліп Пестрак, беларускі літаратар, дзеяч КПЗБ. У 1927-29 жыў у Слоніме. Быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму.

**1920** – Пачалося антысавецкае Слуцкае паўстаньне (доўжылася да 28 сьнеж. 1920). Нацыянальны Дзень Герояў.

**1921** – У в. Клешнякі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Уладзімер Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (ЗША).

**1938** – НКВД расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, сябра Рады БНР, публіцыст, заснаваньнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (у 1920-22).

**1989** – Памёр Кастусь Станкевіч (нар. у 1925 у мяст. Турэц, Карэліцкі р-н), дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

# 28 лістапада

**1923** – Было створана беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Маладняк" (дзеіла да 1932).

# 29 лістапада

**1826** – У Вільні памёр Вікенці Герберскі (нар. у Слоніме ў 1784), медык і педагог.

**1830** – Пачатак нацыянальна-вызвольнага паўстаньня.

**1938** – У Менску (ці ў Маскве) НКВД расстраляны Браніслаў Тарашкевіч, беларускі грамадзка-палітычны і асьветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладнік, літаратуразнавец.

**1949** – У савецкім канцлягеры пад Тайшэтам забіты Адам Станкевіч (паводле інш. зьв. 4 сьнеж.), беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, асьветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Нараджэнец в. Арляняты (Смургонскі р-н). Пахаваны на могілках Азярлага каля в. Шаўчэнкі.

**1961** – У Гародні быў ўзарваны і зьнішчаны касьцёл Фара Вітаўта.

# 30 лістапада

**1745** – У маёнтку Сяхновічы (Жабінкаўскі р-н) нарадзіўся Тадэвуш Касьцюшка (паводле інш. зьв. 4.2.1746), дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстаньня 1794 году.

**1971** – Памёр Уладзімір Корбан, беларускі пісьменьнік, байка-

пісец, перакладнік. У 1946-48 жыў і працаваў ў Лідзе.

**1989** – У Гародні прайшла ўстаноўчая канфэрэнцыя Гарадзенскага гарадзкога аддзяленьня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

**1991** – У в. Мядзьведзічы (Ляхавіцкі р-н) памёр Вацлаў Пянткоўскі, каталіцкі сьвятар, асьветнік. Перад другой сусьветнай вайной служыў прэфэктам навагрудзкай гімназіі.

# 1 сьнежня

**1919** – Памёр Вандалін Шукевіч беларускі археолаг, этнограф, калекцыянер. Пахаваны ў роднай в. Нача (Вараноўскі р-н).

**1989** – У Гародні прайшла ўстаноўчая канферэнцыя гарадзкога аддзялення Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

# 2 сьнежня

**1776** – У маёнтку Юркаўшчына (Мсьціслаўскі пав.) нарадзіўся Анёл Доўгірд, філосаф, лёгік, педагог. Працаваў у Лідзе і Шчучыне.

**1879** – У Шчучыне нарадзіўся Фэлікс Стацкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Грамады і ТБШ.

# 3 сьнежня

**1791** – У в. Бялавічы (Івацэвіцкі р-н) нарадзіўся Міхал Гамаліцкі, беларускі лекар, педагог, гісторык. Вучыўся ў Жыровічах.

**1814** – Нарадзіўся (на Меншчыне) Восіп Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледнік Японіі і Кітаю, натураліст. Жыў у в. Малі (Астравецкі р-н).

# 4 сьнежня

**1803** – Памёр Давыд Пільхоўскі, асьветнік, пісьменьнік, перакладнік, выдавец. Часта бываў на Наваградчыне, калі працаваў інспектарам навучальных установ.

**1980** – Памерла Вольга Галіна (дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская), беларуская акторка, педагог.

# 5 сьнежня

**1793** – На Гарадзенскім сойме была прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

**2013** – У Ваўкавыскім раёне памёр Зьміцер Іваноўскі (нар. у 1959), беларускі мастак, грамадскі актывіст. Пахаваны ў Гародні на могілках у Аульсе.

# 6 сьнежня

**1520** – Нарадзілася Барбара Радзівіл, жонка Станіслава Гаштаўта, пазьней жонка караля Жыгімонта II Аўгуста. Жыла ў Геранёнах з 1538 па 1542.

**1705** – У Гародні ў гонар Сьвятога Францішка Ксаверыя асьвечаны езуіцкі кляштар.

**1919** – У сваім маёнтку пад Харкавам бандытамі забіты Аляксандар Булатовіч, падарожнік, дасьледнік Усходняй Афрыкі, дыплямат, праваслаўны іераманах, які паходзіў з Гарадзеншчыны.

**1981** – У Маскве памёр Яўген

Леашэня, вайсковец, беларускі краязнавец. Нараджэнец Слоніму.

**1987** – Памёр Нікандар Мядзейка, беларускі настаўнік, дзеяч Беларускай Народнай Самапомачы, дзеяч эміграцыі (Францыя, ЗША). Вучыўся ў Барунах, працаваў у Лідзкай акрузе. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку (ЗША).

## 7 сьнежня

**1506** – У Гародні вялікі князь ВКЛ Жыгімонт I Стары выдаў прывілей, які замацоўваў юрыдычныя нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям, валасьцям і гарадам ВКЛ.

**1824** – У маёнтку Тупальшчына (Смургонскі р-н) нарадзіўся Юльян Бакшанскі, удзельнік вызвольнага руху, камандзір паўстанцкага атраду ў 1863 годзе, публіцыст.

**1863** – Памёр Ануфры Петрашкевіч (нар. у 1793 у Шчучыне), філамат, паэт, архівіст, удзельнік паўстаньня 1831.

**1878** – У в. Навасады (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Андрэй Зязюля (сапр. Аляксандар Астрамовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт.

**1943** – У Менску невядомымі забіты Вацлаў Іваноўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з стваральнікаў Грамады, асьветнік, выдавец, міністар асьветы ў Радзе БНР. Нараджэнец м. Лябёдка (Шчучынскі р-н). Пахаваны ў Менску на Кальварыйскіх могілках.

**2007** – Памёр Валянцін Блакіт (сапр. Болтач), беларускі празаік, публіцыст, паэт. Нараджэнец в. Вострава (Шчучынскі р-н).

## 8 сьнежня

**1432** – Пад Ашмяной адбылася бітва паміж вялікімі князямі Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам. Загінула больш за 10 тысяч чалавек.

**1926** – Памёр Кастусь Бялецкі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Нараджэнец мяст. Луна (Мастоўскі р-н).

**1937** – НКВД расстраляны Ігнат Дварчанін, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог. Нараджэнец в. Погіры (Дзятлаўскі р-н).

## 9 сьнежня

**1268** – Забіты Войшалк (нар. у 1223), князь Наваградзкі, вялікі князь ВКЛ (1263-67).

**1891** – У Менску нарадзіўся Максім Багдановіч, беларускі паэт, перакладнік, крытык. У Гародню пераехаў з бацькамі ў год нараджэньня.

**1922** – У Гародні адчынены гісторыка-мастацкі музей (дзяржаўны гісторыка-археалягічны музей).

**1973** – У Вільні памёр Янка Шутовіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец, вязень савецкіх канцлягероў. Нараджэнец в. Шутавічы (Смургонскі р-н). Пахаваны ў Павільнісе.

**1974** – Памерла Юлія Бібіла, беларуская бібліёграфка, майстарка мастацкага ткацтва. Нараджэнка мяст. Поразава (Сьвіслацкі р-н).

## 10 сьнежня

**1852** – У в. Нача (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Вандалін Шукевіч беларускі археолаг, этнограф, калекцыянер.

**1888** – У Гарадку (на Беласточчыне) нарадзіўся Мікола Дзямідаў, вайсковы, грамадзка-палітычны дзеяч; у 1943 акруговы школьны інспектар, арганізатар батальёну беларускай самааховы ў Лідзе.

**1896** – У Вераскаве (Навагрудзкі р-н) памёр Уладзіслаў Брахоцкі, грамадзкі дзеяч, удзельнік паўстаньня 1863-64. Нараджэнец маёнтку Гаўя (Івейскі р-н).

**1913** – У в. Лабна (Лабно, Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Гебельт, шахматны кампазіст, вязень ГУЛАГу, пасьля вызваленьня ў 1949 жыў да сьмерці ў Лідзе.

**1930** – У в. Вецявічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Мікола Арочка, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладнік.

## 11 сьнежня

**1876** – У в. Вішнева (Смургонскі р-н) нарадзіўся Мечыслаў Карловіч,кампазітар, дырыжор, сын мовазнаўца і этнографа Яна Карловіча.

**1879** – У Варшаве памёр Адам Сузін, удзельнік вызвольнага руху, падарожнік. У 1819 скончыў Гарадзенскую гімназію.

**1991** – Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацьвердзіў Палажэньне “Аб Дзяржаўным бела-чырвона-белым сьцягу Рэспублікі Беларусь.

## 12 сьнежня

**1586** – У Гародні памёр Стафан Баторы, вялікі князь ВКЛ, кароль Рэчы Паспалітай. Новым каралём абраны Жыгімонт III Ваза.

**1870** – Памёр Леан Зянковіч, паэт, публіцыст, мемуарыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**1996** – У Гародні пачалася міжнародная навуковае канферэнцыя “Стэфан Баторы і Усходняя Еўропа яго часу” (доўжылася 12-14 сьнежня).

**2006** – Памерла Ніна Тарас, беларуская паэтка. Нараджэнка в. Запольле (Навагрудзкі р-н).

## 13 сьнежня

**1826** – Памёр Станіслаў Бо-

гуш-Сестранцэвіч, беларускі вучоны, царкоўны дзеяч, літаратар. Нараджэнец в. Занкі (Сьвіслацкі р-н).

**1830** – На землях Беларусі ў зьвязку з паўстаньнем абвешчана ваеннае становішча.

## *14 сьнежня*

**1911** – У в. Церабостынь (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Калодка, грамадзкі дзеяч, правазнавец, публіцыст, вязень фашыстоўскіх канцлягераў, дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

**1929** – Польскія ўлады забаранілі на тэрыторыі Заходняй Беларусі народны гімн “Ад веку мы спалі”. У хуткім часе ён быў забаронены і ў Савецкай Беларусі.

**2001** – Памёр Самсон Пярловіч, сябра Саюзу Вызваленьня Беларусі, беларускі паэт, вязень ГУЛАГу. Нараджэнец в. Католышы (Наваградзкі р-н). Пахаваны на могілках ля Наваградку.

## *15 сьнежня*

**1575** – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Стэфан Баторы (кіраваў дзяржавай да 12 сьнеж. 1586).

**1735** – У м. Руткішкі (Беласточчына) нарадзіўся Давыд Пільхоўскі, асьветнік, пісьменьнік, перакладнік, выдавец. Часта бываў на Наваградчыне, калі працаваў інспектарам навучальных установ.

**1990** – Рымскі Папа Ян Павал II надаў гарадзенскаму фарнаму касьцёлу тытул Малой базілікі.

**1994** – У Берасьці памёр Уладзімір Калесьнік, беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік. Нараджэнец в. Сіняўская Слабада (Карэліцкі р-н). Пахаваны ў Берасьці.

## *16 сьнежня*

**1901** – У в. Кубельнікі (Бераставіцкі р-н) нарадзіўся Мікалай Марцінчык, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, лекар, вязень савецкіх канцлягераў.

**1989** – У Лідзе прайшла ўстаноўчая канферэнцыя гарадзкога аддзялення Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

## *17 сьнежня*

**1849** – У Альбярціне (пад Слонімам) нарадзіўся Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер.

**1891** – На хутары Плавушка (Смургонскі р-н) нарадзіўся Андрэй Цікота, беларускі рэлігійны і грамадзка-культурны дзеяч, генерал ордэну марыянаў.

**1917** – У в. Запольле (Наваградзкі пав.) нарадзілася Вера Шостак, беларуская настаўніца, актывістка нацыянальнага руху.

**1922** – У в. Пілкі (Мастоўскі р-н), нарадзіўся Георгі Тарасевіч, беларускі архітэктар, грамадзкі актывіст.

## 18 сьнежня

**1771** – У Ляхавічах нарадзіўся Францішак Ксаверы Несялоўскі, удзельнік паўстаньняў 1794 (ваяваў на Гарадзеншчыне), 1830 гг. Меў родавы маёнтак у Варончы (Карэліцкі р-н).

**1934** – У Вільні памёр Альбін Стаповіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст. Нараджэнец в. Барані (Астравецкі р-н). Пахаваны на могілках Роса.

## 19 сьнежня

**1942** – У Слоніме гестапаўцамі былі расстраляныя каталіцкія манашкі Багуміла Найшэўская, Марта Валоўская і ксёндз Адам Старк.

**1964** – У вёсцы Лаша (Гарадзенскі р-н) адчынены мемарыяльны музей Яўхіма Карскага.

## 20 сьнежня

**1840** – У в. Дэмбрава (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Казімер Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**1890** – У Гародні нарадзіўся Юзаф Ядкоўскі, польскі археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер, музеязнавец.

**1937** – У Менску НКВД расстраляны Васіль Дружчыц (Друшчыц), беларускі гісторык, педагог. Вучыўся ў Жыровічах.

**1997** – Выйшаў першы нумар бюлетэню "Мастоўскі веснік". Усяго выйшла больш 100 нумароў, рэдактар Язэп Палубятка.

## 21 сьнежня

**1812** – У Гародню ўвайшоў атрад расейскага войска на чале з Дзянісам Давыдавым.

**1918** – У Гародні на паседжанні Рада БНР стварае Раду Дзяржаўнай абароны на чале з Вацлавам Ластоўскім і Кіпрыянам Кандратовічам.

**1981** – Памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, беларускі сьпявак, педагог, дзеяч эміграцыі. Нараджэнец в. Несьцяровічы (Сьвіслацкі р-н). Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках.

## 22 сьнежня

**1798** – У Вільні памёр Джузэпэ Сака (нар. у 1735 у Вероне), італійскі архітэктар, які працаваў на Віленшчыне і Гарадзен-

шчыне. Пахаваны ў Гародні на старых каталіцкіх могілках (паводле інш. зьвестак у сваім маёнтку Дубасьня пад Беластокам).

**1924** – На Навагрaдчыне нарадзіўся Міхась Кожыч, беларускі настаўнік, кіраўнік арганізацыйнага аддзелу Саюзу Вызваленьня Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў. Жыў і працаваў у Любчы, Навагрaдку, Поўберагу.

**1932** – У Заходняй Беларусі пачало дзеіць Таварыства Беларускай Асьветы (ТБА). Дзеіла да жніўня 1937.

**1937** – У турме НКВД г. Алматы (Казахстан) расстраляны Янка Вярсоцкі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. Нараджэнец мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н)

**2001** – У Менску памёр Уладзіслаў Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, перакладнік літургічных тэкстаў на беларускую мову. Пахаваны ў мяст. Вішнева (Валожынскі р-н) каля касьцёлу. Нараджэнец засьценку Амбружын (Ашмянскі р-н).

## *23 сьнежня*

**1796** – У в. Вярховічы (Камянецкі р-н) нарадзіўся Віктар Гельтман, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы, разам з братам Язэпам стварыў у 1819 у Сьвіслацкай гімназіі тайную патрыятычную арганізацыю.

**1918** – Памёр Лейб Найдус, габрэйскі паэт, перакладнік. Быў пахаваны ў Гародні на габрэйскіх могілках (цяпер на іх месцы стадыён “Нёман”).

## *24 сьнежня*

**1761** – Нарадзіўся (Пазнаньскае ваяв., Польшча) Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794.

**1798** – На хутары Завосьсе (верагодней усяго Навагрaдзкі р-н) нарадзіўся Адам Міцкевіч, польска-беларускі паэт, асьветнік, філамат.

**1809** – У Вільні памёр Канстанцін Атасельскі (нар. каля 1739 г. у Львове), тэатральны мастак, майстар дэкаратыўнага жывапісу. Працаваў у Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н).

**1900** – У Слоніме нарадзіўся Яўген Леашэня, вайсковец, беларускі краязнавец.

**1942** – У Трасьцянцы пад Менскам нацыстамі расстраляны Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, ідэоляг беларускага нацыянальнага руху. Нараджэнец в. Шурычы (Сьвіслацкі р-н).

**2009** – У Гародні памёр Георгі Тарасевіч, беларускі архітэктар, грамадзкі актывіст. Нараджэнец в. Пілкі (Мастоўскі р-н). Пахаваны ў Гародні.

## 25 сьнежня

**Каляды (Божае Нараджэньне)** паводле грыгарыянскага календара.

**1844** – Памёр Адам Храптовіч, асьветнік, удзельнік паўстаньня 1794, мецэнат мастацтваў і навукі. Заснаваў у Шчорсах буйную пачатковую школу.

**1919** – У в. Дзетамля (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Мярляк, беларускі грамадзка-культурны-рэлігійны дзеяч, дзеяч БНР у эміграцыі (Італія, Аргентына, ЗША).

**1998** – Адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі (насельніцтва склала 10.045.200 чалавек (зь іх 8.159.100 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

## 26 сьнежня

**1940** – Пасьля зьбіцьця невядомымі памёр Баляслаў Пачопка, беларускі культурна-асьветніцкі і рэлігійны дзеяч. Працаваў дырэктарам Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі.

**1978** – У Лёндане памёр Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт, эмігрант (Італія, Вялікабрытанія). Пахаваны на могілках Сэн-Панкрас.

## 27 сьнежня

**1836** – У мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году.

**1859** – У Беластоку нарадзіўся Лазар Замэнгоф, лекар, вынаходнік мовы эсперанта. Пэўны час жыў у Гародні.

**1892** – Нарадзіўся (Лідзкі пав.) Міхал Борык, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1933 служыў у Смургонях, у 1933-38 – у Нястанішках (Смургонскі р-н).

**1906** – У Адэсе (Украіна) нарадзілася Іна Каханоўская (дзявочае Рытар), беларуская грамадзкая дзяячка, эмігрантка (ЗША). У час нямецкай акупацыі працавала настаўніцай у Ярэмічах (Карэліцкі р-н).

**1918** – Рада БНР на чале з Антонам Луцкевічам пераехала ў Гародню.

**1924** – Памёр Леў Бакст (Розэнберг), парыжскі жывапісец і графік, тэатральны мастак, заканадаўца моды. Нараджэнец Гародні.

**1925** – У Атэнах (Грэцыя) памёр Зыгмунт Мінейка, удзельнік паўстаньня 1863-64, беларускі і грэцкі грамадзкі дзеяч, этнограф, калекцыянер, мемуарыст. Нараджэнец в. Балванішкі (цяпер Зялёны Бор, Ашмянскі р-н).

## 28 сьнежня

**1588** – Гародня згодна з пастановай Кракаўскага сойму стала цэнтрам каралеўскай эканоміі (была ім ажно да 1795).

**1882** – У маёнтку Лябёдка (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Тодар Іваноўскі (Тадас Іванаускас), беларуска-летувіскі заолаг, педагог.

**1908** – Каля Гудагая (Астравецкі р-н) быў зафіксаваны землятрус моцнасцю 6-7 балаў па шкале Рыхтара.

**1932** – Памёр Зыгмунт Штафінскі, каталіцкі сьвятар, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху 20 ст. З 1922-га служыў у Ашмянскім дэканаце, у 1930-31 – вікарыем у Дзятлаве.

**1988** – У ЗША памёр Аляксандар Стагановіч, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, удзельнік БНС, эмігрант (Нямеччына, ЗША). Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку (ЗША). Нараджэнец в. Нясутычы (Наваградзкі р-н).

## 29 сьнежня

**1987** – Памерла Яніна Жэймо, акторка тэатру і кіно. Нараджэнка Ваўкавыску.

## 30 сьнежня

**1879** – У Гародні нарадзіўся Якуба Чэхаўскі, беларускі атлет і барэц.

**1884** – Адкрыты рух па чыгунцы Вільня-Ліда-Лунінец.

**1911** – У в. Марцянаўцы (Ваўкавыскі р-н) нарадзілася Лідзія Ялоўчык (у замужжы Лісок), беларуская пісьменьніца, паэтка, педагог.

**1975** – У Жупранах (Ашмянскі р-н) усталяваны помнік Францішку Багушэвічу, у Кушлянах (Смургонскі р-н) адчынены Дом-музей паэта.

## 31 сьнежня

**1802** – У мяст. Падароск (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Максіміліян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.

**1916** – У Варшаве (?) памёр Казімер Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64. Нараджэнец Дэмбрава (Шчучынскі р-н).

**1991** – У Гародні памёр Юры Астроўскі, беларускі біяхімік, акадэмік, грамадзкі дзеяч, пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў. Працаваў у Слоніме і Гародні.

## Абрэвіятуры:

**БАЗА**

**БКА** – Беларуская Краёвая Абарона

**БНР** – Беларуская Народная Рэспубліка

**БНС** – Беларуская Народная Самапомач

**БНФ** – Беларускі Народны Фронт

**БЦР** – Беларуская Цэнтральная Рада

**ВКЛ** – Вялікае Княства Літоўскае

**ГУЛАГ** – Главное Управление Лагерей

**КПЗБ** – Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі

**КХП** БНФ – Кансэрватыўна Хрысьціянская Партыя Беларускі Народны Фронт

**НКВД** – Народный Комиссариат Внутренних Дел

**СБМ** – Саюз Беларускай Моладзі

**СШ** – Сярэдняя Школа

**ТБШ** – Таварыства Беларускай Школы

## Скароты:

**в.** – вёска
**верас.** – верасень
**вобл.** – вобласьць
**вол.** – воласьць
**г.** – горад
**губ.** – губэрня
**жн.** – жнівень
**зьв.** – зьвесткі
**інш.** – іншы
**кастр.** – кастрычнік
**крас.** – красавік
**ліп.** – ліпень
**ліст.** – лістапад
**лют.** – люты
**м.** – маёнтак
**мяст.** – мястэчка
**нар.** – нарадзіўся
**пав.** – павет
**пам.** – памёр
**прасп.** – праспэкт
**р-н** – раён
**сак.** – сакавік
**сапр.** – сапраўднае
**ст.** – стагоддзе
**стан.** – станцыя
**студз.** – студзень
**Сьв.** – Сьвяты
**сьнеж.** – сьнежань
**фальв.** – фальварак
**чэрв.** – чэрвень

# Паказьнік асобаў:

## В



## Г

## С

## Т



## У



## Ф



## Х



## Ц

**Шукайце кнігі з лагатыпам “ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ” ў кнігарнях, інтэрнэт-кнігарнях, а таксама ў прыватных распаўсюднікаў:**

**«Гароднія** X — XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам»
**Юры** ГАРДЗЕЕЎ «Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.)»
**Аляксандр** КРАЎЦЭВІЧ «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248—1341)»
**Зоська** ВЕРАС «Я помню ўсё»
**Наталля** МАЛІНОЎСКАЯ–ФРАНКЕ «Забыты вернісаж». Творчасць мастакоў Гарадзеншчыны 1860–х — 1930–х гг.
**Зянон** ПАЗЬНЯК «Добрая фатаграфія»
**Ларыса** ГЕНІЮШ «Лісты з Зэльвы»
**«Гродназнаўства.** Гісторыя еўрапейскага горада»
**Біяграфія** гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы
**Васіль** БЫКАЎ. «Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі»
**Юры** ГАРДЗЕЕЎ «Магдэбургская Гародня»
**Данута** БІЧЭЛЬ «Хадзі на мой голас»
**Пётр** СЯЎРУК «Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху»
**Аляксей** КАРПЮК «Развітанне з ілюзіямі»
**«Зрабаваны** народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі»
**Алесь** КРАЎЦЭВІЧ «Рыцары і дойліды Гародні»
**Сяргей** ШАПРАН «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця» Т. 1—2
**Апанас** ЦЫХУН «...Улюбёны я ў сваю зямлю»
**Дзмітры** ЛЮЦІК «Нёманскі Фронт. 12—25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна
**ў** данясеннях, успамінах, статыстыцы»
**Юры** ГУМЯНЮК «Назаві мяне геніем»
**Гародня. 50 год** без Фары Вітаўта (мультымедыйны дыск)
**DZIECIUKI** «Гарадзенскі гармідар» (дыск)

**Серыя «Сучасная гарадзенская проза»**
**Віктар** ШАЛКЕВІЧ «Рэквіем па непатрэбных рэчах»
**Аркадзь** ЖУКОЎСКІ «Галс»
**Віктар** САЗОНАЎ «Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі»
**Валянцін** ДУБАТОЎКА «Чорная воля»
**Віктар** САЗОНАЎ «Паэзія прозы»

**Серыя «Краязнаўства Беларусі»**
**Уладзімір** ХІЛЬМАНОВІЧ «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны»

**Матэрыялы міжнароднай навуковай гістарычнай канферэнцыі**
**«Гарадзенскі палімпсест»** — 2008, 2009, 2010, 2011, 2012, 2013

**Гарадскі гістарычна–культуралагічны часопіс**
**«Гарадзенскі** гадавік — 2012»
**«Гарадзенскі** гадавік — 2013»